# КРЫНІЦА

*Штомесячны літаратурна-культуралагічны часопіс*

## 9(55)-1999

**Ты** — Алег БЕМБЕЛЬ 3

**У нас** — Інеса ТАРАСАВА 59

**Я маю твор...** — Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ 63

**У нас** — Міхась ЮЖЫК 64

**Я маю твор...** — Воля ГАПЕЕВА 84

**У нас** — Вінцэсь МУДРОЎ 85

**У нас** — Ігар ПРАКАПОВІЧ 101

**Ён** — АРЫСТАФАН 107

**У нас** — Міхась БАЯРЫН 156

**Я маю твор...** — Васіль БАРЫСЮК 164

**У нас** — Віктар ПРАЎДЗІН, Ірына ШАЎЛЯКОВА 165

**Я маю твор...** — Таццяна КОПЫЦЕВА 182

**Яно** — Анатоль ДЭБІШ 183

**Я маю твор...** — Юры ЧАРНЯКЕВІЧ 190

# КРЫНІЦА № 9(55)
# 1999

Штомесячны
літаратурна-культуралагічны часопіс
Выдаецца са студзеня 1988 года

Заснавальнікі:
калектыў рэдакцыі, Саюз беларускіх пісьменнікаў

Рэгістрацыйны нумар 630 ад 31 ліпеня 1996 года



Выдаецца на беларускай мове
Рукапісы аўтарам па пошце не вяртаюцца

**Пішыце:**
**220807, г. Мінск, ГСП, вул. Кісялёва,11**

**Звaніце:**
**2-366-113, 2-366-142**

Падпісана да друку з арыгінала-макета 25.10.99. Фармат 60x84 1/16.
Афсетны друк. Папера друкарская № 2. Ум.-друк.арк. 11,16.
Ум.фарба.-адб. 11,27. Ул.-выд.арк. 11,2. Кошт дагаворны.
Тыраж 600 экз. Зак. 2609.

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў друкарні выдавецтва
«Беларускі Дом друку», 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.



# Алег БЕМБЕЛЬ

*... зямную сцяжыну заверши
раскаяным сэрцам, найперш...
маленні – вышэй за вершы...
хай стане маленнем – верш!...*

## З паслушнікам Жыровіцкага манастыра Алегам БЕМБЕЛЕМ гутарыць Юрась ЗАЛОСКА

*На пачатку "мітынговага" адраджэння канца 1980-х Алега Бембеля – аўтара нашумелай кнігі "Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс", што выйшла ў Лондане, – мог пазнаць кожны па знешнім выглядзе, у якім спалучаліся сучасная марынарка, стужка на лбе і валасы, адгадаваныя, як у хрысціянскіх пустэльнікаў... Алег быў накшталт юродзівага як у культурным жыцці, так і ў паэзіі: яго ніхто не ўспрымаў за "нармальнага" адраджэнца (з-за рэлігіі) і за нармальнага паэта (таксама з-за рэлігіі). Ён быў адзінотнікам, і яго ўнутраная рэчаіснасць падавалася скарбам, што насіўся ў "гліняным посудзе", і ніхто да яе доступу не меў.*

*Увосень 1996-га гэты чалавек – інтэлектуал і паэт – стаў паслушнікам Свята-Успенскага Жыровіцкага манастыра, здзейсніў чарговы ЎЧЫНАК, даючы тым самым сведчанне аб рэчаіснасці, схаванай у ім, аб скарбе, якому належыць сэрца.*

*Істотная рэч: чалавеку, для якога рэлігія застаецца справай знешняй, быційна, як кажуць, немагчыма паразумецца з асобай, існуючай у рэчаіснасці і рэальнасці веры. Дыялогу сутнаснага не атрымаецца. Толькі таму, што рэальнасць веры для аўтара гэтай гутаркі ад пэўнага часу – унутрана дадзена з Божай ласкі, асмельваюся гутарыць з братам Алегам Бембелем.*

**Юрась ЗАЛОСКА**

**Ю.З.** – Алег, прапаную пачаць нашу гутарку адразу з істотнага – з веры, паколькі з ёй, відаць, будзе звязана шмат што іншае, калі не ўсё. Непазбежныя пытанні: як ты прыйшоў да веры? Калі? Праз каго? (Бо да праваслаўя прыходзяць **толькі** праз кагосьці, г.зн. Царкву). Лёгка дапусціць, што ў савецкай рэчаіснасці, фактычна, стаць вернікам – нават выхадцу з элітарнага мастацкага асяроддзя – было, як кажуць, анталагічна немагчыма. Партыя, савецкі рэжым, атэізм... Гэта парыжская эміграцыя нязмушана працягвала традыцыю жывой праваслаўнай веры, а ў нас хто – царкоўная іерархія ды "бабулькі"... Цалкам апрыёры дапускаю нейкі выпадак цуду ў тваім жыцці. Зрэшты, **іншых** шляхоў для веры ўнутрана рэальнай, пераканаўчай, няма: яна – Божы дар, г.зн. тое, што заўжды неспадзявана **даецца** ў адказ на нашу прагу да Бога.

**А.Б.** – ...

*хто – у бязбожнае стыхіі*
*мяне з маленства ў Храм гукаў?..*
*цярпліва песціў і... чакаў?.. –*
*то – цётачка Анастасія...*

Анастасія Анатольеўна Дзядок (1904 – 1982 гг.) (родная сястра маёй маці – скульптара Вольгі Анатольеўны Дзядок (1906 – 1974гг.) – была той жывой нітачкай, якая Божым Помыслам звязала мяне з духоўнасцю дабальшавіцкага часу. З гомельскіх гімназістак яна трапіла на пачатку 20-х гадоў у Піцерскі інстытут імя Лесгафта. Там – адразу ж далучылася да рэлігійна-філасофскага гуртка, які ўзначальваў вядомы прафесар Аляксандр Аляксандравіч Маер. Праз колькі гадкоў гэты гурток бальшавікі "спарадкавалі": прафесара – на Салаўкі, адкуль ён не вярнуўся, а юных ягоных выхаванак – у Архангельскую губерню, адкуль некаторыя, у тым ліку й мая цётачка Анастасія, дзякаваць Богу, вярнуліся. Жывучы ў Гатчыне (пад Піцерам), яна, незадоўга да вайны, нарадзіла двух сыноў – Анатоля і Уладзіміра. Гас-

падар яе, Фёдар Міхайлавіч Смірноў, афіцэр Чырвонай Арміі, загінуў у апошнія дні вайны...

Цётачка, з малодшым сынам Уладзімірам (на год ад мяне маладзейшым), пераехала ў Мінск і пачала выкладаць тэорыю фізічнага выхавання ў Мінскім інстытуце фізкультуры. Пры гэтым яна адкрыта і пастаянна хадзіла ў Царкву.

Я вельмі любіў сумовіцца з цётачкай Анастасіяй. Гадзінамі, бывала нават – днямі, амаль без перапынку. І гэта было з малых гадоў (першых пасляваенных) да 15 красавіка 1982 года, калі цётачка на руках малодшага свайго сына і на маіх вачах адышла да Госпада.

Цётачка Анастасія была прыхільніцай тэорыі Хрысціянскага камунізму. Сама з сям'і сялянкі й чыгуначніка, яна лічыла, што "багатыя", сапраўды, саграшылі, бязбожна абыходзіліся са сваім багаццем, не шкадавалі "бедных". І Гасподзь справядліва папусціў рэвалюцыю. Пры гэтым у рэвалюцыі былі й асобныя "перагібы" (у тым ліку і... яна сама са сваім рэлігійным гуртком і прафесарам). Таксама і атэізм яна лічыла часовым "заблуджэннем", ад якога грамадства, з цягам часу, паступова вызваліцца. Ёй нават некалькі разоў прапанавалі ўступіць у партыю. Яна адказвала, што – з радасцю. Але толькі – разам з Хрыстом і з Царквою. Калі яе такую – возьмуць, яна ахвотна ўступіць.

Яна была пастаяннай падпісчыцай "ЖМП" (Журнал Московской Патриархии), атрымлівага яго прама ў Храме, часам з рук самога Мітрапаліта Антонія, з якім была ў добрых адносінах у час яго служэння ў Мінску. (Мітрапаліт Антоній (Мельнікаў) да гэтага быў намеснікам Жыровіцкай Абіцелі і напісаў грунтоўную трохтомную працу па яе гісторыі.) Цётачка Анастасія рэгулярна прапаноўвала мне на прагляд самыя цікавыя, на яе думку, матэрыялы "ЖМП" ды іншую духоўную літаратуру. Яна ж першая звярнула маю ўвагу ў 1978 годзе на маладога й бліскучага Ўладыку Філарэта, які стаў тады Мітрапалітам Мінскім і Беларускім і – абліччам, голасам, казаннямі – зачараваў мяне з першага разу й на ўсё астатняе жыццё...

Цётачка першай далучыла мяне да Дастаеўскага. У 17 гадоў я прачытаў "Братоў Карамазавых". "Легенда пра Вялікага Інквізітара" і вобраз Алёшы Карамазава сталі, можна сказаць, ядром усіх маіх далейшых духоўных пошукаў. Вобраз Алёшы быў, здавалася, заведама недасягальным для мяне ідэалам, а праз "Легенду пра Вялікага Інквізітара" я адчуў трагічную тайну ўзаемін Хрыста і свету...

Але бунтоўная мая натура і асяродак, у якім я выхоўваўся – перш за ўсё бацька, скульптар Андрэй Ануфрыевіч Бембель, які паходзіў з глыбока рэлігійнай праваслаўнай сям'і (у дзяцінстве ён спяваў на клірасе), але раптам, у зусім юныя гады, адышоў ад веры і, закончыўшы Піцерскую Акадэмію мастацтваў, стаў вядомым скульптарам і грамадскім дзеячам – усё гэта рабіла сваё. Змалку я не быў хрышчоны.

Ахрысціўся я толькі ў сорак два гады, тайна, на кватэры Святара, будучы ўжо членам КПСС і навуковым супрацоўнікам інстытута філасофіі і права Беларускай Акадэміі навук: 13 красавіка 1982 года, за дзень да смерці цётачкі Анастасіі. Прыйшоў я да яе 15 красавіка, літаральна за гадзіну да яе адыходу. Яна ўжо задыхалася на руках сына Уладзіміра і была, здавалася, непрытомнай. Я сядзеў побач, не ведаючы, як сябе трымаць і што рабіць. Нарэшце, я схіліўся да яе вуха і прашаптаў: – Цёця Стася, я ахрысціўся... Яна ймгненна й радасна раскрыла вочы і выдыхнула: – Когда?.. – Пазаўчора...

Яна заплюшчыла вочы. Губы ледзь заўважна ўсміхаліся... І літаральна праз некалькі ўздыхаў, кароткіх і неглыбокіх, зацiхла...

Я пайшоў крыху "іншым шляхам", чым мая цётачка Анастасія: я ўступіў у партыю ў 1970 годзе. І ахрысціўся, будучы членам КПСС, як я ўжо казаў, у 1982-м. Да гэтага я імкнуўся захоўваць пэўную дыстанцыю – і ад **зямной** Царквы, і ад "роднай партыі". Цётачка, часам, казала на гэта: – Не кажется ли тебе, дорогой мой, что такая позиция слегка напоминает известную поговорку: "ни Богу свечка, ни черту кочерга"?.. Мне так не здавалася; я быў апан-

таны ідэяй стварыць "вышэйшую сынтэзу" – з разгорнутай на маіх вачах барацьбы "двух диалектических противоположностей": партыі й **зямной** Царквы. Перада мной быў і прыклад жывы іх "мирного сосуществования": цётачка й бацька, два самыя блізкія мне чалавекі – разам з матуляй маёй, якая жыла, можна сказаць, у няўпынным стане б о г а п а к і н у т а с ц і, але з нязгаснай прагай спасцігнуць сэрцам сваім "тайну мироздания", – дык вось, цётачка й бацька не толькі мірна суіснавалі, але й у застоллях, часам, сядзелі побач. Я думаў: а чаму так не могуць жыць партыя і **зямная** Царква?.. І вось гэтыя д в а г а л а с ы сардэчныя – дваіх аднолькава любых мне людзей – цётачкі й бацькі, – памаліўшыся, я паспрабаваў аб'яднаць у поліфанічную цэласнасць, амаль што блокаўскую:

*... так идут державным шагом...*
*позади – голодный пёс...*
*впереди – с кровавым флагом,*
*и за вьюгой невидим,*
*и от пули невредим,*
*нежной поступью надвьюжной,*
*снежной россыпью жемчужной,*
*в белом венчике из роз –*
*впереди – Иисус Христос...*

**Ю.З.** – Мне здаецца, што твой унутраны свет ніколі адэкватна не быў выяўлены ні ў навуцы, ні ў паэзіі; цяпер вось ты спрабуеш шлях рэлігіі – як кажуць, у чыстым выглядзе... Аднак жа: чым для цябе была г.зв. нацыянальная справа ў 70-я, 80-я гады – апошняй ісцінай, ці – аспектам чагосьці больш важнага, больш глыбіннага? Наколькі ўжо тады істотнай у тваім жыцці была вера? Задаю гэтае пытанне, добра дасведчыўшы, наколькі моцна "культурныя праекты" заахвочваюць і рэалізуюць г.зв. "тщеславие", асабістую гордасць, мітуслівыя пошукі свецкай вядомасці – не святога...

**А.Б.** – За навукай і паэзіяй ты ўпусціў асноўнае: м у з ы к у... У 18 гадоў, будучы ўжо студэнтам Беларускага політэхнічнага інстытута (энергафак, цеплаэнергетычныя ўстаноўкі электрастанцый), я ўпершыню пачуў санаты Бетховена: “Патэтычную” і “Appassionat”-у. Я быў настолькі ўражаны, што, як кажуць, свет у мяне паплыў перад вачамі...

У музычнай школе-сямігодцы я вучыўся ў прамым сэнсе з-пад бізуна: мама вешала папружку ля піяніна на крэсла, за якое садзіла мяне, і, выціраючы слёзы з клавішаў, я вучыў ненавісныя мне, зануднейшыя, як мне здавалася, п’есы ды эцюды. Не ў сіле бунтаваць адкрыта, я толькі паўтараў: скончу 7 класаў – і ніколі ў жыцці да піяніна не падыду... Мама адказвала: – Поумнеешь – ещё благодарить будешь...

Скончыўшы ў 14 гадоў музычную школу, я сапраўды вельмі рэдка падыходзіў да інструмента... І вось – узрушэнне, з якім можна было параўнаць толькі леташняе адкрыццё Дастаеўскага...

Я ўсё закінуў: гулянкі, футбол, у які апантана ганяў да гэтага, не кажучы ўжо пра вучобу ў БПІ, які я разглядаў як часовы прытулак, пакуль практычна не вызначуся ў жыцці...

І я цэлымі днямі пачаў развучваць... “Патэтычную санату”. Якая гэта была пакута для маіх блізкіх, я й не здагадваўся. Для мяне ж наступіў час няўпыннага натхнення й заняткаў за інстументам да поўнае знямогі...

За год я падрыхтаваў праграму для паступлення ў Мінскае музычнае вучылішча, летам 1959 г. здаў экзамены на вячэрняе аддзяленне. Пакінуў БПІ я ў сярэдзіне 4-га курса, калі ўжо пачалася спецыялізацыя, якая мне была зусім непатрэбная.

Але ж і с л о ў н а е самавыяўленне, асабліва пасля таго, як, ужо ў Беларускай кансерваторыі, пачаліся лекцыі па філасофіі, – запатрабавала сваё. Гасподзь даў нам – у сярэдзіне 60-х гадоў! – цікавага маладога выкладчыка філасофіі, не зануду, даволі смелага па тых часах, які не

замінаў мне рыхтаваць рэфераты па Ніцшэ й Шапэнгаўэру. І вось гэтыя два музыкі слова ўзрушылі мяне не менш ад Бетховена й Шапэна. Я ледзьве не ўсяго перапісаў сабе “Заратустру” (“Так прамаўляў Заратустра”). А ў Шапэнгаўэры ў перакладзе Фета я проста “купаўся” – як у жывой і трагічна-трывожнай сімфоніі...

І да музыкі нацыянальнай – Беларускае Мовы – я прыйшоў менавіта праз **яе** (мовы) музыку, – (і праз папярэдняе адчуванне музыкі самой па сабе...).

Гармонія нацыянальнага і інтэрнацыянальнага (і іх дысанансы) раптам адкрылася ва ўсёй паўнаце й цэласці – па аналогіі з гармоніяй Музыкі як “прамой Мовы Бога”, як найбольш універсальнай і жывой мадэлі існага.

Нацыянальную тэму я пачаў, калі паступаў, пасля кансерваторыі, у аспірантуру інстытута філасофіі і права Беларускае Акадэміі навук. Тэмай уступнага рэферата я выбраў: “творчы метад кампазітара ў адносінах да яго светагляду (на прыкладзе творчасці Рыхарда Вагнера)”.

Але раптам мой бацька, сябрам якога быў тагачасны дырэктар Інстытута філасофіі і права АН Казімір Паўлавіч Буслаў, кажа мне: – Казімір Паўлавіч зацікаўлены, каб тэмай дысертацыі ты ўзяў сабе праблему нацыянальнага і інтэрнацыянальнага ў культуры. – І дадаў пры гэтым: – У культуры музычнай і беларускай. А такую тэму па-сапраўднаму можна раскрыць толькі на... беларускай мове...

Пачуць такое ад свайго бацькі ў 1971 годзе (калі ў сям’і, у гады маленства й юнацтва, я чуў беларускую мову толькі ад сваёй бабулі Хрысціны, якая памерла ў 1962 годзе), – было для мяне нечакана...

Рыхтуючыся ў аспірантуру, я ўспомніў і зусім па-іншаму адчуў і Багдановіча, і Шапэна – іхнюю нязбыўную тугу па далёкай Радзіме... А, вярнуўшыся ў 1971 г. у Мінск і пачуўшы бацькава: “толькі на беларускай мове”, сустрэўшы, ужо ў аспірантуры, у якасці свайго навуковага кіраўніка, Уладзіміра Міхайлавіча Конана (які, дарэчы, у кансерваторыі чытаў нам эстэтыку), – я адчуў і сапраўдны с о-

рам, сапраўдны грэх перад Бацькаўшчынай. Адчуў сябе ў поўным сэнсе нацыянальным блудным сынам.

Маё нацыянальнае пакаянне вылілася ў тое, што, памаленьку, дысертацыю сваю я пачаў рабіць па-беларуску, размаўляў з навуковым кіраўніком, а потым, патроху, і з калегамі – па-беларуску... Але ж самым няпростым быў пераход "толькі на беларускую мову"... у сям'і, дзе гэта ўспрынялі як чарговае маё "юродства"... Бацька, праўда, які сам фактычна мяне падштурхнуў на гэта, нічога пра маё беларускае маўленне ў сям'і, у тым ліку й з ім сам-насам, – не казаў. (Ён, відаць, і сам не чакаў такога радыкальнага павароту, мяркуючы, што я толькі дысертацыю буду пісаць па-беларуску)... Але праз некаторы час усе прывыклі, што іншай мовы ад мяне не чуваць, і толькі часам казалі: – А ты знаешь, у тебя это неплохо получается. Даже красиво. Если б мы так умели, мы бы тоже охотно говорили... – А хто вам замінае?.. – пытаю. – Ці баіцеся, што вас пасадзяць за гэта?.. – ... мы разам смяяліся, але ў сям'і маё маўленне так і засталося "самотным лямантам у пустыні"... Праз беларускую мову – калі я пачаў пісаць і беларускія вершы – я і да Бога людзей падводзіў крыху з нечаканага боку: нібыта акцэнт – на мове, а ў той жа час... Мае партыйныя й беспартыйныя сябры губляліся: што гэта – нацыяналістычная ці рэлігійная прапаганда?.. Шмат хто да гэтае пары не можа зразумець: хто я – "нацыяналіст" альбо "рэлігійны цемрашал"?..

**Ю.З.** – Калі ўпершыню ты дасведчыў канфлікт ці супярэчнасць нацыянальнага і рэлігійнага?

**А.Б. –** У хрысціяніна такі "канфлікт ці супярэчнасць" у прынцыпе немажлівы. "Няма ўжо ні Эліна, ні Іудзея, ні раба, ні свабоднага – бо ўсе вы – адно – у Хрысце Ісусе" – хіба не гэты – на ўсе часы й для ўсіх плямёнаў, хаўрусаў ды сацыяльных станаў катэгарычны імператыў Госпада?.. Усе плямёны

– божыя стварэнні. Як дзеткі ў Хрыстовай сям'і, яны павінны жыць дружалюбна, не крыўдзіць адно аднаго і слухаць свайго Бацьку Нябёснага. Быць "... кроткімі й змірэннымі сэрцам..." – як Сам Хрыстос, тады й "канфліктаў ці супярэчнасцяў" сур'ёзных не будзе. Тады ў кожным пытанні, у цярпенні, малітве ды пакаянні, ды ў любові да ворагаў, якую запаветаваў нам Гасподзь Ісус Хрыстос, – можна будзе памеркавацца...

Дарэчы, у Праваслаўнай Беларусі – ЛАГОДА – (б)ЛАГОДА(ть) БОЖАЯ – фундаментальная рыса нацыянальнага характару... Праваслаўная Беларусь, "... кроткая й змірэнная сэрцам...", як САМ ХРЫСТОС, – аніколі не стане падобнай да еўрапейскіх ды іншых бунтаўшчыкоў-рэвалюцыянераў... У гэтым, у пранясенні "... кротасці й змірэннасці сэрца...", у нязломнай любові да ворагаў і ЛАГОДЗЕ, – праз самыя лютыя спакушэнні гісторыі – мо ў гэтым і ёсць і мета-гістарычная, і проста сусветна-гістарычная місія Белай Русі?..

**Ю.З.** – Як было раней, у савецкія часы; зрэшты, як сёння ёсць з аднаверцамі, з асяроддзем веруючых людзей сярод мастацкай эліты – тваёй "прафесійнай" сферы? Чытаеш вершы, а там, праз радок, – Хрыстос, Хрыстос... Зразумела, што гэта – толькі метафара для аўтара, паколькі Хрыстос не рыфмуецца, Хрыстос "не слова, а сіла" (пар. I Кар. 4, 20). Альбо з'яўляюцца "абразы" Маці Божай, аўтар якіх адначасна – інсцэніроўшчык палітычных спектакляў на вуліцах... Як быць з унутранай сарамлівасцю нашых творцаў?

**А.Б.** – "Унутраную сарамлівасць нашых творцаў" Гасподзь ачышчае ў хвілі іхніх споведзяў і прычасцяў. Калі да споведзі й прычасця яны не ходзяць, – Бог ім суддзя ў любым выпадку. Мы можам толькі маліцца за іх, заказваць часцей с а р а к а в у с т ы – аб здароўі і ўратаванні душы, а таксама аб ацаленні ад цяжкае прывабнасці "своеумия" і свавольства... Упэўнены, цётачка мая Анастасія – Царства ёй Нябёснае – малілася т а к за мяне, акаяннага.

І ўсё ж такі – праз 50 гадоў блукання – блудны сын вярнуўся ў Божы дом...

Наогул, усіх нашых братоў-палітыканаў – і “прафесіяналаў”, і “аматараў” – я б (калі б я быў .....) накіроўваў мінімум на год на манастырскі послух – найлепей у Жыровічы... Упэўнены, пасля гэтага нашы палітычныя “дзеткі” значна лепей разумелі б, з а ш т о яны бяруцца – без уцаркаўлення – і якія новыя Божыя ўразумленні чакаюць іх і “малых сих”, якіх яны спакушаюць... Сапраўды, “зло павінна прыйсці ў гэты свет, але гора тым, п р а з к а г о яно прыходзіць”...

А што да Х р ы с т а – “праз радок”, як ты гаворыш, – дык, пагадзіся, што гэта, усё ж такі, лепей, чым ... Ленін і КПСС... Само імя Хрыстова – прамоўленае альбо выяўленае літарамі – ненавіснае духу цемрадзі...

**Ю.З.** – Увогуле, ці магчымы і наколькі можа быць эфектыўны дыялог чалавека жывой веры (паэта, навукоўца, мастака і г.д.) з чалавекам толькі “прафесійных інтарэсаў” (паэтам, навукоўцам, мастаком і г.д.)? Неяк так атрымліваецца, што быційна ўзнікае аб’ектыўны разрыў, hiatus паміж аднымі і другімі: не ў сэнсе звыклай прыязнасці, а ў сэнсе паразумення адносна ісціны... І якое выйсце знайшоў для сябе ты?

**А.Б.** – Вяла ж мая цётачка Анастасія, чалавек ж ы в о й в е р ы, дыялог з “чалавекам прафесійных інтарэсаў”, са мной – “своеумным” ды надзвычай свавольным, вяла не адзін дзесятак гадоў, пакорна й змірэнна, з няўпыннай малітвай... Пра вынікі й эфектыўнасць гэтага дыялога не мне меркаваць... Але выйсце для сябе самога я знайшоў на шляху... цётачкі Анастасіі: асабліва горача я малюся за тых, дыялог з кім пакуль што ў мяне не атрымліваецца...

**Ю.З.** – Як увогуле з вышыні Жыровіцкай Абіцелі ты глядзіш на творчасць, найперш паэтычную? Бо Гасподзь не дае трэцяга: мусіш альбо пайсці за ім на крыж (Мф. 16, 24; Лк. 14, 27), адпрэчыўшы **ўсё** (Лк. 14, 33), альбо –

застацца з нябожчыкамі апекавацца нябожчыкамі... У нейкім сэнсе тое, што звыкла завецца творчасцю, талентам і да т.п. – мне здаецца, у перспектыве рэлігіі **непазбежна** павінна перажыць метафізічную смерць, сыход у пекла – каб мець шанец уваскрэснуць зноў, у Госпадзе. Але ў Госпадзе нішто несапраўднае не ўваскрасае...

**А.Б.** – Скарыстаем *павелічальную мову* (Ул. Салаухін) радкоў:

*... зямную сцяжыну завершы*
*раскаяным сэрцам, найперш...*
*маленні – вышэй за вершы...*
*хай стане маленнем – верш!..*

...між іншым, белым в е р ш а м напісаныя Стары Запавет, Новы Запавет, псалмы, шмат што ў пісьмёнах Святых Айцоў, акафісты, каноны, малітвасловы – у тым ліку й нашыя ранішнія й вячэрнія малітвы... а наконт талентаў, памятаеш, што сказаў Гасподзь пра тых, хто закопвае таленты ў зямлю?..

**Ю.З.** – Як вядома, вышэйшая мэта хрысціянскага падзвіжніка – "священное безмолвие", г.зн. невымоўнае сузіранне рэчаў Боскіх у малітве духа, вышэй за гэта стаіць толькі дар дасведчання фаворскага святла... Святым пасля гэтага не хацелася гаварыць, бо словы толькі замінаюць сузіранню. Фактычна манастырская духоўнасць – а ты выбраў гэты шлях – накіравана на вышэйзгаданы святаайцоўскі ідэал. Як быць з паэзіяй, творчасцю?

**7. А.Б.:** – Ізноў скарыстаем... *павелічальную мову:*

## СХІМНІКАМ

(Напісана яшчэ ў камуністычны час,
надрукавана ў "САНАЦЕ РОСТАНІ")

*...Вас спакушае цэсар – разбэшчанай д'ябальскай думкай...*

*і дабрабытам...*
*і чымсьці толькі яшчэ...*
*а вы трымаеце с э р ц а г і с т о р ы і д у х а...*
*Боскай Самотай*
*спеў ваш*
*па жылах сусвету*
*цячэ...*

Узгадайма й словы Свяціцеля Ігнацція (Бранчанінава): "...оставил я мир не как односторонний искатель уединения или чего другого, но как любитель высшей науки; и эта наука доставила мне всё: спокойствие, хладность ко всем земным пустякам, утешение в скорбях, силу в борьбе с собою, – доставила друзей, доставила счастие на земле, какого почти не встречал... Религия, вместе с этим, обратилась для меня в поэзию и держит в непрестанном чудном вдохновении, в беседе с видимым и невидимым мирами, в несказанном наслаждении...".

**Ю.З.** – Трохі НАБЛІЗІМСЯ да канкрэтыкі. Што трэба для таго, каб застацца ў манастыры? Што ўяўляе сабой сучасная манастырская аскеза, лад жыцця паслушніка?

**А.Б.** – Тое, чым ужо другую тысячу гадоў жыве Праваслаўная Беларусь: П А С Л У Ш А Н Н Е. У чым адрозненне Праваслаўнага паслушання, скажам, ад Каталіцкага, вайсковага, лекарскага, крымінальнага?.. Шмат якіх яшчэ ёсць на зямлі паслушанняў (і не-паслушанняў)... Напэўна, у мэце... Сцяжанне Духа Святога – тая запаветная мэта, дзеля якой Праваслаўныя людзі вось ужо амаль два тысячагоддзі пакідаюць свет і ідуць иа манастырскі послух...

А каб застацца ў манастыры, павінна быць неадольная прага Духа Святога. Тады ўсе спакушэнні свецкія раптам стануць абрыдлымі, нямілымі, пустымі... І блудны сын адчувае, што надышоў час вярнуцца ў Бацькоўскі Дом... Гэта – у сэрцы. А ў часе трэба трымацца наступнага:

Пад'ём – 5.30. 6.00—8.30 – ранішняе Богаслужэнне. 8.30—9.00 – сняданак. 9.00—13.00 – паслушанні. 13.00—14.00 – абед, адпачынак. 14.00—17.00 – паслушанні. 17.00—18.00 – адпачынак і падрыхтоўка да вячэрняга Богаслужэння. 18.00—20.30 – вячэрняе Богаслужэнне. 20.30—21.00 – вячэра. Потым – Хросны ход з іконай Багародзіцы вакол цэнтральнай часткі Манастыра і вячэрнія малітоўныя правілы. 22.00—23.00 – адпачынак, падрыхтоўка да наступнага дня, келейныя малітвы. 23.00 – адбой.

**Ю.З.** – Ты не мог не перажыць на пачатку звароту да Бога перыяду ўзмоцненага пакаяння (хоць гэта для верніка стан перманентны). Мяркуючы са свайго вопыту, у такія перыяды ўсялякае знешняе жыццё фактычна спыняецца ці толькі вымушана імітуецца, – каб потым набыць новую якасць. Цяпер, у наш час, вера практычна нічым чалавеку не пагражае. Але калісь чалавек вымушаны быў прымаць жорсткія рашэнні і адносна сваёй працы, і адносна блізкіх... Напэўна, тэма гэтая балючая, аднак: што цябе ўратавала ў падобнай сітуацыі?

**А.Б.** – Зразумела, Гасподзь уратаваў. Іншая справа: якім чынам?.. праз каго ці праз ш т о?.. Вонкава мяне злёгку прыкрывала "канцэпцыя **ўмеранага** юродства", як я цяпер гэта для сябе пазначаю. І, зразумела ж, – бацька!.. Каб не ягоны наменклатурна-"ядзерны" парасон – мокрае месца засталося б ад таго ўзнёсла-палымянага і наіўнага "цялёнка", якому здалося, што ён можа, адпусціўшы бараду, – не, не "бадацца з дубам", – а проста зрабіць з яго... і н ш а е д р э в а!..

У 1963—1964 гг. – (гэта быў час майго паступлення й вучэння на 1-м курсе Беларускае кансерваторыі, а ў палітыцы – пераход ад хрушчоўскае "адлігі" да брэжнеўскага "застою") – па руках маіх сяброў і проста знаёмых хадзілі некаторыя мае тэксты. У тым ліку мой машынапіс, памерам мо якіх паўтара аркуша, які я сам множыў на папяроснай паперы (адна закладка – 10—12 больш-менш чытэль-

ных асобнікаў). На тытульным лісце значылася: Олег Безумный. ПОЭМА ЛЮБВИ. Иисусу Христу, Сыну Человеческому. Свободным душам всех наций, которые страдают, борются и побеждают. Тэкст складаўся з прадмовы: МАЛЕНЬКИЙ ИНКВИЗИТОР, – напісанай у форме “двух разговоров” маладога чалавека і маленькага інквізітара, – і асноўнай, трохчасткавай “санатна-сімфанічнай” кампазіцыі, напісанай белым вершам – як спавядальна-прарочы маналог маладога чалавека, якому адкрыліся тайніцы ўсясветнае Гармоніі...

Паэма мая вельмі хутка трапіла “куды трэба”...

Бацьку майго паклікалі “наверх” і сказалі прыкладна так: – Андрэй Ануфрыевіч, мы Вас вельмі паважаем і цэнім. Але калі Вы хочаце, каб Ваш сынок быў жывы й здаровы, і, галоўнае, на волі, – пагаварыце з ім сур’ёзна, каб у сваім “юродстве” ён не перабіраў меры. Іначай меры вымушаны будзем прыняць мы...

І бедны мой бацька – белы, як палатно, якім я яго ніколі дагэтуль не бачыў (чаму ён тады быў такі, я даведаўся толькі праз некалькі гадкоў пасля яго смерці, калі ў “ЗВЯЗДЗЕ”, сярод іншых, былі апублікаваны імёны трох родных братоў ягонага бацькі, майго дзеда Ануфрыя Емяльянавіча Бембеля – Пятра, Васіля ды Івана, расстраляных у Сібіры, куды яны былі сасланы, у 1937 годзе; пра гэтую сямейную тайну бацька ніколі не абмовіўся са мной аніводным слоўцам), – бедны бацька паклікаў мяне ў сваю майстэрню (тады сядзіба ягоная была яшчэ на Беламорскай вуліцы, метрах у ста ад цяперашняй, забранай) – для сур’ёзнага “прамывання мазгоў”. Вельмі цяжка яму было весці са мной дужа нямілую яму самому размову аб тым, што трэба “правільна мысліць” і, асабліва, паводзіць сябе між людзей. Стаміўшыся ад сур’ёзна-зануднага тону, ён, нарэшце, сам перайшоў ва ўласцівую яму танальнасць дасціпна-жартоўную і сказаў: – ...Ты же не хуже меня знаешь, что мыслящих людей у нас, к сожалению, значительно меньше, чем *инако*мыслящих... – тут ён заліўся сваім раскацістым рогатам і... наліў кропельку-дру-

гую каньячку – для замацавання вынікаў нашае размовы...

Выбар, як я пазней даведаўся, быў перад бацькам пастаўлены вельмі жорсткі: "псіхушка" альбо краты – для любімага сыночка і, мажліва, "усур'ёз і надоўга"... Бацька ўзяў мяне пад сваю асабістую адказнасць і апекаванне...

Пакуль, нарэшце, я не надумаў зрабіць радыкальны паварот ва ўзаемінах са сваімі "апанентамі": пачаў збіраць рэкамендацыі для... уступлення ў КПСС!.. Але здабыць мне ўдалося толькі адну рэкамендацыю (даў мне яе выкладчык музычнае школы, у якой мы разам працавалі; у кансерваторыі я вучыўся на вячэрнім аддзяленні і выкладаў фартэпіяна ў школе-сямігодцы). Бацькавы сябры, да якіх я звяртаўся і ў якіх, як кажуць, быў "стопрацэнтна ўпэўнены", казалі мне прыкладна так:

– Алег, бацьку твайго мы добра ведаем, паважаем і любім. Але, паводле Статута КПСС, мы павінны ведаць цябе не толькі як сына твайго бацькі, але й, не менш як год, "по совместной производственной и общественной деятельности"... Былі й такія (партыйныя людзі!), якія казалі:

– Олег, ты же неглупый парень, зачем тебе в этом... пэцкацца?..

Словам, я зразумеў, што ў стольным Мінску ўсе шляхі пайсці "іншым шляхам" – заблакіраваныя. І, зазірнуўшы "праветрыцца" да маіх маскоўскіх сяброў, трапіў у Тарусу, дзе і "асеў" ажно на тры гады і, як ні дзіўна, уступіў... у рады КПСС.

Калі хавалі бацьку – у прысутнасці высокага партыйнага начальства, – калі падышоў час развітацца самым блізкім, я падышоў да труны, перахрысціўся, перахрысціў бацьку і ўклаў яму ў рукі загорнуты ў вершык к р ы ж. Ніхто мне нічога не сказаў, і ніхто не спрабаваў мне неяк перашкодзіць. Але...

Праз два месяцы пасля пахавання бацькі, пры разглядзе маёй партыйнае апеляцыі ў ЦК КПСС, у Камітэ-

це партыйнага кантролю (у снежні 1986 г.) чалавек, які курыраваў маю справу (партбілет у мяне адабралі за маю лонданскую кнігу "РОДНАЕ СЛОВА І МАРАЛЬНА-ЭСТЭТЫЧНЫ ПРАГРЭС"; пра гэта варта напісаць добры сацыяльна-псіхалагічны дэтэктыў, але ізноў жа – не цяпер), беларус, дарэчы, не памятаю, на жаль, ні імя ягонага, ні прозвішча,— дык вось, чалавек гэты, які вельмі ветліва і нават крыху вінавата са мной гаварыў, раптам, адхіліўшыся ад асноўнай тэмы гаворкі: як гэта я мог напісаць такую антынародную і антыпартыйную кнігу?.. – выцягнуў бакавую скрыню свайго пісьмовага стала і, пакалупаўшыся там крыху, паклаў перада мной паперку.

– Извините, но я считаю своим долгом ознакомить вас и с этим документом...

У "дакуменце" гэтым, на бланку ЦК КПБ, быў надрукаваны наступны тэкст: "Считаю своим долгом сообщить, что при похоронах народного художника Андрея Онуфриевича Бембеля его сын, Олег Андреевич, публично перекрестился и перекрестил своего отца".

"Дакумент" быў падпісаны, але я так разгубіўся ад нечаканасці, што не запомніў прозвішча "падпісанта", даруй яму, Божа, і гэты грэх.

Дык вось, даражэнькія, што я хачу сказаць тым, хто не перастае запытваць мяне: навошта ўступіў у антыхрыставу партыю – ды яшчэ й "не хотел уходить ни за что", калі з яе выгналі?..: з маіх асабістых кантактаў – за дзесяткі гадоў, з мноствам п а р т ы й н ы х людзей – я цвёрда – метадам "канкрэтна-сацыялагічнага даследавання" – пераканаўся, што абсалютная большасць "партыйцаў", і тагачасных, і цяперашніх, гэта нармальныя вясковыя (альбо родам з сялян) хлопцы, большай часткай хрышчоныя і амаль усе – з традыцыйна Праваслаўных сем'яў. Ніхто з іх не зацікаўлены а с а б і с т а ў атэізме і ў змаганні з Царквой. Наадварот, цяпер дык амаль кожны стараецца падкрэсліць, што ён і ў "тыя часы" па-ціхаму верыў, і дзяцей хрысціў, і яйкі фарба-

ваў, і ў Храм, часам, зазіраў... І тады, і цяпер я абсалютна перакананы, што зрабіць з кампартыі – і тагачаснай, і, тым больш, сённяшняй – нармальны Хрысціянска-сацыяльны саюз (менавіта с а ц ы я л ь н ы, а не дэма(н)кратычны), а, дакладней, Праваслаўна-сацыяльны саюз, – можна і трэба, унёсшы адпаведныя папраўкі ў іхнія праграмныя дакументы й статут.

Пытанне: навошта ўступіў?.. – часам, дапаўняецца й працягам (і з боку сяброў, і з боку апанентаў):

– А каб сённяшнія камуністы вярнулі табе твой партбілет, за які ты так ярасна "змагаўся", – ці вярнуўся б ты да іх?.. ... я адказваю амаль што словамі цётачкі Анастасіі – калі ёй прапаноўвалі ў с т у п і ц ь у партыю: – Ахвотна вярнуўся б ... к а б ... Тут я ўзгадваю верш, які хадзіў па руках на хвалі святкавання 1000-годдзя Хрышчэння Русі, а пазней быў надрукаваны ў "ЧЫРВОНЦЫ":

*...пашлюбаваліся... І – годзе!...*
*чарую – каб нячысты злез:*
*пад сонейкам Т ы с я ч а г о д д з я*
*я ахрышчу... КПСС!..*

**Ю.З.** – Жыццё наша ў Царкве шматаспектнае, таму закрану толькі адно пытанне: мова нашай Царквы і Літургіі. ЯК інтэлігент павінен ставіцца да моўнай рэчаіснасці Царквы, каб не было недарэчных "апрыёры" накшталт "толькі беларуская мова" і да т.п.?

**А.Б.** – Дык вось, якая МОВА Праваслаўнаму чалавеку – р о д н а я?.. Бела-Русу, Вяліка-Русу, Мала-Росу (украінцу)?.. Відавочна, найперш Боганатхнёная МОВА, дадзеная нам Госпадам праз Роўнаапостальных Кірыла й Мяфодзія і на якой мы злучаемся з Хрыстом у Літургіі ўжо другую тысячу гадоў. МОВА, якая была літаратурнай і дзяржаўнай мовай Праваслаўных абшараў сем стагоддзяў (Статут Вялікага Праваслаўнага Княства Літоўскага, фактычна Стара-Беларускай Дзяржавы,

Скарынавы першадрукі – для люду паспалітага Праваслаўнага напісаны г э т а ю МОВАЙ, з элементамі мясцовай гаворкі). МОВА малітвы й натхненняў дзесяткаў пакаленняў нашых продкаў, якая лучыць нас у вялікую духоўна-гістарычную цэласнасць.

Ёсць у нас і вялікія духоўна-культурныя й гістарычныя багацці, назапашаныя на нашых млада-літаратурных, млада-дзяржаўных мовах. Праваслаўны чалавек і іх не павінен цурацца, тым больш "...смеясь, дерзко презирать". А інтэлігенцыі, якая, як ты слушна заўважыў, з'яўляецца, часам, інсцэніроўшчыцай не толькі тэатральных, але й "палітычных спектакляў на вуліцах", – гэтай самай інтэлігенцыі не зашкодзіла б хаця б крыху ведаць і ангельскую, й грэцкую, й латынь... Словам, інтэлігенцыі нашай і паводзіць сябе трэба інтэлігентна... (узнавіўшы ў памяці, між іншым, і Сергіе-Булгакаўскі фрагмент: "ИНТЕЛЛИГЕНТСКИЙ ГЕРОИЗМ И ХРИСТИАНСКОЕ ПОДВИЖНИЧЕСТВО"...)

**Ю.З.** – Нельга абмінуць тэмы экуменізму, паколькі адзін з міфаў, педаляваны апошнім дзесяцігоддзем, – аб шматканфесійнасці і рэлігійнай талерантнасці Беларусі; амаль што – аб арганічнай свецкасці Беларусі і яе секулярызаванасці як station рысе. Між тым, неяк сарамліва замоўчвалася, што свецкасць – гэта ўсяго толькі непераадоленая савецкасць, а талерантнасць Беларусі – гэта ўсяго толькі традыцыйная талерантнасць **праваслаўнай** Беларусі, Праваслаўя, якое дзейнічае ў гісторыі ў духу апостала Паўла (гл. 2 Цім 2, 25–26), заклікаючы да згоды, пакаяння і любові.

Разам з тым наўрад ці можна быць задаволеным з меры грамадскай актыўнасці Праваслаўнай Царквы ў апошнія гады. Лідэры тут – рыма-каталікі... Усё-такі, як канфесія большасці, Царква нясе і большую адказнасць за стан грамадства і не мае маральнага права абмежавацца літургічным дзеяннем, якое ўласна і патрэбна жыццю ў цэлым. Я хачу тут выказаць дапушчэнне, што, відаць, каталіцкі ад-

раджэнскі "актыў" аб'ектыўна не мог разлічваць на поспех у праваслаўнай Беларусі: тыпалагічна гэта быў рух у "кірунку Ягайлы" (твая формула), і тут спрацаваў нейкі не вядомы навуцы механізм грамадскай блакіроўкі на такі рух?

**А.Б.** – На Дрэве тысячагадовае Праваслаўнае Беларусі ёсць своеасаблівыя "гістарычныя прышчэпы": Каталіцкая галінка, Пратэстанцкая, Іудзейская, Мусульманская і г.д. Кожная з іх па-свойму актыўная. І гэта натуральна: кожная меншасць, каб захаваць сваю адметнасць, гістарычную індывідуальнасць, мусіць быць актыўнай і згуртаванай. Ёсць і векавечны, асвечаны Царквой, Праваслаўны лад жыцця, – калі сямейныя традыцыі й законы дзяржавы заснаваныя на Запаведзях Божых. У пошуках скіраванасці сэрцаў і "вектара грамадскага актывізму" кожная новая душа, якая свабоднаю воляю вызначаецца ў свеце, мусіць памятаць наступнае: першы метагістарычны, а потым і гістарычны бунтаўшчык і рэвалюцыянер, змагар за поўную свабоду і незалежнасць ад Боганатхнёнае гармоніі Існага і Праваслаўнага ладу жыцця на Зямлі, Святаайчыннага Царкоўнага Камертона, – гэта вораг роду чалавечага. Іншых ворагаў у нас няма – ні на Зямлі, ні ў Сусвеце; ён, – гэты сапраўдны ініцыятар усёй гераічнай гісторыі, усіх бунтаў, рэвалюцый, паўстанняў за народнае і ўсялюдскае шчасце, свабоду, народную ўладу, альбо ціхіх спосабаў задушыць Праваслаўе ў "экуменічных абдымках", – ён добра ведаў і ведае, супраць Каго і Чыёй Улады ён змагаецца, каго распальвае ды ўцягвае ў свае векавыя "тайны беззаконня". Але ж ці ведаюць гэта тыя, каго ён уводзіць у спакушэнні ды ў чары?.. Свядомыя антыхрысты, відаць па ўсім, ведаюць. А тыя, хто нібыта ўяўляюць сябе Хрысціянамі?..

**Ю.З.** – Тым не менш, гэтую праваслаўную Беларусь, "прагледжаную" апошнім часам, належыць убачыць, увайсці ў гэтую Атлантыду як у рэальнасць, якую можа

ігнараваць толькі скончаны пражэкцёр (у палітыцы асабліва). Вось што ты бачыш у Жыровічах, стоячы за "свечнай скрынкай", якую Беларусь адкрываеш, як з ёю – такой – пагаджаешся?

**А.Б.** – Што да "прагледжанай" – кім толькі, мо ўсё той жа інтэлігенцыяй, бунтоўна-іншавернай альбо ерэтычнай?.. – што да тысячагадовае Праваслаўнае Беларусі – мне ў Жыровічах, стоячы, як ты кажаш, за "свечнай скрынкай" (лепей – за СВЕЧНІЦАЙ), бачыцца вось што:

СВЕЧНІЦА

*... тут свечкі бяруць багамольцы...*
*вы-свечваюць душы с в а і х –*
*хто горнюю цішу спасціг...*
*і хто яшчэ нудзіцца ў д о л ь ц а х...*

*... тут, грэшны, свой п о с л у х нясу...*

*і старцавы казанні слухаю...*
*і сэрца ўздымаю над скрухаю,*
*чакаючы Скону касу ...*

*... тут – вершы ў маленнях пільную...*
*няшчасці – Святымі гаю ...*
*чужую бяду, як сваю, –*
*люляю й пяю:*
*– Алілуя!..*

## МОВА

...Мовай Славянскай Гасподзь
аб'яднаў
люд і абшар Праваслаўны...
блудных сыноў – праз стагоддзі –
гукаў
музыкай Слова у Храмах...
... з Мовы Славянскай
сумоўе культур
і Праваслаўных плямёнаў
вырасла – між вынішчальных віхур
і авантур утрапёных...
...Мовай Славянскай, –
як небам – крыло, –
рознаплямённыя мовы
поўняцца, жывяцца, ззяюць нанова,
твораць прастору й святло!..

## КЛАВІША, ЯКАЯ НЕ АДГУКАЕЦЦА

*Дзяўчыне з блакітнымі вачыма*

Беларусь, на су-моўным раялі
плямёнаў
Таямніца Твая не гучыць...
няўжо, як нябожчыца непамянёная,
нашых продкаў парвалася ніць?..

... мы – ад першай манахіні Анастасіі
(што Рагнедай – у свеце – была)...
мы – ад Полацкай Матухны
Еўфрасініі,
што бяздольных да Бога вяла...

... мы – ад кніг Праваслаўных
Кірыла й Скарыны...
ад Пакутнікаў Вільні Святых...
шмат імён, у гісторыі Святасці
слынных, –
ад узвышшаў ініваў Тваіх...

... дык чаму-ж Ты маўчыш,
Сінявокая Дзева?..
хто агонь Твайго сэрца задзьмуў?..
расцярушыў галінку Адвечнага
Дрэва?..
адгукніся
маўленню
майму...

## СВЯТЫ ПОКРЫЎ НАД БЕЛАРУССЮ

... Птушка Белая – над Краінай
Сіняй –
то ахова наша і сіла...
гэта дух Святой Еўфрасінні...
гэта слова Святога Кірыла...

... то ахвярнасць Сафіі Слуцкай...
і пакутнікаў Вільні даўняй...
то Святыя зямлі Беларускай
да Хрыста ўзышлі пакаянна ...

... Птушка Белая – па-над Краем
Сінім,
барані нас ад ч о р н а е б ы л і...

хай асвенцяць Божыя сілы
нас, што ў немачы саграшылі...

## КАСАВІНКА І МЫ

... побач з Хрыстом – і так далёка! –
памёр разбойнік на крыжы ...
у болі й злосці, як і жыў, –
без пакаяння й без выроку ...

... другі, ў апошнюю хвіліну, –
цаною здрады сябрукам
ды згубным дэманскім шляхам –
знайшоў да Бога пуцявіну ...

... а трэці, пушчаны на волю
замест распятага Хрыста,
ён намі незаўважна стаў –
г і с т о р ы я й
і н а ш а й д о л я й...

## ГРАХІ ГІСТОРЫІ

... я чую голас успамінаў,
нібы з магілы ўсіх вякоў:
“Свяшчэнны абавязак сына, –
як крыж, цягнуць грахі бацькоў...”

мне гэты камень не па сілах...
я падаю... і я малю:
не аддавай душу ў магілу,
Ойча, я ворагаў люблю!..

... ўспаміны сцішацца сівыя
і голас, жорсткі і сухі...
і я вялікае Расіі
дарую даўнія грахі...

і новай рунню ўстануць пожні
стагоддзяў змрочных і глухіх...
і я дарую братняй Польшчы
яе шляхотныя грахі...

я ўхілюся ад сірэнаў...
і падымуся ад сахі...
і я Нямеччыне змірэннай
дарую Марсавы грахі...

літаннем павярну на схіл
паразу жарсную й цяжкую:
люду Абранаму дарую
антыхрысцьянскія грахі...

тысячагоддзяў злыя раны
прарвуцца, бы гнілы пухір...
і я дарую Ватыкану
палітыканскія грахі...

я прытулю мацерыкі,
што пад драконам акаянным:
фундаментальным Басурманам...
ды новым златаскурым Ханам...
ды Нова-і Стара-Паганам
дарую Саўлавы грахі...

.......................

... і Дух Святы аблашчыць сэрца...

як ноч, адыдзе дух ліхі...
і возьме валадарства смерці
мае уласныя грахі...

## АДВЕЧНАЕ

... каб свет адвесці ад бяды –
успомнім, як жылі Дзяды...

... страх Божы быў жыцця асновай –
і спадчыннай, і вечна новай...
Закону Божаму – зямны
быў адпаведны без маны...
Сімфонія Царквы й дзяржавы
сумленнем правіла і правам...
стагоддзямі той Верны Лад
быў ад Каляд і да Каляд...

... ды дух смяротны, дух-сумліў
на бунт бязбожных спакусіў...
і праз зняверaных балбесаў
да нас прыйшло стагоддзе бесаў...

... каб болей не было бяды,
успомнім – ЯК жылі дзяды...

***

куміраў сабе не тварыце ніколі –
з асобаў, народаў, хаўрусаў,
вучэнняў

...
шукайце сумоўе Тварца і тварэння,
сябры й апаненты
народнае волі...

## ШЛЯХАМ СВ. ЕЎФРАСІННІ

... у час, калі рыцары ў сечах
крывавых
шукалі да волі і шчасця шляхі,
Ты брала дзяўчат – ад зямлі і сахі –
і ціха вяла іх да Божае Славы...

... у час, калі зорка – Палын дабівае
пыхлівай грахоўнай гісторыі гмах,
Патронку Святой Беларусі згадаем
і вернемся – з Ёй –
на ратункавы Шлях...

## БЕЛАРУСЬ

... Царкоўнае й зямное права
злучала ў сэрцах напраскі...
і ўстаяла – праз вякі –
як Праваслаўная Дзяржава...

... а дух ліхі не для забавы –
як люты звер – на нас паўстаў,
бо славім Госпада Хрыста
Сімфоніяй Царквы й Дзяржавы!..

***

… адзін для ўсіх у нас Закон –
Царквы Хрыстовай Праваслаўнай…
у паліфоніі
дзяржаўнай –
чувай Царкоўны Камертон!..

***

… калі ў век НТР сціснe сэрца маё
сцыенцызмам вучоная зграя –
заіскрыцца яно, бы расою, крывёй:
Хрысце мой, я Цябе кахаю…

… калі бэсны прагматык –
за здраду Яму –
краты срэбныя паабяцае, –
адкажу я – і праз залатую турму:
Хрысце мой, я Цябе кахаю…

… калі мне давядуць: Эвангеллі –
мана…
і зямная Царква – не святая… –
я ізноў паўтару: адыдзі, сатана…
Хрысце мой, я Цябе кахаю…

… холад мёртвы з прадоння:
Яго – не было …
Лік Нявінніцы ў небе згасае…
… запалю таямніцы
апошняй
святло:
Хрысце мой, на крыжы
ўваскрасаю!..

## СВАБОДА

... я Любамудрасць запытаў:
– Чым ёсць таемная Свабода?..
– Напэўна, то – паняццяў згода
і тых, хто ў іх гуляць пачаў...

... палітыканаў я спытаў:
– Што Вам вядома пра Свабоду?..
– Мы служым цёмнаму народу...
свабодны той, хто Нас абраў...

... да Неба рукі я ўзнёс:
– Свабода, ты каму належыш?..
– ... я ў Дусе Святым...
мае межы –
Сын Чалавечы – Бог Хрыстос...

***

... зямную сцяжыну завершы
раскаяным сэрцам, найперш...
маленні – вышэй за вершы...
хай стане маленнем – верш!...

***

... галоўнае – напоўніцца
для дольняга і вышняга:
для Бога і для бліжняга –
не быць пустой смакоўніцай...

# ЛІСТ СЯБРУ

*Паэту Яну Чыквіну.*

– Жыццё – Хрыстос,
а смерць – набытак, –
Першавярхоўны так казаў*...
між светаўгодніцкіх забаў
Сэнс гэтых слоў даўно забыты...

........................

трымайся, Сэнса-любны Яне,
за Крыж — як за ўратаванне...

... мінаюць жарсныя спатканні...
палын самоты... і каханні...
калег прызнанні й хітраванні...
натоўпу хцівыя хістанні...
чыны высокія і званні...
тугі вуголлі... і адхланні...

........................

... і толькі Сэнс Раскрыжавання
заўсёды з намі...

***

... шукаем запаветных лекаў...
а за плячыма – Скон паўстаў...
дзе сваячынім без Хрыста,
там скрозь –
руіны чалавека...

---

* Ап. Павел.

## СХІМНІКАМ

…вас спакушае цэсар –
разбэшчанай д'ябальскай думкай…
і дабрабытам…
і чымсьці толькі яшчэ…
а вы трымаеце
сэрца гісторыі духа…
Боскай Самотай
спеў ваш
па жылах сусвету
цячэ.
Хрыстос нараджаецца!.. –
хутка двухтысячны раз…
Хрыстос нараджаецца
ў сэрцах змірэнных бясконца…
як неадступна ўліваецца золата сонца
ў хмарны
панурыя
разбойны
і зменлівы час…

***

…памілуй, Хрысце, памілуй
нас – за разбой панылы…
не ведалі – што тварылі…
пустэча нашы вярыгі…

## МОЙ КРАЙ

…каля паўтары сотні манастыроў –
вялікіх, меншых і зусім маленькіх –
было ў Беларусі на пачатак XX ст.

*(З гісторыка-статыстычных апісанняў
Беларускіх Епархіяў).*

...намоленыя, чыстыя мясціны –
пакрылі богаборныя віры:
ў гісторыю сышлі манастыры –
апора Праваслаўнае Айчыны...

...і процьмы душ
у ганьбе запусцення
блукаюць – не чужыя й не свае...
заблудная краіна йшчэ жыве
бясконцасцю Гасподняга цярпення...

...але матыў ВЯРТАННЯ
блудным сынам
пачуецца, калі наўкол – абрыў...
як сонейка – ізноў манастыры
ўзыдуць над Праваслаўнаю
Айчынай!..

***

...памілуй, Хрысце, памілуй
нябожчыкаў і жывых...
і дай нам усім сцяжыны
ў бясконцых Шляхох Тваіх...

## ЗБАВІЦЕЛЬ

...Ён мог узняць
зямнога раю гмах
і царстваваць у ім – ад ласкі змія...
Ён вольны быў абраць шляхі
зямныя...
і вольна выбраў –
з о р н ы
Х р о с н ы Ш л я х...

***

...сілы сусветнага зла імкнуцца
духоўна і дзяржаўна сакрушыць
Праваслаўныя народы...

Госпадзь – па грахох нашых –
папускае гэтыя цяжкія спакушэнні:
войны, глады, моры...

...а па шчырых малітвах, жыцці
ў Хрысце й Царкве Ягонай – дае
палёгку, узнаўляе мір, лагоду,
гармонію плямёнаў...

...міне і крывавая й шэрая
пара – калі слабне Хаўрус...
Жыве
        Праваслаўная Сэрбія!..
Жыве
        Праваслаўная Русь –
Вялікая... Белая... Кіява..., –
што сцежкамі
                тройцы зямной
смяротных да Вечнасці вывела
і ў сэрцы гукае: – ...за Мной!..

***

...з гісторыі гаротнай, без прыўкрас,
пад бомбамі бясоўскае свабоды,
ўзыходзяць на Галгофу –
                ў Сконны час,
павольна – Праваслаўныя народы...

...антыхрыст рай зямны
падрыхтаваў:
натоўпу кінуў хлеба і відовішч...
і у прадоннях сваіх тайных сховішч
намеры запаветныя схаваў...

...напагатове каты і цвікі...
Хрыстос Сваіх наследнікаў чакае...
і – як дарожка церпнікам да Раю –
рассыпаны ў нябёсах
в а с і л ь к і...

***

– Хрыстос уваскрэсе!
– Ўсяісна ўваскрэсе!
і рэха – як гром веснавы
ў паднябессі...
і рэха – у сэрцах...
і рэха – у песнях...
і вера, што кожны
ў Хрысце уваскрэсне!..

...і цемрадзь адыдзе...
і гора растане...
і смерць, быццам прывід
пад сонцам світальным,
міне ва ўспамін паўнаты
Дабравесця...
– Хрыстос уваскрэсе!
– Ўсяісна ўваскрэсе!

# ЗЬНІЧ СУПРАЦЬ НІЦШЭ

*Паэт – не той, хто піша вершы, не...*
**У.Някляеў**

Напрыканцы мінулага стагоддзя Ніцшэ абвясціў: "Бог памёр..." – і пайшло-паехала, ужо не бунтары-адзіночкі-дэманы, а многія вырашылі, што ўсё дазволена, і XX стагоддзе адкрылася як мяцежны балаган.

Напрыканцы стагоддзя XX-га беларускі паэт Зьніч набраўся смеласці і першым сказаў услых: "Бог жывы". Прагучала гэта як "Ён вярнуўся". Уласна кажучы, таемна або ўслых, паасобку, але не разам, мы ведалі гэта, нават кідалі нібыта выпадковыя рэплікі і вобразы, захоўваючы сляды Яго прысутнасці ў нашым жыцці, але толькі ў Зьніча хрысціянскі вобраз думкі стаў стрыжнявым у яго паэзіі, падмацаваны кананічнымі вобразамі і веданнем тэкстаў; сапраўды хрысціянскае светаадчуванне прадыктавала яму неардынарны ўчынак – яго адыход у Жыровіцкі манастыр, дзе ён цяпер з'яўляецца паслушнікам, не перастаючы быць літаратарам: выпускае Багаслоўска-літаратурна-мастацкі лісток "Жыровіцкая абіцель". Лісток гэты стаў настолькі прыкметнай з'явай культурнага жыцця, што на апошніх, пятых па ліку, міжнародных Кірыла-Мяфодзьеўскіх чытаннях, што праходзілі пад эгідай Беларускага Экзархата сумесна з міністэрствам культуры, было зроблена паведамленне, цалкам прысвечанае паэзіі на старонках лістка "Жыровіцкая абіцель". Фактычна ў ім гаварылася пра паэзію Зьніча апошніх двух гадоў, хоць вершы ў лістку публікуюцца без аўтарскага подпісу.

Але мне хацелася б пачаць не з вершаў Зьніча, а з юнацтва Алега (сына вядомага скульптара Андрэя Бембеля, аўтара многіх помнікаў, што ўпрыгожваюць наш горад), калі ён сутыкнуўся ў момант сталення з праблемай пераадолення своеасаблівага комплексу непаўнавартасці. Зразумела, што планку, высока паднятую бацькам, адолець вельмі цяжка. Але

юнацтва – час дзёрзкага адрыву ад сям'і і ад тых задач, якія яна навязвае; гэта права на ўласныя памылкі і на ўласны шлях. Заваяванне гэтага апошняга права даецца асабліва нялёгка. Мне здаецца, Алег рана адчуў у сабе Дар, але доўга не мог зразумець яго прыроду: была і музыка, і філасофія, і, вядома ж, каханне, любоў... Таму паэзія як спалучэнне і праяўленне ўсяго вышэйсказанага, узнікла сама сабой. Адразу было зразумела, што гэта споведзь спакутаванага сэрца: пачуцці адцінаюць яго ад ісціны, і вершы ўзнікаюць як спроба разабрацца ў сабе... Паэт Зьніч – трагічны па сваёй сутнасці, ён заўсёды намкнёны да апошніх пытанняў быцця, да пакаяння:

*...памілуй, Хрысце, памілуй*
*нас – за разбой паныли...*
*ня ведалі – што тварылі...*
*пустэча нашы вярыгі...*

Зьніч – Алег Бембель – не толькі таму паэт, што пісаць вершы для яго натуральна, як дыхаць. Ён яшчэ і стварае вобраз Паэта, міфалагему пра яго, а гэта дадзена далёка не кожнаму, хто піша сапраўдныя, жывыя вершы. Паэт, што стварыў пры жыцці свой вобраз, сваю легенду, насычае старадаўнюю народную прагу бачыць у паэце асаблівую істоту. Памятаю Зьніча падчас кароткага перыяду яго працы ў Скарынінскім цэнтры ў Мальдзіса, калі сам цэнтр знаходзіўся на чацвёртым паверсе галоўнага корпуса НАН РБ, у тым самым, аточаным паўкружжам калонаў. Як толькі ў гэтым зарэгуляваным, з паставым ля ўвахода, будынку ўзнікаў Зьніч – з блакітнавокім, ззяючым тварам, з саламяным абручом на распушчаных, хвалістых, пасівелых валасах, нібы ў тэатры, здавалася, што казённыя сцены вось-вось рассунуцца, узнікне іншая, прасякнутая колерамі і гукамі, прастора...

Дарэчы, падобны ён быў на балетнага Бога са "Стварэння свету" ў пастаноўцы Валянціна Елізар'ева. Ён не баяўся выклікаць усмешку альбо нават іронію. Спроба прыручыць яго, зрабіць паўнавартасным супрацоўнікам Скарынінскага цэнтра не ўдалася, як не выйшаў аналагічны эксперымент і з Галяй Дубянецкай, паэтам па самой сваёй сутнасці... Паважаны спадар Мальдзіс Адам Язэпавіч змушаны быў развітацца з імі – патаемная свабода творчасці была несумяшчальнай нават з мінімальнымі абавязкамі навукоўцаў і неабходнымі празаічнымі справаздачамі.

Дзіўна, але манастырскі статут – здавалася б, больш строгі, не стаў перашкодай для паэзіі Зьніча, наадварот, бо для чалавека, які вырас у аўтарытарнай сям'і, дзе доўгія "пошукі сябе" натуральныя, урэшце натуральны і прыход да веры, пад апеку Таго, да Каго штодзень звяртаюцца праваслаўныя з малітвай "Ойча наш..." У яго для гэтага дас-

таткова пакоры – дабрадзейнасць, якая робіцца такой з гадамі. Калі чалавек асабліва не прэтэндуе на прыярытэт, ён лёгка яго атрымлівае: у Маскве Леў Рубінштэйн, каб разбурыць стэрэатып кніжкі, выдае зборнікі на бібліятэчных картках, што выглядае штучна і прэтэнцыёзна, а вось жыровіцкія лёгкія "лісткі" – абсалютна апраўданая задумка: і грошай вымагае няшмат, і паперы, і фізічных затрат. Лісток – пасланне, лісток, што ляціць з ветрам, лісток, што адарваўся ад старажытнага дрэва нашай славеснасці...

*О ты, напоминающий о Боге, не замолкай!*

**Любоў ТУРБІНА**
(Пераклад з рускай – рэд.)

## Колішняму Не-паслушніку,

**адзінаму ў інастасях**

**Зьніча; Ліставея;**
**Міта Лёг-Набіка;**
**Леха Пухіра;**
**Ведзьмака, Рыфмара**
**й Гудара Менскіх;**
**За-творцы**
**й Выгнанніка ВКЗ***
**і ВКЛ*;**
**Брата Алега Церніка**
**Жыровіцкага;**
**Айца Але; Кананічнага**
**Дзеда Гарэзных Унучачак;**
**Істоты-на-Мяжы-Зьніча-**
**й-Ліставея; Святара-Хто-**
**ў-Сэрцы-Творыць-Свята, –**
**Няўлоўнаму**
**й Невычэрпнаму, –**
**ахвярую**

*...на межах грубага агню*
*й ласкавай трапяткой сябрыны*
*цьвітуць абшары*
*a n d a n t i n o,*
*што йграюць*
*с у м*
*і в ы ш ы н ю...*

**Ліставей**

***

адсоўвае ўдалечыню
абрысы ўзычанага раю
Той Хто шляхі нам абірае
і пазначае в ы ш ы н ю

але за прорвамі агню
за плынню зменаў
безупынна
цвітуць абшары *a n d a n t i n o,*
што лучаць існую радню

**Галінка-ў-Сцішаных-Вірох**
**(у свеце ДУБЯНЕЦКАЯ)**

---

* Вялікія Княствы Зьнічовае й Ліставейнае

# ФІЛОСАФ-МУЗЫКАНТ

Зьніч – безумоўна, адметная зорка на сцямнелым небасхіле сучаснай беларускай паэзіі. Ён увесь час у руху, сыходзіць – як зьнічка, толькі мужчынскага роду, – з Нябёс да Зямлі, паўтараючы шлях Хрыста. Ён мяняецца, пакідаючы за сабой зыркі метэарытны хвост – шлейф тлумачэнняў, здагадак, інтэрпрэтацый. Паэт?.. філосаф?.. дысідэнт?.. грэшнік?..

*...ўратуе нітка, што не будзе рвацца, –*
*і вызначыцца шлях у святары:*
*сарві струну, што мусіла злавацца,*
*і ў нечым смутку*
*свята сатвары, –*

адзін з маіх любімых вершаў-квантаў Зьніча. Гэты маленькі верш (прычым, традыцыйна маленькі, як амаль усе творы зьнічавай паэзіі) мае назву "Рэха Арыядны". Ён увайшоў у жаўтлявую – па колеру вокладкі – трохтомную "Анталогію беларускай паэзіі", якая выйшла ў нас на пачатку 90-х гадоў і сталася ў пэўнай ступені літаратурным адкрыццём...

Часам мне здаецца, што сарцавінай, "ядром" яго, Зьніча, прамяністага рэчыва з'яўляецца антычная філасофія з яе выразна гуманістычнымі ідэямі і "наіўнымі" навуковымі першаздагадкамі. Калі свет уяўляўся адным большменш гарманічным цэлым, а музыку вывучалі як філасофію. (А прасунутыя практыкі, тыпу Піфагора, – як матэматыку...)

Вялікую ролю ў фарміраванні асобы Зьніча, на мой погляд, адыграла вышэйшая музычная адукацыя, якую ён атрымаў, сама музыка наогул. Пра гэта сведчаць і назвы яго паэтычных кніг: "Саната ростані", "Саната поўні", "Рэха малітвы" (малітва – рытмізаваны тэкст, інтымная песня чалавечай душы, звернутая да Бога). Алег Бембель, як музыкант, унікальна адчувае "музыку нябёсных сфер" – той ідэальны свет, які павінен быць і ўсё ніяк не настане, ніяк не "уцялесніцца"...

Ён чуе гарманічныя, велічныя акорды Боскага Аргана – жыве на зямлі, дзе "паміж Польшчай і Расіяй – полька беларуская".

Некалькі гадоў таму, у сярэдзіне снежня 1994 года, мне пашчасціла прысутнічаць на адным невялікім хатнім канцэрце, які даваў маэстра Зьніч. Гартаю старонкі свайго пісьменніцкага дзённіка тае пары...

*"Тое, што адбылося, быў сапраўдны цуд.*

*Я апранулася ў доўгую серабрыста-вішнёвую сукенку, як і трэба слухаць класічную музыку. На шыі – нітка белых перлаў.*

*Я, прыляцеўшы з работы, напякла пячэння: у выглядзе месячыкаў, зорачак, сэрцаў (любові) і – поўняў.*

*Я накінула чорную "народную" хусту з махрамі на паўфутра і прыехала, цёмная, "глыбокая" ад хвалюючых прадчуванняў на месца сустрэчы... Галінка* была ўся ў нечым светлым і ў белай хустцы. Быў моцны мароз. З вуліцы мы затэлефанавалі на кватэру аднаго са знаёмых, дзе Князь ужо рэпеціраваў свой вячэрні канцэрт.*

*А гэта быў сапраўдны канцэрт! Нягледзячы на бедную абстаноўку (у параўнанні з той музыкай), "мастацкі хаос", пэўнае разбурэнне парадку рэчаў ("У нас рамонт", – патлумачыў яго сябар-мастак) – усё было зроблена Зьнічам вельмі ўрачыста, чыста як на вялікую публіку. Ён сам аб'яўляў і трохі тлумачыў кожны твор; яго майстэрства (і пачуццё, з якім ён іграў) было ашаламляльным. Я ведала і раней, што калісьці, яшчэ да таго, як ён стаў паэтам, навукоўцам, паслушнікам... ён скончыў кансерваторыю. Але каб праз столькі гадоўператварэнняў і фізічных пакут – так іграць класічныя творы на памяць!..*

*Цуд быў яшчэ і ў тым, што ўсё, што маэстра граў, былі мае любімыя творы, і найперш Бетховен – "Саната поўні", Шапэн; нават дзіцячае "Йонда аля туйка (так вымаўляе, сказаў ён, яго ўнучка) падалося мне тут дарэчы!*

*Сам маэстра быў такі малады, і я яго так любіла!.. Мне падалося, што фартэпіяна – гэта жанчына (гэта я), і ён, на нетутэйшай мове, расказвае, як ён умее кахаць – і праз гэта быць шчаслівым, разумець свет ("Хто разумее мяне, хай цешыцца з гэтага"...). І я – цешылася, раз-пораз пазіраючы на здранцвелую, цнатлівую Галінку і на хваравітага яго сябра, у параўнанні з якім Маэстра здаваўся моцным, вечным, "класічным", як гэтая музыка. У нейкі момант ён здаўся мне Богам... Музыка і мова маюць аднолькавыя гукавыя пачаткі і канцы. Успомніла, што ўвосень я падарыла Зьнічу сваю рукапісную кніжачку "Бацькава мова". І вось яна, гэтая "бацькава мова" – у адрозненне ад "матчынай": музыка!*

---

* паэтка Галіна Дубянецкая.

*Напачатку, слухаючы твор і злёгку недарэчнае рыпенне крэсла і педаляў інстумента, я падумала: "Якія цесныя, рыпучыя матэрыяльныя чаравікі у гэтай цудоўнай нябачнай Лэдзі – музыкі!.." Хацела нават сказаць гэта ўсім услых, але не асмелілася.*

*Затое ў другім аддзяленні, калі, на заканчэнне, Маэстра зноў пачаў граць "Санату поўні", у пакоі раптоўна згасла электрычнасць (перагарэла лямпачка), ён... працягваў!.. іграць!.. нам!.. (сабе?..) у поўнай цемры... Ніхто не зварухнуўся. Гэта было неяк сімвалічна і страшна (і "страсна")... Калі выкананне было скончана і ўмомант запалілі дадатковае святло, я не вытрымала, ускочыла і, пасля слоў падзякі, хутка спыталася: "Можна мне вас абняць?" ("Так!"), і прыхінулася да яго ў неадольным парыванні. Злёгку аслабанілася, і ён сам абняў мяне ў другі раз... Гэта ўсё было так нечакана, і ў той жа час так натуральна ("Паэтам можна амаль усё, а паэткам – усё", – гаварыў нам з Галінкай калісьці ён), і мне ад гэтага стала так лёгка, што я зразумела: гэта яшчэ адзін цудоўны кантакт з блізкім па духу чалавекам, з "роднай" стыхіяй, Братам, можа, самым старэйшым...*

*Я нічога нікому не тлумачыла. Усе раптам загаварылі, таксама сталі дзякаваць, жартаваць, смяяцца. І я старалася быць, як усе.*

*<...>*

*У начным тралейбусе, дзе мы зноў былі ўжо ўтраіх, развітваючыся, я вельмі сур'ёзна яму сказала: "Я – шчаслівая, што паслухала ваш канцэрт..." І выйшла на сваім прыпынку. Гэта была чыстая, як снег, праўда. І яна моцна "кусалася", як мароз.*

*З таго вечара некалькі дзён запар горад быў ва ўладзе моцных маразоў. І гэта было яшчэ адным дзівам нашай сустрэчы. (Дарэчы, мы амаль заўсёды сустракаемся ўтраіх у час нейкіх рэдкіх прыродных з'яў: то моцная спёка, то вясёлка над горадам пасля дажджу, то надзвычайныя маразы...)*

*Мне зараз зноў хочацца паглядзець на знакамітую "Тройцу" Андрэя Рублёва. Адчуваю нейкую траістасць свету...*

*(А зараз бы дадала: "фундаментальны акорд"...)*

*Такім чынам, Зьніч ёсць сучасны філосаф-музыкант, ідэалам для якога з'яўляецца фальклорны Музыка, які, паводле народных уяўленняў, сваёй ігрой (на леры альбо скрыпцы) быў здольны ўплываць не толькі на пачуцці й думкі тых людзей, хто яго слухаў, але і на навакольную прыроду, жывёл, стыхіі – увогуле свет. Творца з вялікай літары... (Згадайма яго вядомы літаратурны варыянт – "Сымона-Музыку" Якуба Коласа. Або "Страшную музыкаву песню" Максіма Гарэцкага... І вось перад намі – вылеплены з цяжкай гліны зямнога жыцця (уласнага!) майстрам Алегам Бембелем новы варыянт – Зьніч. "Зьніч" як праект (ідэя). Як зыркі эйдас. Урэшце, зьнічка, што "коціцца з неба – дадолу, да нас, да людзей"...)*

*Цяпер Маэстра, Майстра, Музыка – у ролі паслушніка ў Жыровіцкім манастыры. Дзіўна? Не! Слухаць, чуць, пераказваць – ёсць яго даўнейшы клопат і абавязак.*

***

Дзякуючы Зьнічу, ім названыя, існуюць цяпер разам у нашай свядомасці гэтыя тры: родная мова, маральны і эстэтычны прагрэс; але апошняе з іх – для нас – большае...

**Дамок у лесе**

Алегу Бембелю

*Толькі*
*бадзяга*
*смутны*
*увойдзе*
*у гэты*
*дом.*
*(Ніякіх групавых экскурсій,*
*З калодзежа піцця нагбом!)*

*Толькі*
*бадзяга*
*смутны,*
*Толькі*
*стомлены*
*дух...*
*Прыляжа на ложак з рутаў –*
*І спыніцца вечны рух.*

1994 г.

**Людка СІЛЬНОВА**

# ВЕРШЫ ПАВІННЫ ЗІХЦЕЦЬ...

Уваходжанне ў свет паэтавай душы... Дзеянне, наконт якога не існуе пэўнага рэгламенту ці будзь-якое інструкцыі. І ніякіх гарантый, што, у в а х о д з я ч ы, трапіш менавіта туды, куды хацеў. Адчуваю ледзь прыкметнае супраціўленне сустрэчных паветраных плыняў. Таму лепей за ўсё скарыстаць спосаб самога аўтара:

*...уваходжу ў цябе,*
*бы ў аблокі...*

Калі галава крыху закруцілася ад вышыні, запахла азонавай чысцінёй і перад вачыма адкрылася маціцовая бель воблачных пейзажаў – значыцца, уваходжанне ў свет паэзіі Алега Бембеля, бадай, адбылося. Свет, які існуе ў прасторы і часе па сваіх уласных законах.

Найбольш пераважлівы параметр прасторы – вышыня. Тут размяшчае паэт усё, што мае для яго найвялікшую духоўную каштоўнасць. Гэта – каханне, творчасць, прыгажосць. Вершы А. Бембеля пераліваюцца шырокім спектрам найдалікатнейшых чалавечых пачуццяў, якія аб'ядноўвае агульная якасць – высакароднасць:

*...жыўлюся я дасюль табою*
*ўпотай...*
*І горкі смак палыннае тугі*
*не пабурыў пяшчоты берагі...*
*заручыны –*
*з аблокамі й самотай...*

Спалучэнне часоў – адвечная і нездзяйсняльная мара. Восеньскі смутак, няўмольнасць набліжэння зімовай стомленасці не здольныя суіснаваць адначасова з вясновым росквітам. Але накіраванасць часу не з'яўляецца для паэта нязменнай. У выбраныя імгненні час пачынае існаваць па іншых законах:

*...І хваля праплыла, як аблачына,*
*ў завеі слоў...*
*у асалоду... ў сны...*

Няхай гэта была ўсяго адна хваля, аднак збылося немагчымае і...

*...халодныя срэбныя скроні,*
*быццам снег, абдымаюць вясну...*

Агонь любові зямное і ласкавасць "трапяткой сябрыны" – паняцці бясконца далёкія і рызыкоўна блізкія. Іх падзяляюць эфемерныя межы, дзеля знікнення якіх дастаткова іскры.

Тым не менш, парадоксы прасторы часамі робяць гэтыя межы непераадольнымі. На іх цвітуць неабсяжныя "абшары andantino, што йграюць сум і вышыню".

Час можа паскорыць свой бег да хуткасці мільгання кінакадраў:

*...імчыцца крылаты конь,*
*шчыруюць, бы пчолы, ўспаміны...*
*маланкай – мядовы агонь...*

Такое сцісканне падзей у часе, канцэнтраванне эмацыянальнай энергіі не можа не скончыцца асляпляльнай успышкай адчування шчасця:

*...цалую траву на каленях...*
*плыву – у пяшчоце й красе...*

Аднак было б памылкай думаць, што формула шчасця ўрэшце знойдзена. Каб адчуць прамяністую радасць жыцця, паскарэнне часу зусім неабавязковае. Ён можа, наадварот, запавольвацца ці, наогул, спыніцца:

*...хвілі застылі...*
*...вакхальныя сны-летуценні*
*нас атуляюць*
*бязважкім бясконцым*
*імгненнем...*

Кароткія хвілі шчасця – гэта ўзнагарода, якая даецца чалавеку за доўгія гадзіны духоўнай працы. У гэтай працы патрэбны нейкі накірунак, свядома абраныя шляхі. Аснова светапогляду А.Бембеля – суцэльнасць успрымання жыцця, дадзенага Богам. Паэту блізкая філасофія Канта, які свядома абмяжоўваў кампетэнцыю розуму на карысць веры:

*...Штодня гардыню розуму*
*разворвае*
*ў раллю су-моўя летуценнік*
*кволы...*

Да сапраўднага ведання хутчэй прывядзе глыбока ўнутраны, на падсвядомым узроўні, дыялог з Богам, чымсьці бясплённыя намаганні кволага чалавечага розуму. Уласнае сэрца, што поўніцца любоўю, – найлепшы сродак пазнання сябе і сусвету:

*...цнатліва ўглядаюцца анёлы*
*ў бездань сэрца і бяздонне зорнае...*

Аднак, гарманічнасць светаўспрымання дасягаецца не адразу. Утрымацца ад аналітычных метадаў, уласцівых, хутчэй, крыху абрыд-

лай матэрыялістычнай навуцы, чымсьці боскаму закону, не заўсёды ўдаецца. Падвяргаючы аналізу, раздрабняючы, здаецца, непадзельныя паняцці, паэт пакідае іх у гэтым стане, не вяртаючы ім першапачатковай суцэльнасці. Гэта надае гучанню радка прыкметнае адценне горкай несуцяшальнасці:

*...пацалунак у губы –*
*вянчанне,*
*на пакутніцкі шлях –*
*пячатка,*
*адгукаецца ў ім –*
*немаўлятка,*
*і труна...*
*і згуба кахання...*

Няўтульная зямная прастора часта робіцца цеснай неспатоленаму сэрцу, тады яно пачынае шукаць волі ў прасторах касмічных. Такі позірк на зямное каханне з вышынь нябесных успрымаецца як рэмінісцэнцыя лермантаўскага “Дэмана”:

*...каб Вечны зьніч*
*прапанаваў зямной дзяўчыне*
*руку і сэрца з зорнай вышыні...*
*...але якая ў зьніча дзясьніца?*
*пра гэта ўкленчы Богу, маладзіца,*
*перш чым аддаць яму свой лёс і кроў...*

Пошук ісціны ідзе складанымі шляхамі. Непрадказальнасць прасторавых праяў паказвае свой нораў, і абраныя шляхі часамі аказваюцца тупіковымі, вядуць у нікуды. Гэта натуральны працэс, але ён пакідае свой разбуральны след у душы:

*...успаміны і мары...*
*і хвілю,*
*што між імі няўмольна знікае –*
*больш нічога мы ў свеце не маем,*
*калі*
*Вечнасць у сэрцы*
*згубілі...*

Недасканаласць акаляючага свету, адсутнасць магчымасці адвольнага выбару (ці няўменне зрабіць яго) прымае выгляд невырашальнага пытання:

*За што ты церпіш нядольны здзек*
*адчужанай абрыдлай працы?*
*Куды плывеш ты, Божы чалавек,*
*прыкуты да галер цывілізацый?*

Адказ прыходзіць невясёлай здагадкай: а можа гэта – пакаранне ад Бога? – “Мне рэхам першародны грэх...” Грахоўнасць людское існасці сапраўды бязмежная. Яна спалучае ў сабе наіўнасць няведання з пачварнасцю дзеянняў (ці бяздзейнасці):

*Вякі плывуць,*
*а Ён – раскрыжаваны,*
*жывы...*
*ў крыві цячэ цвікоў іржа...*
*і род людскі,*
*нячыстым апантаны,*
*не мае сілы зняць яго з крыжа...*

Тым не менш, гэты грэшны людскі род заслугоўвае спагады, літасці і любові. Мы бачым відавочную неабходнасць бясконцага ў часе аднаўлення еднасці свету з “душой чалавека”, у якой знаходзяць месца пакорлівасць і нязломнасць, “дзе зліваюцца сум і сумленне”.

Абагульненае паняцце любові да чалавека ўвасабляецца, канкрэтызуецца ў любові да жанчыны:

*...каханне – найвялікшы дар...*
*і служаць нам не тыя здані,*
*што кружацца вакол кахання –*
*бо самаісны – сам пажар!..*

Уменне цаніць дар кахання дае надзвычай трапяткое, ашчаднае стаўленне да яго, усведамленне ягонае безабароннасці і ўражлівасці:

*... як толькі абаўю*
*жывой рукой мой сон кахальны,*
*пакрые попел развітальны*
*пяшчоту крохкую тваю...*

Свет жаночае душы – таемны, вабны для таго, хто кахае. З пяшчотай і кахальнай іроніяй углядаецца аўтар у прыцягальнае бяздонне жаноцкасці, угадваючы самае запаветнае:

*...ты не баішся быць са мной –*

 



*адна ў самотнае хаціне,*
*дзе юрных мараў павуцінне*
*Амур сплятае над табой?..*

Агонь кахання саграваае кроў, асвятляе жыццё, але ён жа і балюча апякае душу:

*Ты чашу горычы піеш*
*дарэшты, да мяжы адчаю,*
*і я ні кроплі не вяртаю*
*тых слёз, што моўчкі ты ліеш...*

Тады даводзіцца шукаць суцяшэння, "гукаць... паратунак на грудзёх хмараў..."

*...але – як блісне ў вачох*
*анёл, што сочыць за табою, –*
*я развітаюся з журбою*
*ў сузор'і*
*Рыфма і Дзяўчо.*

Вось так – Рыфма і Дзяўчо, паэзія і каханне – іх месца там, дзе свецяць зоры і вочы анёлаў. Вышэй за іх адно Бог.

Туды, у бязмежную вышыню, праз бляск сузор'яў, што ўрачыста і недасягальна ззяюць над Слонімам, углядаецца чалавек у адзенні колеру "бездакорнага сумлення", чалавек з сівымі скронямі сталага філосафа і чыстаю душою маленькага хлопчыка, які паўтарае пра сябе, быццам зацвярджаючы школьныя вакабулы:

*...вершы павінны вучыць*
*музыцы ласкі кахальнай...*
*...вершы павінны сачыць*
*зоры пад небам світальным...*
*...вершы павінны зіхцець...*

Прыпынімся на гэтым шматкроп'і. Няхай застанецца апошнім гэтае ўражанне ад паэзіі А.Бембеля – уражанне залатога зіхацення "фарбаў на золку..."

**Наталля МАРЦІНОВІЧ**

 

Ужо напрыканцы 80-х на секцыі паэзіі ў шэрагу іншых кандыдатаў у Саюз пісьменнікаў абмяркоўвалі і творчасць Зьніча. Узгадваецца абурэнне вядомага, прызнанага паэта: "Што ж ён піша "мне бел-чырвона-белы сцяг/ адгукаецца бацькам хросным"! Ну, нельга так..." Хтосьці спрабаваў паразважаць, чаму гэты Зьніч ігнаруе відавочныя ўмоўнасці, маўляў, што тут – поза, эпатаж...

Яшчэ даносіліся грымоты таго часу, калі пра бел-чырвона-белы сцяг, пра Пагоню часцей абачліва гаварылі між сабой, у цесным коле аднадумцаў. Гэтая тэма, зразумела, магла парушыць кар'еру, выштурхнуць з выдавецкага плана і г.д. Ды Зьніч гаварыў паўсюль не толькі пра апальныя нацыянальныя святыні. Ён каяўся ўслых у адступніцтве ад хрысціянскай веры продкаў, дзейсная вернасць якой у недалёкія часы таксама строга каралася:

*мяне гукае сумная званіца...*
*мяне заве Адвечная Рака...*
*а перад Храмам – каб перахрысціцца –*
*ў мяне... не падымаецца рука!*

**("На Саборнай плошчы**
**ў стольным Менску".)**

Наіўны Зьніч! Напрасткі, нацянькі, насуперак цвярозаму сэнсу канкрэтнага часу, уштукаванага ў савецкі соцыум, ён спяшаўся падзяліцца адкрытымі яму даляглядамі. Маўчаць пра іх альбо сцішана разважаць у кулуарах было для яго, бадай што, здрадаю самому жыццю:

*...Вечнасць абрала*
*Племя... і Час...*
*Шлях... і Аблічча...*
*і Слова...*
*каб прытуліцца да кожнага з нас*
*Духам*
*і Целам*
*Хрыстовым.*

**"...ДУША У КОЖНАГА – РАЯЛЬ..."**

У атэістычна-нігілістычны час Зьнічу (аднаму з, на жаль, не надта густога раду маіх аднадумцаў) далося спасцігнуць, што родная мова, асвенчаная ў вяках сімваліка – аснова, душэўная глеба, на якой узрастае дух кожнага асобнага чалавека, вобраза і падабенства Божага, урэшце, усяго народа. І злачынства, вялікі грэх на тых, хто пярэчыць самім этычным законам светабудовы і асабліва калі змушае да таго іншых. За кнігу "Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс", выдадзеную ў 1985 г. у Лондане, Зьніча выгналі з працы і разагналі сектар сацыяльнай псіхалогіі і эстэтыкі ў Інстытуце філасофіі і права Акадэміі навук. Ці ж не разумеў ён тады, калі настойліва збіраў меркаванні, выказванні пра беларускую мову, што ідзе насуперак "ражна", што "нельга так"...

Як філасофскі, патрыятычны і падкрэслена хрысціянскі вызначыў характар Зьнічовых вершаў у прадмове да паэтычнага зборніка "Рэха малітвы" Янка Запруднік. Ён падкрэсліваў, што Зьнічовыя вершы, асабліва некаторыя аднастрофныя, уяўляюць сабой "згусткі думак і вобразнасці, якія, каб быць успрынятымі поўнасцяй, вымагаюць ад чытача веды, роздуму, інтэлектуальнае працы". На прасторы паэтычных тэкстаў, створаных музыкантам, філосафам Алегам Бембелем, паразумеліся самае ірацыянальнае мастацтва і любоў да мудрасці. Нібы два вызначальныя складнікі самой чалавечай істоты – найвялікай тайніцы ў Сусвеце. Кожны з нас у распалавіненым на дабро і зло свеце мае патрэбу ў абароне сваёй непаўторнасці, права на ўласны шлях:

*...душа ў кожнага – раяль...*
*крані яго рукой ласкавай –*
*і задумённа, і яскрава*
*ён заіскрыцца, як крышталь...*

*...а як няўмелай, ды няўмытай,*
*ды грубай ткнеш яго рукой –*
*ён крыкне... нібы сам не свой...*
*і згасне тайна, нераскрытай...*

У многіх вершах Зьніча гучыць скрушлівая развага-перасцярога над лёсам свайго веку, шмат у чым трагічнага для Вечнасці ды і проста штодзённага побыту на калісь здаровай, неазмрочанай выдаткамі цывілізацыі зямлі, і надзея, што ўсё ж чалавецтва, народжанае ў выратаванне на Галгофскім Крыжы, здолее спраўдзіцца ў Існым. Пры гэтым унутраны пафас, сэнс становяцца эстэтычнаю з'явай, паэтычным тэкстам:

*як лёгка існае бяз нас –*
*пялёсткаў крохкіх – застанецца!*
*і кветкай новай – прыйдзе час –*
*зямелька Сонцу усміхнецца...*

*няўжо ня ўчуем і цяпер,*
*прад гэтай лёгкасцю зьнікнення,*
*як хітра прыглушае*
*звер*
*матыў Хрыстова ўваскрашэння?..*

Ды былі, а значыць і ёсць у агульным духоўным прасцягу Ефрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі, Францішак Скарына, Кастусь Каліноўскі, Максім Багдановіч, святыя і пакутнікі зямлі беларускай – яны вядуць на “ратункавы шлях”, ёсць “Святы Покрыў над Беларуссю”. Зьнічова паэтычная Асанна сваім пафасам гучыць ва ўнісон з духоўнымі вершамі сучаснікаў і папярэднікаў. Аднак Зьнічовы тэксты адметныя шматпланавай лексікай, своеасаблівым рытмам, інтанацыяй. Любімы яго знак – шматкроп’е, якім маніфестуюцца шматзначнасць, нявычарпанасць тэмы, пачуцця, настрою. Зьнічовы шматкроп’і імкнуцца кампенсаваць абмежаванасць, недастатковасць нашага чалавечага слова, надаць яму працягласць гучання ў часе, уласцівую музычнаму акорду.

І як, гаворачы пра Зьніча, не ўзгадаць яшчэ адзін тэматычны абсяг ягонай творчасці: услаўленне “зямнога”, дадзенага “пялёсткам крохкім”:

*...я вянчаюся, любы, з табой –*
*бо іначай душа ня можа –*
*прад Іконаю Маці Божай*
*з Немаўляткам Святым пад шчакой...*

*...прытуляю цябе – назаўжды!..*
*у раскошы... ў хваробе... ў патрэбе...*
*на зямлі і на зорным небе... –*
*зберагу цябе ад бяды!..*

*...летам спеўным... і лютай зімой...*
*веснім квеценем... шалам асеннім... –*
*шлюбны золак – прад Богам засцелем...*
*...я вянчаюся, любы, з табой...*

Зборнік “Саната поўні” пабачыў свет пад псеўданімам Ліставей. Усё

адно як няёмка Зьнічу за свае кахальныя матывы, нібы здрадай яны Існаму. Між тым, першы цуд Хрыста – ператварэнне ў віно вады на вяселлі ў Кане Галілейскай. "Нябёснае" і "зямное" знітаваны агульным сэнсам узрастання, спялення чалавечага на тутэйшым людскім падворку.

**Галіна ТВАРАНОВІЧ**

## ПАЭТ НА СУМОЎІ З БОГАМ

Раней я думаў, што манастыр – гэта рэпетыцыя смерці. Чалавек знікае для сяброў і сваякоў, тлумных застолляў і штодзённага змагання за месца пад сонцам. Апынаецца ў абмежаванай прасторы, дзе не змаўкае рэха малітваў, а вочы святых з абразоў ні на мірг не пакідаюць яго сам-насам – супакойваюць, прасвятляюць, дакараюць. Чалавек сыходзіць, і свет спахопліваецца, і абураецца – яго пакінулі, бо знайшлі лепшы, яму сказалі "бывай", але не дазволілі падвесці рысу эпітафіяй.

Калі ў манастыр сыходзіць паэт, аматары эпітафійнага жанру задаволена паціраюць рукі й вострацць зубілы, каб выбіць на мармуры развітальны радок. Як быццам існаванне паэта ў *паза*грэшным свеце цалкам немагчымае. Расейцы нават любяць рыфмаваць *стихи – грехи,* але ж гэта расейцы, у іх свае правілы жыцця...

Ды мінае час, і свет пачынае зазіраць праз шчыліны ў манастырскай агароджы – а як там паэт, што ён думае пра мяне *цяпер*? І гэтая абывацельская цікавасць нагадвае інтарэс доктара Моўдзі, які запісаў сведчанні паўтары тысячы пацыентаў, што пабылі на тым свеце. Ну вельмі хочацца паглядзець на сябе ў люстэрка, прымацаванае ў другім вымярэнні. І манах пачынае спаважна дзяліцца набытай у святых сценах мудрасцю, шчодра цытуючы айцоў царквы.

Гэтак мо дзе на Валааме ці на Салавецкіх выспах. А прымяркоўна да беларускай сітуацыі... Няхай не ўспрымуцца мае словы як

блюзнерства, але беларускамоўны паэт у праваслаўным манастыры здаецца мне місіянерам, які наварочвае ў сваю веру новых вернікаў. Робіць хрост беларускім словам.

Паслушнік Алег Бембель у Жыровіцкім манастыры – стваральнік вершаў-маленняў, каталізатар беларушчыны. Кожны з насельнікаў манастыра стараецца ў размове з ім хоць колькі словаў сказаць па-беларуску. Я на свае вушы чуў, як у *трапезнай* сыпала беларускімі словамі *матушка* Саламея, як павольна падбіраў напаўзабытыя за дваццаць гадоў жыцця на чужыне словы айцец Леанід. А ўжо выйшла семнаццаць нумароў багаслоўска-літаратурна-мастацкага лістка "Жыровіцкая абіцель" – трохмоўнага, але ўсё ж першынство на яго старонках аддадзена беларускай мове. Рэдактар ягоны, як і сталы аўтар – паслушнік Алег. Распаўсюджваецца лісток бясплатна сярод наведнікаў манастыра – а іх за год тут перабывае тысячы. І разносяцца па Беларусі лятучыя лісткі з нязвыклымі вершамі, у якіх шматкроп'яў – нібы на спіне ў божых каровак:

*...зямную сцяжыну завершы*
*раскаяным сэрцам, найперш...*
*маленні – вышэй за вершы...*
*хай стане маленнем – верш!..*

Паэт пачасту ўжывае словы *завершы, завершыў*. Канцавыя вехі імкнецца разгледзець, ці мо таму, што ў іх чуюцца *вяршыні, вершы.* Здаўна помніцца чатырохрадкоўе, вартае калі не ўвечнення "на камні, жалезе і золаце", то памяткай кожнаму хрысціяніну мусіла б быць абавязкова:

*...раскрыжаванне кат завершыў,*
*аблашчыў кужаль кроў жыцця...*
*...так, плашчаніца – гэта першы*
*мой бел-чырвона-белы сцяг!..*

Напісаў паэт Зьніч гэтыя радкі й адчуў адказнасць, несувымерную са звычайнай людской адказнасцю за ўчынкі ці словы, кінутыя на паперу, як на вецер. І стаў паслушнікам Алегам, каб прыслухацца да таемна-глыбінных сэнсаў. Каб жа ўсе майстры пяра т а к вычувалі слова! Прыгадваю назвы нядаўна выдадзеных беларускіх кніжак: "Галгофа", "Ручнічок на крыжы", "Зніч крыжовых дарог", "На крыжовай дарозе", "Нясу свой крыж", "Аброчны крыж", "На крыжах"... Суцэльнае ўкрыжаванне, а не прыгожае пісьменства. Атрымліваецца, што да вядомых з тысячагадовай гісторыі крыжоў – лацінскага, антоніевага, андрэеўскага, георгіеўскага, грэцкага, ерусалімскага – трэба дадаць і беларускі літаратурны крыж...

Час, вольны ад манастырскіх послухаў, брат Алег праводзіць у зацішным кутку за ўнебаўзлётным Крыжаўзвіжанскім храмам. Там – ягоны скіт пад адкрытым небам, за якім цікуе хіба засамочаны бусел з буслянкі на старым дубе. Як пасланец нябёсаў, дапільноўвае – ці зрыхтаваўся паэт да прымання боганатхнёнага радка, да радаснага сумоўя з Богам.

**Міхась СКОБЛА**

## “НЕ ПРЫМАЮЦЬ ПРАРОКА Ў АЙЧЫНЕ СВАЁЙ....”

Алег Бембель у Жыровіцкім манастыры не самотны. У свеце грэшным ён мае тры кніжкі. Першая – у жанры журналісцкага даследавання “Родная мова і маральна-эстэтычны прагрэс” (Лондан, 1985). Пра здраду роднай мове русіфікаванай савецкай Беларусі. У бязмоўі знікалі аўтэнтычныя беларусы. Паводле прароцтва Францішка Багушэвіча. Заставалася толькі рэштка – “закваска” і “соль” роднае зямлі. Ля такой мяжы стаяла Беларусь чарнобыльскай вясной 1986 года. Якраз у першыя дні чарнобыльскай катастрофы партком Акадэміі навук па загаду зверху пачаў цкаванне ўсіх, хто меў дачыненне да Бембеля і ягонай кніжкі. У тым жа 1986 годзе выйшла першая кніжачка вершаў Алега. Ізноў у далёкім замежжы. З прадмоваю вядомага гісторыка і журналіста Янкі Запрудніка.

Але пра кніжкі Алега Бембеля, мабыць, ужо грунтоўна сказана ў гэтай падборцы. У сваёй нататцы буду гаварыць толькі тое, што ведаю, магчыма, толькі я адзін. Пра жыццё чалавека, як пра нейкі экзістэнцыяльны мастацкі твор. Ён – з кагорты вечных пачынальнікаў. Пачынаў ён шмат і ў розных добрых справах. Але без доўгатэрміновага развіцця і завяршэння. Упершыню я сустрэўся з ім на пачатку 70-х гадоў. У інстытут філасофіі і права, дзе я працаваў тады, прыйшоў здаваць экзамен па эстэтыцы чарнявы барадач, студэнт трэцяга курса вячэрняга аддзялення Беларускай кансерваторыі. Пазней я даведаўся, што да кансерваторыі Алег два гады вучыўся ў Мінскім

політэхнічным інстытуце. Кансерваторыю ён закончыў, і пазней па натхненню мог добра выканаць любімыя класічныя творы для сяброўскай публікі. Але прафесійным музыкам-артыстам не стаў. Хоць сам быў прыроджаным артыстам. Верагодна, Алег ніколі не любіў жорсткай дысцыпліны, неабходнай для прафесіянала.

Бацька ягоны, скульптар і народны мастак Андрэй Бембель, таварышкаваў з былым дырэктарам і былым цэкоўскім ідэолагам Казімірам Буславым. Не роўныя па таленту (К.Буслаў быў чалавек у пэўным сэнсе разумны, але належаў да ленінска-сталінскай “філасофіі”), яны, ды яшчэ нехта, сустракаліся як аматары-паляўнічыя. Ведаючы захапленне Алега эстэтыкай і філасофіяй культуры, Буслаў рэкамендаваў яго ў аспірантуру свайго інстытута. Разам яны прыдумалі тэму дысертацыі. Нешта накшталт “Музычная культура Беларусі ў перыяд Вялікай айчыннай вайны”. Мне Буслаў прапанаваў быць навуковым кіраўніком Бембеля. Тады яшчэ нявопытны ў калянавуковых гульнях, я ўсё ж прадчуваў “пастку” ў гэтай тэме – нейкім беларускасавецкім сімбіёзе. Я прапаноўваў свае, чыста беларускія тэмы. Але дырэктар не давяраў мне, рэдкаму тады беспартыйнаму супрацоўніку інстытута. Ён і аспірант Бембель (ён тады ўжо быў камуністам з вялікім стажам), кожны па-свойму, мелі пэўныя ілюзіі наконт адзін аднаго і не прынялі маёй альтэрнатыўнай прапановы. Урэшце я здаўся, хоць недзе ў падсвядомасці чуўся голас: тут хаваецца небяспека, а можа і Алегава “смерць” як навукоўца. На жаль, верх узяла логіка, а не інтуіцыя.

За тры гады Алег напісаў дысертацыю ў дзвюх частках. Другая частка – набор эмпірычных фактаў, як звычайна бывае ў такіх аспіранцкіх даследаваннях. Затое першая – не па правілах напісаная тэарэтычная “ўверцюра” пра гарманізацыю ўласна нацыянальнага і універсальнага ў нацыянальнай культуры. Мы часта сумовіліся на гэтую тэму без правілаў афіцыйнай гульні ў савецкую навуку. Фрагмент з гэтага даследавання мне ўдалося прапанаваць у зборнік нашых калегаў аж у Новасібірску, дзе мы ўдзельнічалі ў навуковай канферэнцыі. Надрукаваны даклад Бембеля крыху штучна названы (каб патрапіць у кантэкст канферэнцыі, прысвечанай М.Чарнышэўскаму) “Н.Г.Чернышевский и проблемы национального в духовной культуре”, здаецца, застаўся адзінай публікацыяй, прысвечанай гарманізацыі і адаптацыі “інтэрнацыянальных кампанентаў” у сістэме нацыянальнай культурнай традыцыі. Па сутнасці, пачатак адкрыцця ў галіне сацыялогіі культуры і культурнай палітыцы, сёння “закрыты” шматслоўнай балбатнёй.

На жаль, тады Адегу не дазволілі шырока аргументаваць сваю ідэю. Аддзел “навуковага” сацыялізму на чале з акадэмікам Буславым угледзеў у ягонай дысертацыі “наццэмаўшчыну, замаскіраваную марксіс-

цкай ідэалогіяй" (так называўся апублікаваны ў 1931 годзе артыкул Пятра Глебкі супраць свайго калегі па "Узвышшу" Адама Бабарэкі). У шальмаванні Бембеля "бусляняты" пераўзышлі самога Буслава, які, трэба прызнаць, хоць строга стаяў на сваіх бальшавіцкіх догматах, але паводзіў сябе карэктна.

Недзе каля 1980 года Алега выжылі з пасады малодшага навуковага супрацоўніка. Два гады ён жыў выпадковымі заробкамі ў літаратурна-драматычнай рэдакцыі Беларускага тэлебачання (тады кіраўніком гэтай установы быў Генадзь Бураўкін). І там ён здолеў арганізаваць жывыя дыскусіі па актуальных праблемах беларускай культурнай спадчыны. Праз год я абараніў у Маскве доктарскую дысертацыю па гісторыі эстэтыкі. Яшчэ праз год новы дырэктар інстытута Яўген Бабосаў прапанаваў мне адкрыць аддзел эстэтыкі і сацыяльнай псіхалогіі. У новы аддзел мне ўдалося вярнуць Алега.

Такім чынам у асяроддзі зрусіфікаваных філосафаў і юрыстаў зноў аказаліся аж два "нацыяналісты". Я працаваў пераважна на ідэю. Алег жа пачаў прапагандаваць практычную беларусізацыю. Зноў жа мне патаемны голас душы нашэптваў: з'ядуць Алега савецкія ваўкалакі, задзяўбуць інстытуцкія пеўнікі і куркі. Але калі і хто мог спыніць прарока? У практычным жыцці ён парадаксальным чынам быў прагматычным ідэалістам: насуперак старадаўняй прымаўцы хацеў "вымыць арапа да белага". Тутэйшыя "арапы" скора даказалі яму, як можна ва ўмовах дэмакратычнай перабудовы цкаваць "нацыяналістаў" за іхнюю любоў да роднае мовы.

Арганізаваныя "зверху" ганенні пачаліся вясною 1986 года, калі ідэалагічная паліцыя вылавіла лонданскую кніжку Алега Бембеля "Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс". Цкаванне аўтара кнігі, загадчыка аддзела і нават абыякавага да беларускае мовы дырэктара цягнулася доўга і метадычна на бясконцых сходах, парткомах, абкомах, мандатных камісіях. Так званая "справа Бембеля" дайшла аж да асобнай караючай камісіі ЦК КПСС і на кожным этапе абрастала новымі абвінавачваннямі. Тутэйшыя янычары выкарысталі яе, каб канчаткова расправіцца з беларушчынай у Акадэміі навук. Алега Бембеля выключылі з партыі (аўтаматычна таксама з інстытута), мне прыйшлося закрыць свой аддзел. Здаецца, і дырэктара Бабосава (атрымаў за нас строгую вымову без занясення ва ўліковую картку)аднойчы пакрыўдзілі, не пусціўшы ў чарговую замежную камандзіроўку на чарговы філасофскі кангрэс. Мяне і Алега абходзілі баязліўцы на вуліцы, каб не павітацца.

Дзесяць гадоў чакаў я ад Алега, каб ён сам расказаў у нарысах, аповесцях, трагікамедыях пра свой і беларускі духоўны чарнобыль. Бо ён вёў уласны пратакол гэтага палявання на апошніх беларускіх "нацыяналістаў" у Акадэміі, мае недзе з паўпуда пратаколаў, іншых

дакументаў. Не дачакаўся: вечна зачараваная душа майго вучня захапілася новымі ідэямі і падзеямі.

Сярод безлічы сцэнаў сутыкнення “нацыяналіста” з бальшавікамі ўспомню толькі некалькі. Сцэна першая. Партсход выключае Бембеля з “членов КПСС”. Запомнілася кампазіцыя: перад баязліва злоснай публікай стаіць бедна адзеты і даўно не стрыжаны, рашуча адважны “злачынец”, дзве гадзіны запар адбівае атакі актывістаў. А мне ўяўляецца сцэна палявання: зграя ганчакоў насядае на маладога мядзведзіка, а ён не ўцякае, адбіваецца лапамі, нагамі і лахматаю галавою. Сцэна другая: выключанаму з “членов” Алегу, які апелюе да сумлення розных інстанцый Акадэміі, каб яму дазволілі працаваць хоць лабарантам, дазволілі прысутнічаць на чарговым сходзе: наш мядзведзік стаіць без усякіх комплексаў ля дзвярэй, партактыў сядзіць самавіта і па чарзе бічуе “нацыяналіста” бальшавіцкімі штампамі. Эпізод трэці. “Справа Бембеля” даходзіць да бюро ЦК КПБ. Сустракаю яго пасля суда гэтага сінедрыёна прасветленым, амаль радасным. Значыць, адмянілі выключэнне і выгнанне з працы? – пытаюся са здзіўленнем. Не, кажа Алег, але Таразевіч вёў пасяджэнне бюро на беларускай мове. Сцэна маскоўская. Алег дайшоў да парткамісіі ЦК КПСС. Там нейкі член найвышэйшага бюро, бальшавіцкі доўгажыхар накрычаў на “лішэнца”, тройчы пракрычаўшы яму чарнасоценскую байку: непісьменным беларусам, пастухам і лапатнікам, культуру і цывілізацыю даў Сталін: школы, універсітэты, тэатры і нават дзяржаву. Алег хацеў запярэчыць: але няхай бы гэтыя школы, універсітэты і сама дзяржава захавалі родную мову. А пастухамі быць не сорамна: пастухамі былі нашыя прабацькі Адам і Ева, біблейскія Абрам, цар Давід. Пастухом народаў быў і застаўся сам Ісус Хрыстос. Але член грозна паказаў прароку на дзверы. Там, у прылазніку ўжо стаяў бальшавіцкі фарысей-суцяшальнік: працуй, казаў ён, Алегу, выкупляй віну перад партыяй – і ўсё будзе добра. Наогул жа той маскоўскі архібальшавік “дыпламатычна” і ціха казаў тое, пра што сёння на бульварным узроўні гаўкаюць тутэйшыя чарнасоценцы. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова прачытаць артыкул “Ржавые перья” ў расійскай патрыятычнай газеце “Завтра” (1999, № 15), перадрукаваны ў мінскім базарным “Славянском набате”. Я ледзь было не пачаў пісаць адэкватны адказ на гэтую паклёпніцкую правакацыю. Але ўспомніў параду А.Пушкіна: “...И клевету приемли равнодушно, и не оспаривай глупца”.

Да 1991 года Алег Бембель неяк жыў, пісаў вершы, моцна захапіўся палітычнымі рухамі, спадзяваўся адрадзіць Беларускую Хрысціянскую Дэмакратыю. Друкаваўся рэдка. За паўгода да заснавання Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны я папрасіў яго псіхалагічна падрыхтавацца да супрацоўніцтва ў гэтым асяродку беларушчыны. Пабыў ён у нас каля трох гадоў. Але ўжо не здолеў увайсці

ў навуковы кантэкст. Майго сябра і вучня апанавала нейкая алергія да навукі. Напаўжартам нападаў на сцыентызм (ад лацінскага scientia – веды, навука), націскаючы на першую частку гэтага слова. Рэальна жыў у палітычным руху, паэзіі і найбольш – у новай ідэі выратавальнай місіі Праваслаўнай Царквы. Замест тэарэтыка-аналітычных планавых даследаванняў напісаў апалогію праваслаўя ў прозе і вершах. Дарэчы, тады ж яго прынялі ў Саюз пісьменнікаў Беларусі як паэта і публіцыста.

Амаль уся паэзія Алега запісана ім для мяне. Гэта – копіі першых варыянтаў. Вершы розныя па тэматыцы, інтанацыі, жанру: сацыяльна-публіцыстычныя, пераважна ў абарону беларускай мовы і культуры; лірычныя, нейкі час нават памяркоўна эратычныя; урэшце, аказіянальныя, дасціпныя, напісаныя "на выпадак" сябрам і калегам. Ёсць у яго пераклады з рускай класічнай паэзіі, і тут адчуваецца добры густ, станаўленне прафесіянальнасці. На жаль, нейкі неабдымны універсалізм інтарэсаў і каштоўнасцяў не дазволіў Алегу сістэмна развіваць свой паэтычны стыль і сваю мастацкую мову. І тут, як раней у музыцы, ён – вечны студэнт і пачынальнік.

Нашаму сябру наканавана было жыць на мяжы крайнасцяў. Будучы універсалістам, ён за некалькі гадоў да свайго 60-годдзя замкнуўся ў манастыры. Дык што ж, паспачуваем яму за няўдачы ці павіншуем з перамогай? Бо ведаем: нярэдка параза лепш за шумную перамогу. Ва ўсякім выпадку Алег перамог самога сябе: з вечнага пратэстанта (у сэнсе апазіцыйнасці) ён стаў паслушнікам. Па сутнасці ўсе мы абязаны быць паслушнікамі: кожны ў сваёй добрай справе.

Калі ж Алегу ўдасца беларусізаваць адзін манастыр, альбо хоць дадаць там, як ён казаў, "беларускі нацыянальны элемент", то гэта – добрая, нават вялікая, справа. Як сказаў Ісус Хрыстос: "...Ніводзін прарок не прыймаецца ў сваёй бацькаўшчыне" (Лк. 4:24). Аднак жа, у рэшце рэшт, перамагаюць пракрокі.

**Уладзімір КОНАН**



## ІНЕСА ТАРАСАВА

*У зале смяротна-хворай,*
*дзе кветкі – адбітак болю,*
*жалобны спектакль актора –*
*яго апошняя роля.*

## ПАНІХІДА

У зале смяротна-хворай,
дзе кветкі – адбітак болю,
жалобны спектакль актора –
яго апошняя роля.

## ПАЖЫЦЦЁВАЕ

Акрэсліць травень настальгічны
краявід.
У пацерках чырвоных згасне лета.
Пахмурай восені дажджлівы аксаміт
аздобіць студзень срэбным
бранзалетам.

***

Неймаверна прыстойныя дні, бы прапахлыя воцатам,
пільнавалі апошнюю сувязь, таемную, моцную.
Змрочны золак хаваў крышталёвае
вока ліхтарні,
і здаваўся інтымным тады нават дотык дыхання.

***

Дзе кава пахла цыкорыяй
і водар плыў вераснёвы,
мастак маляваў надвор'е
і колер абраў барвовы.
І позірк яго найсветлы
з'яднаўся з маім на золку.
Самотным быў подых ветру,
пакінутай візітоўка.

## 31.08.95.

Абразок павесь на чырвоны кут.
Хай астатні шлях –
доўгім бранзалетам.
Аднастайнасць тэм – проста аксаміт,
дзе апошнім днём памірала лета.
Што ўсяму свой шлях –
адчуваў цягнік,
вёз мой сум з нагоды пачатку працы.
Хіба помню я, калі горад знік
і пачаўся жаль па святочным пляцы.

***

У апусцелай зале
без дэкарацый,
песні, што вы спявалі,
прагнуць авацый.
Я пакідаю проста,
нават без жалю,
недасягальны востраў
музыкі балю.

***

Не шкадуе адзіная зорка з нагоды,
што за безліч пачуццяў не мае
ні цэнта.
Дзень, асуджаны быць мітуслівым,
нягодным,
па-майстэрску расставіць начныя
акцэнты.

***

Тэатр звычайны,
не адмысловы.

Колер адчаю –
цёмна-ліловы.
Актор у чорным –
адбітак гора.
Антракт мінорны –
чырвона-хворы.
Класічна-зорны
акт першай дзеі.
Фінал адмоўны –
колер надзеі.

***

Пані ноч ахінае постаць,
і я мушу пад парасонам
бачыць у пальцах нервовых лотаць
ды вільготны шалік чырвоны.
Позірк кінуты неахайна –
я запомніла ўсё дэталёва...
Быў прыпынак жахліва-файны,
як аповеды А.Казлова.

## АДВІТАННЕ

Стыў позірк, згаслы і чужы.
Быў згублены знарок квіток
плацкартны.
Тутэйшая карчма была нявартай
пачуццям нашым збудаваць крыжы.
Паўднёвы вечар пакрысе зачах...
Ягоны лік падобны быў да бога.
Адно – на вабным твары жах
ён бездакорна змаляваў з Ван Гога.



## Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ

***

Шукаю навіны
у леташніх газетах,
шукаю краіну,
якой няма на свеце,
шукаю свабоду
у металёвай клетцы,
шукаю сябе…
Але прыносіць вецер
адну толькі песню
пра немінучасць смерці,
ды ведаю я:
жыццё чакае дзесьці…

# Міхась Южык



*Адзіная пагроза насамрэч ссунуцца з глузду паходзіла ад несупыннай гутаркі з самім сабой, замыкання ў ссохлай цялеснай абалонцы, адсутнасці вонкавай інфармацыі, бяздзейнасці.*

# СТУПЕНЬ СВАБОДЫ

*аповед у аповедзе*

## 1

Вы пытаеце, дзе мяжа паміж чорным і белым? Дзе тая мяжа?! Не, вы мяне ні пра што не пытаеце. Гэта я, звар'яцелы пісака, няўмела намагаюся скласці будыніну з фанабэрыстых постацяў і цьмяных меркаванняў. Падмурак будынка — вера адных і нявер'е іншых, а камянямі, так, акурат крывымі, вуглаватымі каменьчыкамі з'яўляюцца ўсё тыя ж супрацьлегласці. Яны не існуюць адзін без аднаго, складваюцца парамі і падпіраюцца трэцім, чацвёртым, пятым. Што значыць дабрабыт без ліха альбо баязлівасць без смеласці, нянавісць без любасці і іншае, і іншае... І ладзіцца будынак, імя якому — рэчаіснасць, і разбураецца ён кожны раз, бо адзін з ніжніх камянёў быў падабраны няўдала ці няправільна састыкаваны з паплечнікам... Як развальваўся ён безліч разоў за гісторыю чалавецтва. Але ўсё ж — вось вам аповед, у якім, па меншай меры, палова праўды, калі ўжо надумаліся мне давярацца.

Справа была на пачатку 70-х. Я, малады і, як кажуць, "перспектыўны" пісьменнік, нядаўна ажаніўся. Мы бавілі мядовы месяц у Крыме, у пісьменніцкім санаторыі. Да таго часу я ўжо заявіў пра сябе пэўнымі мастацкімі творамі, удала ўвайшоў у кола так званай літаратурнай эліты. У адным з

“тоўстых” часопісаў пабачыла свет мая аповесць, рыхтавалася да друку другая. Літаратурныя поспехі, а таксама знаёмствы і апекаванні ў памянёных колах дазволілі мне маляваць будучыню даволі вясёлымі фарбамі. Міжвольна ўяўляўся сабе гэткім лагодным мэтрам, што самавіта ўзвышаецца за пісьмовым сталом шыкоўна абсталяванага кабінета. Жнівеньская раскоша крымскага ўзбярэжжа адпавядала майму ўнутранаму стану.

Кампанія надарылася самавітая: паэты і празаікі, знакамітыя і не вельмі, маладыя і старыя, з сем’ямі і без — асяроддзе, аб якім захоплены трыццацігадовы літаратар мог толькі марыць. А яшчэ — прыгажуня-жонка, а яшчэ — утульны пакой на другім паверсе, што глядзеў напрасцяк у персікавы сад, а яшчэ — галечны пляж за фарбаванай агароджай, дзе грэліся і раскашаваліся тыя абраныя асобы... У галаве грувасціліся і спелі будучыя высокамастацкія творы, а плоць насычвалася энергіяй паўднёвага мора.

Мы гутарылі пра ўзнёслае: пра творчасць Чэхава і Дзікенса, Гейнэ і Пастарнака, пра любасць, годнасць і чалавечнасць. Што, аднак, не перашкаджала мне літрамі хлябтаць белае віно, уначы па-жывёльнаму валтузіцца з жонкай у ложку, а назаўтра, седзячы поруч з ёй у рэстаране, крадком і не без цікавасці пазіраць на вабных дзяўчат за суседнім столікам. Ды яшчэ і абмяркоўваць потым іхныя “вартасці” з прыяцелямі. Але цела, маладое цела патрабавала жыцця. Не папікаць жа яго хаця б у тым, што яно хоча есці! Нам было лёгка і радасна, і хто скажа, што не жадаў бы таго ж?

Белыя кучары на сіне-зялёным абшары, катамараны і лодкі, напаленая сонцам галька, маляўнічасць садоў і вінаграднікаў, густыя духмяныя вечары... Усё прамчалася, прамільгнула, збілася ў адзіны павеў — лёгкую, рухавую белую птушку.

...Наша шчасце доўжылася тры гады. А затым адно ма-

 



ленькае слова, адна вялізная і значная акалічнасць пачала ўпарта і няўмольна падточваць яшчэ не пабудаванае жытло. Дзіцё! Маленькі камячок, першынец, капрызны карапуз, румяны крыкун... Яго не было ў нас, яго ж, якраз, і не было. Пачаліся недамоўкі, спрэчкі, сваркі — звычайныя, звыклыя сямейныя варункі. Іх я апісваў мноства разоў у сваіх творах, перайначваў на ўсялякі лад, аналізаваў. Але так, як і героі мае, апынуўся перад імі бяссільным і нехлямяжым. Прырода, закон захавання матэрыі і эмоцый... І ўсё! І нікуды тут не падзецца. Наш човен даў нахіл, і нахіл сур'ёзны.

Нежаданне, а мабыць і страх выявіць прычыну непаўнацэннасці сям'і яшчэ горш абвастрылі становішча. Мае продкі таілі крыўду на жонку, продкі яе — коса і кпліва паглядвалі ў мой бок. Дробязі стасункаў сямейнага побыту не давалі плённа працаваць, а гэта — мой хлеб. У кабінет пастаянна ўрываліся груба і недарэчна, адкрыта дакаралі за бяздзейнасць, пусты халадзільнік, нягожыя кілімы і голыя сцены, прымушалі кудысьці бегчы, штосьці шукаць — назапашвацца. Да таго ж трэба было нязменна прымаць (і грунтоўна!) шматлікую радню жонкі, выслухваць за сталом іх дзікія жарты і блазёнскае рагатанне. А ў кабінеце чакалі творы, дзе апошнім часам панавала бязладдзе, дзе нічога не спалучалася і не клеілася. Героі мае зрабіліся млявымі, кволымі, бляклымі і надзіва неафармленымі. Сюжэты — надуманымі і непрывабнымі. Я пачаў пісаць штампамі. Штохвілінна раздражняўся, узрушваўся, раз'юшана касаваў і камячыў паспісваныя аркушы і бег курыць на лесвічную пляцоўку (у пакоях курыць не дазвалялася). Амаль з год мяне адпрэчвалі нават самыя заняпалыя выдавецтвы. І мелі рацыю — прымыць не было чаго насамрэч!..

Лаяў увесь свет і сябе ў ім. Я стаў бурклівым і прычэпістым не па ўзросту. Пакінуты не на тым месцы кубак, перасоленая страва, рэзкі гук тэлевізара маглі пры-

 

весці мяне ў шаленства, даць падставу для працяглай сямейнай сваркі, а іншы раз і бойкі з жонкай. Нас мірыла толькі пасцель. Але і яна праз пэўны час не здолела ўтрымаць тую хісткую, падманную раўнавагу. Гэта было жахліва!

Нервы гаротнай жонкі не вытрымалі. Ці вінаватыя ў тым прыродная схільнасць або наша нявартае жыццё, — а толькі яна цяжка захварэла і неўзабаве была накіравана ў клініку для вар'ятаў. Дакоры сумлення, а яшчэ і несупынныя званкі і праклёны жончынай радні, якія доўжыліся некалькі месяцаў пасля гэтага, падвялі мяне самога да стромы псіхічнага зрыву. Хто захаваў са мной ранейшыя добразычлівыя адносіны, то гэта бульдог Чорны — маўклівы вартаўнік заняпалага дома. З бацькамі я практычна не меў зносін і ў панылай самоце сядзеў у сваім кабінеце. Зусім не пісалася. Сердаваў, высільваўся, але не мог выціснуць з сябе сюжэта для самага сціплага апавядання. Перагортваў купы часопісаў, старых кніг, спадзеючыся адшукаць штосьці слушнае. Марна: уяўленне маё, нядаўна такое гнуткае і нястрымнае, цалкам адмаўлялася ад работы. Гэта быў крызіс, амаль скон!

Балазе нешматлікія колішнія сябры, як маглі, давалі магчымасць падзарабляць на жыццё планавымі перакладамі. Дапамагалі неблагія веды англійскай. Каб не яны, ды не бацькі, харчам і дахам якіх я карыстаўся без найменшага намёку на ўдзячнасць, мне б давялося падмятаць вуліцу ці жабраваць. Аднойчы, седзячы за сталом і млява разблытваючы мудрагелістыя фразы чужога тэксту, я раптам зразумеў, што выконваю гэта акурат механічна, што брыдкія мне і аўтар сам і пабудаваныя ім думкі і вобразы. Нават пасля дзесяціразовага пільнага разбору абзаца сэнс выказанага быў мне няўцям, не пранікаў у сэрца. Галава нібыта запоўнілася густой і ліпкай смугой. Раптам падалося, што я з'язджаю з глузду. Аблічча нябогі-жонкі жвава паўстала перад унутраным во-

кам. Уціснуўшы ў зубы папяросу і ашчаперыўшы абедзвюма рукамі галаву, я выскачыў на вуліцу. У хуткім часе ногі неяк самі дакрочылі да найбліжэйшай крамы. Купіў бутэльку партвейну, распачаў і спустошыў яе на лаўцы сквера ў адзіноце, як заціяты алкаш.

З таго дня я пачаў апускацца ўсё ніжэй і ніжэй. Благі настрой выпраўляў алкаголем, які на некаторы час адганяў кепскія думкі і супакойваў нервовую сістэму. А думаць я ні аб чым не мог, праўдзівей, ні аб чым добрым. Было куды лепш піць з кончанымі забулдыгамі барматуху перад крамай, слухаць пахабныя жарты і анекдоты, па-звярынаму забаўляцца з бруднымі дзеўкамі, чым знаходзіцца аднаму ў сваім абрыдлым пакоі, у кабінеце, дзе, як я меркаваў, вырасце вялікі пісьменнік. Я зарос шчэццю, зрабіўся неахайным і, мусіць, прыкрым нават для маці. Адчуваючы гэта, прабіраўся ў свой пакой крадком, несучы ў кішэні чарговую бутэльку, а ў роце вінны смурод. Але, як бы ні пацяшаўся я, ні забаўляў думкі і цела, далей сябе ўцячы ўсё адно не мог. У жахлівыя гадзіны ранішняга пахмелу душыў адчай. Я даваў сабе страшэнныя клятвы і зарокі, сядаў за стол і рабіў вартыя жалю высілкі да творчасці. Але нават пераклады мае сталі нікуды не прыдатнымі. Таварышы-супрацоўнікі забыліся на мяне, акрамя аднаго, ад якога менш за ўсё можна было чакаць сяброўскай вернасці. Дый ці мог патрабаваць спагады ад кагосьці няўдалы пэцкаль паперы, што страціў чалавечае аблічча?

Менавіта прыяцель той і запрасіў мяне з надыходам лета ў пісьменніцкі санаторый, на які я ўжо бадай не меў аніякіх правоў. Сумная перспектыва марнаваць цэлае лета ў панурай самоце ці сноўданні паміж пакоем і віннай крамай вымушала мяне згадзіцца нават на месца, дзе кожны выгін сцяжынак будзе балюча нагадваць пра згубленае сямейнае шчасце, пра няздзейсненыя мары. Вось маё месца ў жыцці: ці тут, ці там — выбірай! Але разладжанае фізічнае зда-

роўе, а тым больш кепскі душэўны стан, патрабавалі адпачынку і мора. Таму я з удзячнасцю адгукнуўся на прапанову таварыша. У санаторыі меркаваў аднавіць страчаныя сувязі, набыць новых знаёмых. Спадзяваўся і на прыдбанне творчых сіл.

Гэта былі толькі надзеі. Я стаў ужо іншым чалавекам. І, што самае жахлівае, згубіў запал да барацьбы і павагу да ўласнай асобы. Я забыў, як жывуць нармальныя людзі, страціў усе жыццёвыя вартасці і накірункі. Заставалася альбо пачынаць усё з нуля, альбо бязвольна каціцца па адхоне. Алкагольная загана ўгодліва і лісліва прапаноўвала запоўніць пустэчу нікчэмнай істоты. Мне дапамог выпадак.



Аднойчы ўвечары, знаходзячыся ў звыклым пахмурным настроі і змагаючыся са спакусай "адпачнуць" з пляшкай у адзіноце, я прагульваўся па санаторным садзе. Пустэча прыгнятала. Але за доўгія месяцы адасобленасці і злосці на ўвесь свет я проста развучыўся мець зносіны з людзьмі, я баяўся іх. У кожным чужым поглядзе хваравіта ўяўляў папіканні і кпіны. Гэта было накшталт маніі праследавання. "Няўжо я хворы!" — усё часцей свідравала праклятая думка. Змардаваная ёй душа прагнула аддухі, і Наканаванне мне яе прапанавала.

— Спатыкнешся, хлопец! — аклікнуў мяне роўны ветлівы голас.

Гэта быў садоўнік. Так, звычайны садоўнік — загарэлы стары гадоў шасцідзесяці. Ён і раней поркаўся тут: падстрыгаў хмызняк, прарэджваў кветнікі, падмятаў дарожкі. Мы з жонкай звярнулі на яго ўвагу яшчэ ў мінулы прыезд. Ягонае рудое жылістае цела з ранку да прыцемкаў мільгала ў зяляніве гэтага садка. "Дзівак! — думаў я тады. — Усе адпачываюць , а ён рупіцца і яшчэ рады".

Вось і цяпер у адной руцэ стары трымаў вядро, у другой — шуфлік і ўсміхаўся, дэманструючы не па гадах гожы набор зубоў. Мяне ўразілі вочы. Як бы тое ні было, аналізаваць — мая прафесія. Вочы ў старога добрыя і светлыя, дзіцячыя. Такія бываюць, бадай, у святых альбо ў тых, хто зашмат пакутаваў (што, верагодна, тоесна).

— Прабачце! — я па звычцы буркнуў сабе пад нос і хацеў ужо рухацца далей.

— Чалавеку не варта быць аднаму… — ад гэтай простай фразы мяне перасмыкнула.

— Які чалавек? — я няўцямна ўтаропіўся на садоўніка.

— А ці вы не адзін?

Я не ведаў, што адказаць. Падалося толькі, што ў ясных вачах старога я бачу мора. Што за насланнё!

— Вось я не адзін, — працягваў ён ціха, прыязна разглядаючы маю асобу, — я з морам і садам, з сабачкамі маімі і птушкамі, з маёй працай. — А вы адзін, малады чалавек. Вы гледзіце долу, а на зямлі ж вас амаль ужо няма…

Гэта было занадта! Тут магчыма наступнае — вар'ят ці я, ці ён. Добра, па меншай меры, я маю рацыю патрабаваць тлумачэнняў.

— Прашу вас не здзіўляцца, — апярэдзіў стары, — але калі чалавек раніцой, удзень і ўвечары шыбуе па сцяжынах пустэльнага саду, штохвілінна наторкваецца на хмызы і кветнікі, да таго ж яшчэ мармыча пад нос і жэстыкулюе, пагадзіцеся, — тут штосьці не тое… Гэткага шпацыру пэўна не існуе ў санаторным распарадку. Вы нервуецеся, а мерныя крокі вас супакойваюць.

— Але, чакайце, чаму мяне няма?!

Садоўнік схіліўся да несамавітага сабачкі, што ўвіхаўся ля ягоных ног.

— Зараз, Булька, зараз, красуня, я ўжо ўправіўся. — Ён апусціў шуфлік у вядро і, пагладзіўшы кудлатую натапыраную Бульку па загрыўку, неспадзявана прапа-

наваў. — Калі вы згодны падзяліць са мной сціплую вячэру, я змагу вам даць некалькі парадаў, а магчыма і дапамогу.

"Ён відавочна дзівак. Зрэшты, тым цікавей..." — падумаў я і пацягнуўся за садоўнікам, які на шляху да сваёй халупкі ні разу не зважыў на мяне позіркам. Стары кульгаў, і сур'ёзна. Падцягваў правую нагу, якая была прыкметна карацейшая за левую і быццам скрыўленая. Я не заўважыў гэтага раней толькі таму, што заўжды заставаў старога за працай, а не ў хадзе.

Каля флігеля, невядома адкуль, насустрач нам выбеглі тры сабачкі, адзін за аднаго выродлівей, і весела завіхлялі хвастамі... Я ступіў у паўзмрок цеснага памяшкання. Стары запаліў святло. Некалькі папугайчыкаў, што дагэтуль хаваліся па кутах, прыязна заварушыліся, а адзін узляцеў і сеў на плячо садоўніку.

Не скажу, што быў надта збянтэжаны пры хуткім аглядзе гэтага жытла, але, ва ўсякім выпадку, некаторыя рэчы ніяк тут не меркаваў убачыць. Як тое: на ўсю сцяну самаробную кніжную паліцу, якая была застаўлена знаёмымі тамамі класікаў; стосікі старых літаратурных часопісаў — проста на падлозе; некалькі рэпрадукцыяў вядомых палотнаў; пераносны тэлевізар. З мэблі было: невялічкі стол, крэсла, шыфаньер, тумбачка, драўляны тапчан — усё, відаць, выраблена самім гаспадаром, і даволі ўмела. Адну сцяну амаль цалкам займаў камін. Вось, бадай, і ўсё. Птушкі, сабакі, а яшчэ агромністы шэры кот, што неўзабаве вылез з-пад тапчана, спакойна ўладкоўваліся па любімых сваіх кутах і схованках. Не было ні падсцілаў, ні клетак, ні нават чагосьці накшталт замка ці засаўкі. Адзінае на ўсю хацінку акенца над ложкам скупа глядзела з даволі стромкага берага на пляж. Халупка стаяла акурат на самой строме.

Садоўнік прапанаваў мне прысесці на крэсла, а сам узяўся карміць шматлікую жыўнасць. Я маўчаў, блытаючыся ў

здагадках. Пытанні кшталту: "Дык вы адзін жывяце?" — былі недарэчнымі, бо стары не прасцяк — гэта безумоўна. Класікай нездарма ж назапасіўся, дый гаворка...

Гаспадар дастаў з тумбачкі літровы слоік з кіслым малаком, палову бохана шэрага духмянага хлеба, талерку з мытымі памідорамі і персікамі. Моўчкі пачалі вячэру.

— Я на харчаванні тут, але на кухні бяру толькі малако ды хлеб, — нетаропка пражаваўшы першы кавалак, пачаў садоўнік, — і сябрам маім — рэшткі са стала.

— І даўно вы тут? — не надта ўдала ўплёўся я ў гутарку.

Стары сербануў з кубка і на хвіліну задумаўся. Глядзеў скрозь мяне. Ізноў тое ж мора ў вачах!

— Паслухай. Я буду на ты з табой . А мяне заві Пятровічам.

— Згода.

— Я не буду накіроўваць, настаўляць ці прапаведаваць, — гэтага не люблю. Не стану пытаць, хто ты і што з табой здарылася, — мне гэта нецікава. Проста раскажу адну гісторыю. Распавяду яе таму, што бачу пустэчу ўнутры цябе, а ты бачыш яе звонку. Гэта гісторыя майго жыцця, або, калі хочаш, жыцця кагосьці іншага, — і гэта не важна. Ад калыскі немаўляці да гэтай халупы я досыць хадзіў па зямлі і, павер, пераважна спатыкаўся.

## 3. *(Распoвед садоўніка)*

Я нарадзіўся на Паўднёвай Украіне. Маленькі пасёлак паміж Пятроўкай і Адэсай, шматнацыянальны, жывы, сонечны, атулены стэпам і працяты ўсімі магчымымі вятрамі. Бахчы, сады, сланечнікі — бясконцае паўднёвае лета; гаманлівы рынак, яўрэйскія крамкі на плошчы — рахманае, няспешнае жыццё. Нас было трое братоў, маці і бацька. Я — малодшы. Гойсаў з хлапчукамі па вуліцах і гародах штодзённа, працаваў з-пад дубца. Да дзевяці гадоў. А

затым... Затым зваліўся з дрэва. Зваліўся з дзесяціметровай вышыні. Зваліўся — і карціла ж мне туды! Зваліўся... І ўвесь мой далейшы шлях, а праўдзівей, кульганне па жыцці, хачу я таго ці не, можа быць разгледжаны ў люстэрку акурат гэтай падзеі.

Мыліцы, кіёк і ўсялякія нягоды заўжды суправаджалі мяне па жыцці з таго помнага дня. Цяльпук, няўклюда, рахманы недарэка — акурат так вызначыў бы я сябе ў варунках далейшага лёсу. Жыццё прапаноўвала мне выпрабаванні адно за аднаго вытанчаней, штурхала, біла, давала выспятка, а я не супрацьстаяў яму ні воляй, ні злосцю, ні хітрасцю. Больш таго — я любіў яго, я ў яго верыў. Не ў агульначалавечую дабрыню і шчырасць, бо неўзабаве скеміў, што ў той сумятні і калатнечы, у дзяльбе багаццяў-уладаў няма для мяне нават найменшага, самага сціплага і крайняга месца. Я верыў у рудыя палеткі, бахчы і сланечнікі, цішу гаёў, духмянасць сунічных палянак. Верыў у працу рукамі —звычайнае штодзённае шчыраванне па гаспадарцы. Верыў у час. Але, у час, хай гэта цябе не здзіўляе. У таго вялікага настаўніка, лекара, удзячнага майго слухача. Ён, толькі ён прапаноўваў найлепшыя, самыя бяспечныя і ўдалыя для мяне, калекі, пралазы і накірункі, адводзіў ад найболей подлых здрадаў і бязлітасных боек, спраўджваў запаветныя мары.

А, зрэшты, мне і не трэба было нічога, апроч цішыні пад дахам роднай хаты, зычлівасці бацькі, сяброўства братоў, ціхай любові маці. І кніг. Я шанаваў кнігі, бо жыў, сапраўды жыў у гэтых светапабудовах, захапляючыся думкамі, высновамі аўтараў, спачуваючы іх герям. Менавіта яны, кнігі, дапамагалі мне адрозніваць існае ад шалупіння, па магчымасці ўнікаць агідных, жывёльных стасункаў рэчаіснасці, спакойна прымаць выпрабаванні лёсу. Пераджыць і вайну, у якой я з-за калецтва не браў удзелу, і смерць на ёй родных братоў і бацькі, і

здзекі фашысцкіх катаў ля роднага ганка. Пакорліва прыняць затым арышт ад савецкіх уладаў за працу на "трафейнай" тэрыторыі. Трываць пасля голад, уральскія маразы на лагерным лесапавале, дзённыя кухталі ад вартаўнікоў, начныя знявагі ад вынаходлівых у гэтай галіне зладзеяў, гвалтаўнікоў і забойцаў. Прымаць як належнае, без нараканняў, хаця за жыццё сваё не пакрыўдзіў, бадай, і казюлі.

"Усё будзе добра, — суцяшаў я сябе, — усё яшчэ будзе..." І верыў, далібог, шчыра верыў, што час разбярэцца, выправіць, злітуецца. Верыў, гарбеючы, стогнучы, енчачы ад болю і крыўды. Бо наперадзе, хлопча, было, заўжды было ў мяне добрае, светлае, чулае — мама, сунічныя паляны, жоўты, у пшанічных хвалях, стэп.

Як хораша, салодка прадчуваць недзе далёка-далёка, за стужкай далягляду, гэтыя цеплыню, спакой, клопат. Цешыць сябе імі... А калі няма нічога, калі ты кволы, безгалосы і бездапаможны? Калі наступны дзень, як і ўсе дні да скону, не абяцае табе ні святла, ні ўсмешкі? А ты спавіты ліпучай, цьмянай смугой — уласнымі думкамі. Чакаць смерці як збавення? А мо яна не сад у травеньскай квецені, а ўсяго толькі лёха, нежыццё, нерухомасць? Што, калі час табе ўжо не сябра?

...Я трапіў пад амністыю за год да заканчэння "законнага" тэрміну. Маці да таго часу памерла. Хата стаяла пазабіваная дошкамі і напалову спарахнелая. Сваякі не надта ўзрадаваліся, але ўсё ж спярша дапамаглі. Пачаў працаваць: проста як спосаб і сэнс выжывання, як запаўненне добрых сонечных дзён, як радасць, як уцёкі ад адзіноты. За некалькі гадоў аднавіў гаспадарку, перабудаваў хату, нарасціў на сабе мяса і сала. Выпадак злучыў з добрай жанчынай. Нарадзіўся сынок. Я цэлыя ночы ўзіраўся і ўслухоўваўся ў варушэнні з калыскі немаўляці — не верыў у сваё шчасце.

Я меркаваў тады, што нарэшце адшукаў спакой і прыту-

лак сэрцу. Але да спакою — да цяперашняй маёй халупы, хлопец, мяне чакала яшчэ нешта горшае і за вайну, і за краты.

...Наша маленькая, наша мілая сям'я ўчадзела. Зранку было два нябожчыкі — жонка і сыночак. Мяне выратавалі кропельніцамі. Я абрынаў праклёны на лёс, на ўрачоў, на боскі свет і імкнуўся да цемрадзі, да змроку, да смерці. Што мне было тут рабіць? Куды я пайду і каму патрэбны? Цярпець гады, дзесяцігоддзі начныя жахі і не менш жудасныя дзённыя думкі, — дзеля таго мяне выхадзілі?! Чырвоная атрутная смуга запоўніла ўсю маю існасць; чырвоным, крывавым полымем згарэла бацькоўская хата, якую я падпаліў пасля вяртання з бальніцы. А з ёй, здавалася, згарае і мінулае. Я прысеў да стала перад акном, углядваючыся ў стэпавае сутонне, куды глядзеў з маленства, куды з надзеяй глядзеў і дзевяць гадоў няволі. Я хацеў згарэць зажыва. Але той жа пракляты інстынкт самазахавання ў апошні момант выпіхнуў мяне вонкі ў рукі падаспелым людзям.

Трываласць, воля, вера, розум зламаліся, пасціраліся, сканалі. Яны засталіся ў пажарышчы, у руінах хаты, у турме — дзе заўгодна. Іх са мной не было. Па зямлі пайшло адно ўбогае зачэзлае цела. І месца для яго было ў доме вар'ятаў. Я змоўк. Замаўчаў на доўгія, гаротныя гады. Блукаў упоцемку па руінах сваёй душы. А як там было нудна, як самотна і вусцішна! Пакутлівыя думкі віравалі ў маім няшчасным мозгу, шкуматалі, пяклі, раз'ядалі яго нетрывалую тканіну. Крывавая імжа-фіранка загарнула ад мяне ўсё жывое. Ужо хай бы мяне лупцавалі бізуном ўсе гэтыя гады. Але мяне змясцілі ў палату да такіх жа небарак, дзе кожны самотны ў сваіх пакутах і не здатны дапамагчы таварышу. Таму, бачачы тваю ўтрапёную панылацсь, браце, я бачу твой страх, а яшчэ і жах, аб якім ты нават не здагадваешся. Чалавеку не варта глядзець у сябе, калі там пустэча. Ідзі ў зграю. І, як бы яна цябе ні

біла і не прыніжала, змагайся, любі і ненавідзь. Але не маўчы — дзейнічай.

Бяздзейнасць — скон марудны і жудасны, глеба для пакутаў самых подлых і разнастайных. Гэта цяпер вар'ятам даюць пэндзлі, фарбы, алоўкі, паперу. Тады яны лічыліся дадатковымі раздражняльнікамі і ўзбуджальнікамі. Нябогам быў прапанаваны спакой. Але спакой дзеля чаго? Дзеля глядзення на столь і сцяну, якая была нібы знарок пафарбавана ў жоўты колер, у гэтае падабенства святла, у мёртвае сонца? Дзеля лямантавання, вар'явання ў пустату? Дзеля назаляння адзін аднаму душэўным бязладдзем? Гэтае гвалтоўнае запіхванне прыкрага бальнічнага харчу, лекаў, якія атручвалі і без таго амаль мёртвае цела... Пільнаванне, нагляд, сістэма пакаранняў... Прыгоннае жыццё! І яны лічылі гэта за рацыю, гуманнасць! Я дыхаў свежым паветрам дзве гадзіны ў дзень, а астатні час павінен быў выслухваць трэзненне суседзяў па палаце. Сябе ж я вар'ятам не лічыў.

Адзіная пагроза насамрэч ссунуцца з глузду паходзіла ад несупыннай гутаркі з самім сабой, замыкання ў ссохлай цялеснай абалонцы, адсутнасці вонкавай інфармацыі, бяздзейнасці. У мяне з'явіўся страх і гідлівасць да ўсяго жывога. Яны насоўваліся прыпадкамі, і тады я кідаўся на мулкі ложак, зашываўся пад коўдру з галавой і гадзінамі ляжаў нерухома, атручваючыся вуглекіслатой уласных лёгкіх. Нават сонечнае святло, якое коса пранікала ў палату, падчас наганяла на мяне жах і здавалася крывавай мешанінай. Пасля гэткіх прыступаў я па некалькі дзён жыў, бы выціснутая анучка, і ніводнае нармальнае чалавечае жаданне не нараджалася ў маёй хворай існасці. Стравы здаваліся брыдкімі, медперсанал грубым, апека гвалтоўнай... У мяне, яшчэ не старога тады мужчыны, не ўзнікала прыроднага жадання пры поглядзе на прыгожанькую сястру ці санітарку. А яшчэ мучыла язва, зробленая ў лагерах. У кожную вясну і восень яна курчыла мяне ўначы, прыму-

шаючы скусваць да крыві вусны і рваць прасціну зубамі. Маё прыроднае сялянскае здароўе пакрысе прыйшло ў заняпад. Засталася толькі зжаўцелая здань з бляклымі, звераватымі вачамі, пазападалымі ў чорныя плямы вачніц.

Праз чатыры гады душа мая, як ні дзіўна, узнялася на барацьбу. Я проста аднойчы скеміў увесь жах будучыні. Пры моцным сэрцы перспектыва для мяне была — марнаваць будучыя дзесяцігоддзі, слухаючы трызненне і ўдыхаючы смурод мачы і поту суседзяў. Гэта адзін расклад. Другі — абрынуць злосць, якой, дарэчы, набыў удосталь, на людзей: рэзаць, гвалтаваць, забіваць. Трэці — забіваць і калечыць сябе. Ні адзін мяне не задавальняў. Таму што ўсё ж недзе ў нетрах сваіх люляў, таіў мізэрнае спадзяванне на справядлівасць.

Неяк на прагулцы я звярнуў увагу на купку вераб'ёў, што весела і бестурботна важдаліся ля прыхопленай кастрычніцкім прымаразкам лужыны. Як бы сябе пачуваў адзін маленькі верабейка, калі б бязлітасная рука схапіла яго і кінула ў нашу задушлівую пахавальню-палату? І чаму бярозы ўнутры бальнічнай агароджы стаяць ужо амаль голыя, калі іхнія сястрыцы на волі яшчэ ў жоўта-ружовых адзежах? Выхад як напрамак дзеяння пэўна высветліўся для мяне ў той восеньскі золак. Затым я ўявіў не верабейку, а чалавека, жыхара вялікага горада — Адэсы, агні якой надвячоркам пачыналі весела пераміргвацца на даляглядзе... Чалавека, што шыбуе кожную раніцу на работу, штохвілінна чуе чалавечую гаману, абедае ў сям'і... Чалавека, які хвалюецца, лаецца, смяецца. Што калі пазбавіць яго звыклага асяроддзя і змясціць у лес, у стэп, за краты, у бальніцу?.. Маімі лекамі павінны стаць прастора і барацьба за існаванне! На волі я буду адчуваць голад і імкнуцца яго наталіць, ад холаду шукаць адзенне і дах. Як пашкадаваў я тады, што надыходзіла зіма!

Што неабходна мне для ўцёкаў? Простая чалавечая вопратка, невялікі запас харчу і час дакульгаць да Адэсы або

яе абмінуць. Выкараскацца адсюль не дужа складана. Праблема ў тым, што ісці, звычайна, няма куды і няма да каго. Няхай так! Я палічыў за лепшае жабраваць альбо сканаць з голаду на чыстым паветры, чым марудна паміраць у жоўтым доме, дзе ежа і ложак мне абрыдлі.

Узімку рыхтаваўся да ўцёку. Я мусіў вырашыць некалькі пытанняў, асноўнае з якіх — акрыяць фізічна. Ці мог я ў такім стане сысці далёка і, наогул, выжыць? Неабходна было адшукаць вопратку і назапасіцца харчам на першы час.

Я праявіў жвавасць і рупнасць пры ўборцы бальнічнага падворка. Падмятаў дарожкі, адскрабаў ад снегу і наледзі, пасыпаў іх жвірам не толькі, калі гэта прапаноўвалася выканаць, але і па ўласнай ініцыятыве. Гэта давала магчымасць знаходзіцца на свежым паветры, разважаць, планаваць і ачуньваць адначасова. Урачы і медперсанал спачатку былі надзвычай здзіўлены бескарыслівымі намаганнямі хворага, а яшчэ і не задаволены парушэннем бальнічнага ўкладу. У мяне нават адбіралі шуфлі і забаранялі выходзіць на двор без дазволу. Але ў рэшце рэшт махнулі на фанатычную ўпартасць прыдурка — маўляў, хай пацяшаецца, калі яму без таго карціць.

А працаваў я даволі порстка, не зважаючы на сваю кволасць, на слоту, завірухі і маразы, на пацвельванні вар'ятаў і кпіны цывільных. Балела горла, дранцвелі пальцы, ныла ў хворых суставах. Але паветра, ядранае марознае паветра, снег, які шчодра церушыў у тую зіму, супакойвалі, прасвятлялі думкі, а цела насычалі даўно забытай лёгкасцю і моцай.

За дзень я ўпраўляўся з усёй бальнічнай тэрыторыяй. Калі снег не абнаўляў зямлю, то браў у рукі жалязняк ці лом і драбніў лёд на дарожках, збіваў ледзяшы з карнізаў і парэнчаў. Ніколі я не працаваў так ахвотна. Я змагаўся за будучую свабоду. Кожная хвіліна на паветры, кожны ўзмах шуфлем набліжаў мяне да яе і аддаляў ад вар'яцтва.

У палаце я толькі бавіў ночы. Калі не працаваў, то проста крочыў па сцяжынах сярод хмызоў і маленькіх елачак. Я прасіў здароўя ў шэрага неба і нізкіх хмар, у сціплага зімовага сонца, у зорак, у ветру і снегу. І яны чулі мяне, клянуся, хлопец, чулі! Я ніколі не стаяў пад харугвамі ніводнага веравызнання, але ўжо каму варта маліцца, то, напэўна, адзінаму богу — Прыродзе. Яна на ўсё здольная. Трэба толькі папрасіць — з чыстым сэрцам і светлымі намерамі.

Язва, відавочна, загаілася і болей не турбавала. Не нагадвала яна пра сябе і ўвясну, не дапякала і пасля. Я знарок выпрабоўваў трываласць свайго страўніка, разумеючы, што неўзабаве давядзецца галадаць, харчавацца не ў час ці есці абы-што. Апетыт быў драпежніцкі. Я збіраў у сталовай счарсцвелы чорны хлеб, адмаўляўся ад ежы, а на падворку з'ядаў толькі яго. Спачатку жаваў з асцярогай, а затым хапаў кавалкамі. Усё праходзіла, нібы ў паравозную печ.

Я ўжо амаль не пакутаваў ад адзіноты, бо бачыў з яе выйсце. Бачыў у далёкіх агеньчыках вячэрняй Адэсы, бачыў у стужках дарог, што межавалі снежны абшар, у моры, аб якім па-блазенску марыў. Я аналізаваў свае дзеянні, ставіў пэўную задачу на дзень і няўхільна яе выконваў. Аднойчы я прапанаваў дапамогу качагару ў луджэнні праржавелых катлоў і быў яму карысным. Мы разгаварыліся. Стары паскардзіўся на п'янюгу-напарніка, на непрагляднасць дзяжурстваў. Я ўзяўся выконваць частку абавязкаў, запэўніваючы, што мне даспадобы гэткая праца, што маю пэўны вопыт. Качагар упрасіў галоўурача бальніцы даручыць мне дзённыя дзяжурствы. Гэта была небывалая ўдача. Зносіны з нармальнымі людзьмі, падчас чытанне прынесеных імі газет, цяпло і дах, куды я мог бесперашкодна завітаць у любы час без нагляду санітараў і косых позіркаў хворых — амаль свабода. З дошак я змайстраваў скрыню-куфэрак, куды

пачаў назапашваць сухары і шакаладныя цукеркі, якія выменьваў пакрысе ў хворых. Прызнаюся, украў з ардынатарскай цывільную вопратку і схаваў яе ў качагарцы. Але ж я здымаў не апошнія порткі, праўда? І рабіў гэта дзеля свабоды, насуперак пакутам.

Паводле просьбаў зменшчыкаў мне часцяком даводзілася дзяжурыць і ўночы. Я заўсёды ахвотна згаджаўся на гэта. А неяк надвячоркам, на пачатку красавіка, урачыста спаліў у топцы сваю бальнічную адзежу, пералез цераз агароджу і, абапіраючыся на кіёк, пакульгаў насустрач лёсу. І ён, гэты даўжэзны ланцуг выпадковых нечаканасцяў, надзвычай жорсткі раней, злітаваўся з небаракі. Ва ўсялякім выпадку, хтосьці рагаты не ладзіў больш пастак, не рыў ваўчыных ямаў. Мяне, як бачыш, не злавілі.

Я пакрочыў у бок Дняпроўскага лімана, абмінаючы Адэсу. Выгадаў дзень законнага дзяжурства ў кацельні. Праз тыдзень быў у Мікалаеве. Спачатку ішоў па начах, а ўдзень хаваўся, дзе давядзецца — у леташніх стагах, у дзюнах, у калгасных адрынах. Праз колькі дзён праставаў ужо не тоячыся — па ўзбярэжжы. Бадзяг і жабракоў у тых мясцінах тады была процьма. Ад голаду не дала памерці шчодрая паўднёвая зямля, добрыя людзі і рукі. Так, я прасіў хлеб і не саромлюся гэтага. Бо я ж прасіў жыцця. Я прасіў работу, і мне яе давалі: на палях, вінаградніках, у хлявах і павецях, самую чорную, самую ўлюбёную маю работу. А ведаеш, як пахне хлеб, паліты потам і марскімі пырскамі? А якая смачная вада са студні ў ліпкі поўдзень? А якое светлае і велічэзнае мора, гэтая жывая душа?! Я ступіў на жоўты бераг у пяцьдесят гадоў, амаль усё жыццё пражыўшы ад яго ў дваццаці кіламетрах.

Падпрацоўваючы, патроху набліжаўся да Крыма. Ён быў як вырай, як ветразь за грудамі хваляў, як ратунак ад смутку і памяці апошняга майго зняволення. У

пачатку ліпеня прыйшоў у Джанкой, да жнівеня быў у Феадосіі. У хуткім часе знайшсў і работу, і цяперашні мой прытулак. У свеце ёсць цудоўныя людзі, і сустракаюцца яны часцей, як мы іншы раз мяркуем. Я тут ужо дзевяць гадоў, дружа. Мне няма і шасцідзесяці.

І яшчэ што хачу дадаць — я адшукаў шчасце... верыш, цяпер адчуваю яго больш, чым калісьці раней. А свабода... што значыць свабода? Свабодным я стаў яшчэ у "жоўтым доме", усвядоміўшы, што здатны кіраваць сабой. Свабода — у галаве. А вонкавае можа толькі перашкаджаць ці спрыяць руху наперад. Я люблю вас усіх, люблю мора ва ўсялякі час, ліпеньскую спёку і рэдкія снягі, люблю суладдзе ў садзе і ва ўсім, да чаго дакранаюся. Радасна вам, весела — радуюся і я, назіраючы вашы постаці ўнізе, вашы здаровыя целы, атуленыя бліскаўкамі і белымі пасмамі хваляў. Радуюся нячастым гасцям...



Я слухаў суха і моўчкі. А толькі змрочная сетка, што аблытала мяне з галавы да пятак, распускалася пакрысе, шарэла, адцянялася расповедам садоўніка, як паперка, знарок пакладзеная на чорную тканіну, і нарэшце зрабілася амаль светлай, хіба крышачку запыленай.

Не гадзіну, не дзве сядзеў я потым у важкай цішы персікавага саду. Ноч шчодра палівала зоркамі. Паўднёвая ноч — гусцейшая, чарнейшая, як на маёй радзіме. Дзіўная палёгка, нязвыклая крылатасць думак нібы выносілі мяне па-за межы садка, нават па-за межы ўласнага цела. Назіраў сябе быццам здаля, паўз водары, лагодныя павевы крымскай ночы, ледзь чутны пляск хваляў. І ў гэтай ціхмянай, амаль бязгучнай сусветнай велічы мізэрным, бязглуздым і вартым жалю ўявіўся мне раптам уласны жыццёвы шлях, падаўся проста прусачынай валтузнёй — пачварнай і сквапнай. Гэтая гонка за грашыма, гэтая слава-

любская фанабэрыя маіх ўчынкаў, меркаванняў, літаратурных твораў. Цвёрдыя і рашучыя крокі мае па жыцці ва ўмовах спрыяльных і лагодных, ухвала яму, апяванне яго... I бездапаможная злосць, агіда да ўсяго свету пры сутыкненні з найменшымі ягонымі хібамі... Марная спроба ўцёкаў ад сябе, ад бацькоў і радзімы... Быццам сцябаў мяне хто, лупцаваў, тузаў...

А неба ўсё такое ж — ласкавае, бяздоннае. I вайны няма, і голаду, і хваробаў у мяне невылечных... I хацелася гукнуць туды, у сваё мінулае: “Выпрастайся, хлопча, азірні наваколле. Усміхніся, балесны, аблокам і пашам, гмахам, урэшце, вераб’ям ля сметніцы, галубам на асфальце...”

Не іх, не жыццё існае любіў я, складаючы мудрагелістыя аповеды, прыдумваючы адмысловыя, хвацкія рыфмы і рытмы для вершаў. Не жыццё, а сябе ў ім! Як ігрок прагавіты і апантаны. I амаль прайграў.

Але тут, у хацінцы гэтай, зазірнуўшы за край стромы, дзе тоіцца, нязводна падпільноўвае нас сапраўдная бездань-пашча выпрабаванняў, я маю свабоду крочыць назад... Які ж я свабодны!



## Воля ГАПЕЕВА

***

марцыпанавы снег уключалі
толькі па пятніцах
калі птушыныя святыя
хавалі свае лапкі
ад маіх дзіцячых позіркаў
яны баяліся тоўстых зімовых
вусеняў
таму апраналі пухнатыя кажушкі
і хавалі свае лапкі
у маіх дзіцячых позірках



# Вінцэсь МУДРОЎ

*За сваю доўгую гісторыю дубовы стол – колісь ён стаяў у кабінеце 2-га сакратара Цэка – шмат чаго пабачыў і шмат чые локці соўгаліся па ягоным дзяржаўна-зялёным сукне. Але каб на сукне тым соўгаліся заднікі збітых чаравікаў – такога ў гісторыі яшчэ не было.*

# ГАРАЧАЕ ЛЕТА 00-га

## I

– Запрашай! – махнуў рукой палкоўнік, і русявы маладзён, што стаяў ля дзвярэй, выслізнуў з кабінета.

Праз імгненне ў тамбуры затупалі і з прыцемку выплыў нізкарослы тыпус, квадратны твар якога быў пазбаўлены якой-колечы думкі, а натапыраныя вушы з кожным крокам дзіўным чынам варушыліся. Следам за ім у кабінет увайшоў цыбаты мурын у бейсболцы, які нёс пад пахаю вялізны скураны тубус.

– Радыя вас бачыць, містэр Вік, – зганяючы з твару гідлівую ўсмешку, палкоўнік запрасіў госця прысесці, і Вік плюхнуўся ў мяккі фатэль.

У фатэлі лядашчае Вікава цела выглядала яшчэ больш мізэрным. Госць адчуў гэта, бо адразу ж рыскрыліў пінжак і ўспёр на стол свае падагрычныя ногі.

Палкоўнік з прадстаўніком Камітэта перагляннуліся.

"Пасадзі свінню за стол..." – моўчкі прамовіў палкоўнік.

"Вытрымка... жалезная вытрымка!" – моўчкі адказаў прадстаўнік Камітэта, і ліловы пісяг на палкоўніцкай шчацэ наліўся нервовай чырванню.

За сваю доўгую гісторыю дубовы стол – калісь ён стаяў у кабінеце 2-га сакратара Цэка – шмат чаго пабачыў і шмат чые локці соўгаліся па ягоным

дзяржаўна-зялёным сукне. Але каб на сукне тым соўгаліся заднікі збітых чаравікаў – такога ў гісторыі яшчэ не было.

– Як вам нашае надвор'е? – запытаўся палкоўнік і закашляўся, спрабуючы ўтаймаваць сардэчны клёкат у горле.

Мурын – ён выконваў функцыі сакратара і целаахоўніка – пачаў перакладаць, але шэф незадаволена пстрыкнуў пальцамі і сіпла прамовіў:

– Let's pass from words to deeds.Time presses.[1]

У пацвярджэнне плыні часу ў куце кабінета бомкнуў стары гадзіннік, і палкоўнік, цяпер ужо без клёкату ў горле, запытаўся:

– Тавар у вас?

Мурын падышоў да стала, паклаў на яго скураны тубус.

– For five number, as we treated?[2] – госць удругарадзь пстрыкнуў пальцамі, і цемнаскуры сакратар працягнуў шэфу прадаўгаваты, бліскучы на выгляд пачак.

"Жавальная табака... "Чырвоны індзеец", – адцеміў пра сябе палкоўнік.

– As soon as you transfer your money on our count the first consignment will come.[3] – госць прамовіў гэтую фразу, жуючы табаку, і мурын, слухаючы няўцямна-шапялявую гаворку, заклапочана пацёр лабешнік.

Згадка пра валютны рахунак усхвалявала палкоўніка.

– Раней вы казалі: варта толькі прачытаць тэкст. Цяпер загаварылі пра непасрэдны кантакт з галавою. А гэта ж зусім іншы каленкор, – палкоўнік стрымана кашлянуў і, пасля паўзы, дадаў: – І зусім іншыя грошы.

Цемнаскуры цівун скрывіўся, падбіраючы адпаведнік слову "каленкор", і містэр Вік, пстрыкнуўшы пальцамі

---

[1] Давайце аб справе. Час прыспешвае *(англ.)*.

[2] На пяць нумароў, як і дамаўляліся *(англ.)*.

[3] Як толькі пераведзяце грошы на наш рахунак, адразу ж атрымаеце першую партыю *(англ.)*.

абедзвюх рук, загаварыў па-расейску, расцягваючы, па прыкладу латышоў і чэхаў, галосныя зыкі.

– Над праектам працавалі тры інстытуты, у справу ўбіта тры мільярды даляраў, да таго ж я сур'ёзна рызыкую. Калі там... – госць узняў да столі пукатыя вочы, – даведаюцца пра нашу здзелку, я мушу сесці ў крэсла. Самі ведаеце, якое...

– Ве-едаем, – выдыхнуў палкоўнік, таксама расцягваючы зыкі, – тры тысячы вольт, дым з вушэй і ўсё такое...

– What does it have to do with my ears?[4] – абурыўся госць, ускочыў з фатэля, і разам з ім ускочыў з крэсла і прадстаўнік Камітэта.

– Панове... не будзем пікіравацца, – прымірэнчым голасам прамовіў камітэтчык, – заўтра правядзём эксперымент і калі ўсё будзе добра, тады і абмяркуем нашыя праблемы.

Калі за гасцямі зачыніліся дзверы, прадстаўнік Камітэта з дакорлівай усмешкаю ў вачах зірнуў на палкоўніка.

– У нашай працы трэба быць не ганчакамі, а лісамі... Калі гэтая рэч і сапраўды... – камітэтчык з гучным поканнем раскрыў тубус, – ...выпроствае звіліны, тут ніякіх грошай не пашкадуеш. За пару месяцаў зліквідуем усялякую апазіцыю. Уяўляеш... Скразняк нясе праблемны артыкул у "Лубянскі набат", Рупенка вядзе рэй у Антынатаўскім камітэце... Гэты... як яго?.. Кудыка... збірае мітынгі з патрабаваннем надаць Акадэміі навук імя любімага Прэзідэнта.

Слухаючы калегу, палкоўнік пачухаў свярблівы шнар на шчацэ, памацаў скрутак паперы, што тырчаў з тубуса, і, падняўшы трубку нутранога тэлефона, каротка загадаў:

– Трэцюю тэчку на стол!

Важкая тэчка з металёвай лічбай "3" на вокладцы змяшчала дасье на галоўных апазіцыянераў.

---

[4] Пры чым тут мае вушы? *(англ.)*.

 



Хаця лейтэнант Надгайны – так звалі русявага маладзёна – чытаў дасье бадзёрым голасам, палкоўнік слухаў не надта ўважліва і толькі калі лейтэнант дайшоў да Вячаслава Забелы – інжынера-праграміста з завода імя Манілава, рыпнуў крэслам і зяхліва запытаў:

– А на якія сродкі ён жыве, гэты Забела?

– У вольны ад працы час прадае кантрабандныя запалкі, – выгукнуў лейтэнант, выпетрыўшы з палкоўніцкай галавы рэшткі дрымоты.

– Інжынер Забела прадае запалкі... Сорамна, бацюхна! – з ленінскай картавінкай прамовіў палкоўнік, пасля чаго ўжо сур'ёзным голасам прабурчаў: – Далей.

– Ганчарык Аляксей Пятровіч. Сябар ПЭН-цэнтра. Аўтар пятнаццаці празаічных кніжак, напісаных з варожых славянскаму свету пазіцый.

– Гэта не той Ганчарык, што гандлюе трусамі на Камароўцы? – ускінуў брыво палкоўнік.

– Той самы, – працадзіў прадстаўнік Камітэта.

– Вось з яго і пачнём, – сказаўшы так, палкоўнік пайшоў да тэлефона, хвілін пяць даваў розныя распараджэнні, потым дастаў з сейфа пачатую пляшку каньяку, наліў сабе і камітэтчыку, спехам кульнуў чарку і, падхапіўшы тубус, адрыгнуў каньячным духам: – Едзем у друкарню!

## II

– Іван! Чуеш? Грошай няма ні капейкі, – рыпучы жончын голас прабіўся пад коўдру, нервовым свербам прайшоўся па скуры. – Ганчарык на Камароўцы сядзіць. Шабуня кашы пляце, а гэты лежні правіць. Думае, я яго карміць буду! – гукнула жонка, бразнула ўваходнымі дзвярыма, і Іван вытыркнуў галаву з-пад коўдры.

Зыркая яснасць адбірала зрок; вочы міжволі заплюшчыліся, і так, з закрытымі вачыма, Іван апусціў нагу на падлогу. Ён вылазіў з-пад коўдры паволі – як самнамбул, як немаў-

 

ля з матчынага ўлоння, як чарвяк з надкусанай папяроўкі. Ну, а даўшы волю мастацкай вобразнасці, можна сказаць і так: Іван вылазіў з-пад коўдры, як адубелы ад холаду небарака-чмель. (Зрэшты, ранак выдаўся цёплым, нават гарачым, і згадка пра адубелага чмяля не зусім дарэчная.)

Іван насунуў на ногі тэпці, пайшоў на кухню, доўга піў нагбом цеплаватую ваду з чайніка, потым убіўся ў прыбіральню, гэтак жа доўга выдаляў з нутра лішнюю вільгаць, а тузануўшы фаянсавую гіру, пабрыў туды, куды і мусіць брысці пісьменнік часінай ранішняга одуму – у сваю творчую лабараторыю.

Цяжка (магчыма, нават з вохканнем) сеў Іван за пісьмовы стол, абхапіў рукамі скроні і з панылай зацятасцю агледзеў папяровы сметнік, што ляжаў на стале. Тут, у поўным бязладдзі, ляжалі расейска-беларускія і беларуска-расейскія слоўнікі, старыя газеты, зашмальцаваныя блакноты, бухгалтарскія кнігі, змацаваныя залацістай сашчэпкай старонкі лірычнай навелы “У Заказеллі днее”, лісткі феналагічнага дзённіка ды іншы хломазд.

Колькі сябе помніў Іван, на стале ягоным заўсёды панаваў вэрхал. Кожнага ранку, пагаліўшыся і надзеўшы белую кашулю, ён сядаў за стол, ссоўваў убок папяровы сметнік і, падрыхтаваўшы такім чынам плацдарм дзеля творчага парыву, натхнёна рыпаў старым “паркерам”.

Вэрхал, які панаваў у лабараторыі, не толькі не раздражняў, але і ствараў своеасаблівую працоўную атмасферу. Сёння ж уся гэта папяровая брыда цвяліла нервы й нараджала палкае жаданне ўзяць яе ў ахапак і выкінуць у смеццеправод. Падуладны такому жаданню, Іван крэкнуў (магчыма, нават пукнуў), раскрыліў рукі, каб прыбраць з вачэй хломазд, ды нечакана абмяк і зноўку абхапіў далонямі скроні.

За апошнія пяць, ці нават болей, гадоў у Івана нічога не выдавалася. Пісаць не было сэнсу, і ўсё ж такі нейкая нескладная сіла кожнага разу цягнула яго да стала, і ён пэц-

каў неразборлівымі радкамі старонкі бухгалтарскіх кніг, сям-там прарываючы ў творчым запале лядашчую паперу. Іван пісаў аўтабіяграфічны раман. Спісана было восем гросбухаў (іх прыносіла з працы жонка-бухгалтарка), а жыццяпіс толькі-толькі наблізіўся да таго моманту, калі малады герой, памацаўшы мокры ад матчынай слязы штрыфель пільчака, выправіўся з роднага хутара ў шырокі свет.

Звычайна Іван пісаў да абеду, а па абедзе ішоў у адведкі да сяброў, такіх жа безграшовых і знявераных у жыцці літаратараў. Нейкім дзіўным чынам яны знаходзілі грошы, куплялі таннага віна і ўчынялі сяброўскія бяседы – ці то ў парку (калі дазваляла надвор'е), ці то ў рэдакцыі часопіса "Славянская сумка".

Была ў Івана і норма спажывання "мармытухі": чатыры паўлітровых пляшкі. Выпіўшы болей, ён шалеў: чапляўся да жанок, лаяў кіраўніцтва СП, а то, дастаўшы з нутраной кішэні пакамечаныя лісткі, уголас чытаў урыўкі з аўтабіяграфічнага рамана. Пасля такіх гулянак у Івана балела галава, уваччу мільгацелі чорныя мятлікі, і ачмурэлая ад перагару Муза кожнага разу вылятала з творчай лабараторыі праз адчыненую фортку. У такія хвіліны Іван мераў дробным крокам лабараторыю, здушана аддзімаўся, а прайшоўшыся разоў дваццаць ад пісьмовага стала да дзвярэй і наадварот, паціраў рукі і нясмела, па-кашэчаму насцярожліва, падыходзіў да кніжнай шафы. Там, на сярэдняй паліцы, стаялі радком усе пяць Ягоных кніжак. Дрогкая рука выцягвала самую тоўстую, з залатымі літарамі "Выбранае" на карэньчыку, пальцы мітусліва гарталі старонкі, і масляністыя вочы слізгалі па знаёмых радках.

– Магу...магу... – шаптаў Іван, чытаючы ўласныя, немаведама калі напісаныя тэксты, і свавольніца муза, паблукаўшы па наваколлі, лёгкім ветрыкам залятала ў пакой.

Гэтым разам хадзіць па лабараторыі не было сіл: ён проста сядзеў, абхапіўшы рукамі голаў і невідушча глядзеў на падрапаны край стала.

Стол, дарэчы сказаць, займаў добрую трацiну пакоя, быў куплены гадоў пятнаццаць назад ва ўдавы аднаго класіка і, падобна, захоўваў у сваім нутры думкі былога гаспадара.Нездарма ж першы напісаны за ім твор – аповед "Маня з Заказелля" – сюжэтна нагадваў апошні раман памерлага класіка. Вось і цяпер, пазіраючы на завілыя драпіны, Іван згадаў героя таго рамана – калгаснага механізатара Сцёпку, які, пакахаўшы бібліятэкарку Клаву, кінуўся з сякерай на цяжарную жонку. Уваччу – дарэшты выяўна – паўстаў Сцёпка-механізатар з сякерай у руках, увушшу – таксама выяўна – прагучаў жончын голас: – Думае, я яго карміць буду! – і Іван, каб разагнаць чмуру, ускудлаціў валасы на скронях.

Словы, сказаныя жонкаю паўгадзіны таму, пазбавілі не толькі творчага натхнення, але й душэўнай раўнавагі. Душа Іванава ўжо даўно абмірала ў прадчуванні такіх слоў, і вось яны былі сказаны...

Трэба было штосьці рабіць, шукаць нейкую працу. Пагатоў, многія літаратары ўжо даўно недзе ўладкаваліся, зарабляючы на хлеб з тонкім слоем "Рамы". Паэт Мінковіч падаўся ў начныя вартаўнікі, эсэіст Анкуда з'ехаў у родную вёску і гадаваў там трусоў, драматург Шабуня плёў кашы, а празаік Ганчарык – заўзяты весялун і залётнік – гандляваў на Камароўскім рынку ці то шкарпэткамі, ці то бюстгальтарамі, ці то яшчэ якой халерай.

Апошняе прозвішча захрасла ў мазгах, і Іван прыгадаў, як летась весялун і залётнік прапанаваў яму ўключыцца ў базарны бізнес. Тады ён толькі рагатнуў у адказ, а цяпер, успомніўшы тую размову, падняўся на ногі і засяроджана пачухаў патыліцу.

## III

На выцвілым небе не было ні аблачынкі, і сонца паліла як не ў сабе. Пакуль Іван датупаў да Камароўкі, мазгі амаль

што расталі, і кроплі ядранага поту свярбліва каціліся па драбах.

Адразу ж ля брамаў яго падхапіў людскі натоўп, сціснуў з усіх чатырох бакоў, пацягнуў за сабой у напрамку павільёна "Насенне". Абышоўшы два разы вакол павільёна, даверху завешанага скуранымі курткамі, і зразумеўшы, што базарны бізнес – гэта не для яго, Іван памкнуўся да выхаду і пачуў, як недзе непадалёку пакрыўджана загарлала кабета:

– А чыво эта вы са мной па-беларускі разгаварваеце?

Давялося стаць на дыбкі, выцягнуць шыю.

– Купіла трусы мужыку... палез у ваду і краска ў с.... ўелася. Нічым не адмыць, – галёкала кабета, махаючы ў паветры нейкай анучай.

Ганчарык – а лаяліся, вядома ж, на яго – хваравіта крывіўся, змучана аддзімаўся і, мяркуючы па ўсім, не ведаў, што адказаць кабеце, якая патрабавала вярнуць ёй сорак мільёнаў. Магчыма, Ганчарык і вярнуў бы грошы, ды тут яго падтрымала маладая гандлярка, што вытыркнулася з-за калашыння развешаных штаноў.

– Пемзай пашаруй! – жартам выдала гандлярка, і кабета, забыўшыся на Ганчарыка, накінулася на тую з лютымі праклёнамі.

Базарная лаянка Івана не толькі ўразіла, але і занепакоіла. Ён утуліў галаў у плечы, прыгнуўся, каб не патрапіць Ганчарыку на вочы, але калега крутнуў галавой, і яны сутыкнуліся позіркамі.

Ганчарыка сустрэча не надта ўзрадавала: ён уздыхнуў, скасіў вока на сварлівую кабету і, спахапіўшыся, стаў зрываць з вяроўчыны развешаныя там мэтлахі ды запіхваць у вялізную цыратавую сумку.

– Усё, з мяне хопіць! – выгукнуў весялун і залётнік, успёр напакаваную сумку на голаў, як гэта робяць афрыканскія тубыльцы, і кіўком галавы загадаў Івану ісці следам.

Не згаворваючыся, яны рушылі ў напрамку прадуктовай крамы. Ганчарык за ўсю дарогу не прамовіў ні слова; нават купляючы газету ў шапіку, моўчкі тыцнуў пальцам у бок "Нашага Піва", і толькі ля крамных дзвярэй, дастаўшы з кішэні пачак грошай, коратка запытаў:

– Пішаш?

У адказ Іван неакрэслена страсянуў галавой, потым гэтак жа неакрэслена кіўнуў і хуценька падаўся ў краму.

Лёшку Ганчарыка ў пісьменніцкім асяродку не надта любілі. Быў ён творцам таленавітым, амбітным і, да таго ж, церабіў, а то й рэзаў праўду-матку. Калі Ганчарыка пыталіся, што ён думае пра новы раман ці аповед якоганебудзь жывога класіка, Лёшка заўсёды хмурнеў і прамаўляў не надта мілагучнае слова (каб чытачы здагадаліся – што гэта было за слова, паведамім: яно сугучнае драсёну, Дрысе і Дрысвятам).

Праўда, была ў Лёшкі й дадатная рыса: калі хто з знаёмцаў прасіў у яго грошай на пахмелку, ён нікому не адмаўляў, а, атрымаўшы буйны ганарар, частаваў братоў-пісакаў на поўную губу.

Частаваў Ганчарык і Івана. Наліваў гранёную шклянку, абдымаў за плечы і, згадаўшы "Маню з Заказелля" – той самы аповед, у якім трактарыст Трыфан кінуўся з сякерай на абрыдлую цешчу,– прамаўляў сваё улюбёнае слоўца. Іван пры гэтым не мог уцяміць – жартаваў Ганчарык ці то казаў усур'ёз; прытоеная крыўда штораз падступала да горла, і даводзілася заганяць яе ў страўнік глытком пякучай гарэлкі.

...Стоячы ў чарзе, Іван пералічыў грошы, і старая крыўда зварухнулася на дне страўніка. "Я ў падзёртых штанах хаджу, а ў гэтага прайдзісвета па мільярду ў кожнай кішэні", – бязгучна прабубнеў Іван і, кіўнуўшы прадаўшчыцы, цяпер ужо ўголас прамармытаў:

– Тры віна і слоік салянкі.

## IV

Жлукціць такою парою віно можна было толькі ў адным месцы: ля рэчкі. Туды яны і скіравалі.

Людзей на рэчцы было аж занадта. Сам бераг апанавала дзятва – віскат стаяў неверагодны, крыху зводдаль усё было застаўлена машынамі, на вузкай лугавіне ўпокат ляжалі тлустыя цёткі, падставіўшы сонцу свае неабдымныя жываты, і пісьменнікі, паблукаўшы, знайшлі сабе месца пад гонкай бярэзінай, якая, аднак, амаль не давала ценю.

Пакуль Іван адкрываў салянку і адкаркоўваў пляшку, напарнік, спехам распрануўшыся, пабег да вады. Ганчарык любіў купацца – мог адседзець у вадзе цэлую гадзіну, Іван гэта ведаў, а таму, нюхнуўшы счарнелую салянку, заклапочана зірнуў з-пад рукі на тлумны бераг.

Калега вярнуўся хвілін праз пяць – задыханы і задаволены.

– Давай і ты... адразу палягчэе, – бадзёра гукнуў Ганчарык, казелячы вочы на кабету, што загарала непадалёку.

Іван адмахнуўся ад такой прапановы, напоўніў шклянку – у бяздоннай ганчарыкаўскай сумцы знайшліся і сцізорык, і відэлец, і шклянка – і натхнёна пацёр далоні:

– Паехалі!

Першую пляшку адолелі моўчкі, Іван адкаркаваў другую і, упіхнуўшы ў рот жмутак аслізлай салянкі, у сваю чаргу запытаў:

– А ты... пішаш што-небудзь?

Калега зірнуў на кабету, і тая, адчуўшы мужчынскі пагляд, зняла з носа лісцік трыпутніку і падабрала пукаты жывот. Ганчарык нічога не адказаў, выцягнуў з сумкі “Наша Піва”, а разам з ёю яшчэ адну газету – “Лубянскі набат”.

– Во йоп... кіяскёрка не дагледзела – упёрла, – уражана мацюкнуўся весялун і залётнік, узяў “Лубянскі набат” двума

пальцамі – нібыта гэта была здохлая вужака – і кінуў Івану:
– Зрабі сабе капялюш, а то галава ўгрэецца.

Іван садраў корак з трэцяй пляшкі, наваліўся плечукамі на сумку, разгарнуў газету. Без асаблівай увагі прачытаў развагі прафесара Кракадзілава пра натаўскіх людажэраў, потым пераключыўся на артыкул літаратуразнаўцы Льва Бер-Дацкевіча аб крывавых оргіях, што ўчыняюцца ва ўправе ПЭН-цэнтра, потым пазяхнуў і памацаў угрэтую макаўку. "І сапраўды – трэба зрабіць які каптур", – з гэткаю думкаю Іван склаў газету ў дзве столкі і паскроб няголенае падбароддзе. Апошні раз ён займаўся такой справай гадоў трыццаць таму і адразу не мог уцяміць – куды якія канцы загінаць. Як бы там ні было, а нейкую падабізну каптура ён усё ж такі зляпіў і нацубіў на самыя вочы.

Не паспеў Іван змежыць павекі, як слых напоўніўся набатным звонам. Званы гулі недзе далёка, ці не за рэчкай. Неўзабаве набат стаў мацнець і ўраз рабіцца ўсё больш адрывістым і бразгатлівым. Стваралася ўражанне, што нехта зацята біў чымсьці жалезным у падвешаную рэйку. Іван размежыў павекі, страсянуў галавою. Сон, здавалася, доўжыўся кароткую хвілю, а Ганчарык між тым ужо сядзеў ля кабеты, і цёплы ветрык даносіў да вушэй абрыўкі фраз:

– Што ж вы... такая элегантная... і адна?

Рукі міжволі пацягнуліся да пляшкі, Іван зрабіў ладны глык – ажнуль закашляўся – і зноў наваліўся на сумку. Нейкая хваравітая стома авалодала целам, і Івану падалося, што ён плыве ў пругкім паветры, не даючы рады паварушыць ні рукой, ні нагой. Дзесьці зноў ударылі ў рэйку; удары сталі сыпацца ўсё часцей і часцей, аж пакуль не ператварыліся ў ляскат танкавых гусеніц. І вось, на тле злавеснага ляскату, прагучаў суворы і крыху надтрэснуты голас:

– Натаўскія бранятанкавыя армады ўжо гатовыя былі рынуцца на ўсход, каб расціснуць сваімі тракамі славянс-

кіх дзяцей і жанок, ды на іхнай дарозе грознай скалой паўстаў Абаронца Ўсіх Славянаў...

Гэта быў не сон, а нейкае трызненне. Надтрэснуты голас слова ў слова паўтараў надрукаваны ў газеце артыкул, і ў Івана ад такой праявы – ён адчуў гэта – варушыліся і выпросталіся мазгавыя звіліны, халодным свербам праціна ючы ўгрэты голаў. Ён паспрабаваў растуліць павекі і раптам убачыў Абаронцу Ўсіх Славянаў. Убачыў не ўсяго яго, а толькі перапэцканыя ў гліну гумовікі ды калашынне штаноў. Абаронца быў такім магутным і велічным, што, пачынаючы ад крысся балонневай курткі, хаваўся ў шэрых аблоках. Надтрэснуты голас яшчэ свідраваў левае вуха, але Іван ужо нічога не чуў. Ён зачаравана глядзеў угору, і духі яму займала ад велічы Славянскага Волата.

– Вось хто верне нам нашыя ганарары! – малітвенна прашаптаў Іван, і ў той жа міг цела ягонае набыло важкасць і апусцілася на зямлю.

– ...А гэта так званыя пэнцэнтраўцы – агенты ЦРУ і Масаду, – прагучала цяпер ужо ля правага вуха, і міма Івана з капытлівым грукатам прабегла гурба нейкіх мярзотнікаў.

Першы з іх бег, махаючы, па прыкладу трактарыста Трыфана, крывавай сякерай, другі цягнуў на карку вялізны мех – праўдападобна, з далярамі, трэці валок на плячы шыбеніцу, а чацвёрты – маленькі і лысаваты – пёр супрацьтанкавую базуку амерыканскай вытворчасці. Твараў Іван не разгледзеў, але першы – той, што махаў сякераю – нагадваў Ганчарыка, а апошні – маленькі і лысаваты – быў выліты Шабуня.

– ...Агенты ЦРУ і Масаду пусцілі атрутныя карані на нашай літаратурнай ніве. Агенты носяць славянскія імёны, але мы ведаем: у ПЭН-цэнтры, як і ў іншых антыславянскіх цэнтрах, угняздзіліся выключна адны жы...

– Ды-ы... – выгукнуў Іван і ачуўся.

Сонца сляпіла вочы, у галаве шумела, і Іван напачатку

ніяк не мог даўмецца: дзе ён і што з ім. І толькі намацаўшы бутэльку, канчаткова пазбыўся чмуры.

Ля берага вішчала дзятва, непадалёку покаў мячык – нейкія хлопцы гулялі ў валейбол, а Ганчарык, седзячы на кукішках, штосьці казаў кабеце, і па ягонай натхнёнай паставе можна было зразумець: калега чытаў вершы.

Дзіўнае насланнё ўбілася ў свядомасць. Івану падалося, што нехта неадрыўна глядзіць яму ў спіну, хтосьці сочыць за ім, і ад таго позірку душа сцялася і балюча заныла, нібыта па ёй праехаліся наждачкай. І яшчэ адна непрыемнасць напаткала Івана: у нетрах успушанага жывата штосьці абарвалася, пералілося з аднае кішкі ў другую і азвалася раскацістым бурчаннем. У жываце ўзбунтавалася салянка.

Да бліжэйшых кустоў ён бег на паўсагнутых, ірвучы на хаду газетны каптур, і ўслед яму – а можа гэта толькі здавалася – пагрозліва бухалі чыесьці цяжкія боты.

З кустоў небарака вылез праз паўгадзіны. Распешчаны, разняволены, ён новымі вачыма зірнуў на свет, і свет адкрыў яму патаемную ісціну: ва ўсім вінаватыя жыды і нацыяналісты.

Лагодная, дагэтуль нечуваная цеплыня разлілася ніжэй спіны. Іван памацаў азадак і толькі тады зразумеў, што гэтае цяпло спарадзіла бацькоўская турбота аб ім Абаронцы Ўсіх Славянаў.

Цяпло рабілася ўсё больш адчувальным. Яшчэ хвіліна – і кезаўку прыпякло так, нібыта ў яе ўпіхнулі распалены літавальнік. Іван брыкліва падскочыў і, ратуючыся ад гарачай турботы, пабег да вады. Па дарозе ён збіў з ног дзіцёнка, наступіў на голаў той самай кабеце, якой Ганчарык прагнай пяцярнёй рабіў масаж сцёгнаў і, зняўшы штаны разам з трусамі, з усяго маху плюхнуўся ў раку.

Тым часам у цёмна-зялёным “мерсе”, што стаяў непадалёку, апусцілі бакавое шкло, і ў прыцемнай пройме бліснулі шкельцы бінокля.

– Што гэта з ім? – незадаволена выгукнуў вастраносы тыпус, мацаючы ліловы шнар на левай шчацэ.

Другі тыпус, які сядзеў ззаду, таксама зірнуў у бінокль, сплюнуў на пясок агідную жуйку і яшчэ больш незадаволена працадзіў:

– The paper contains under forty per cent cayenne.[5]

## ЭПІЛОГ

Праз два дні Іван прынёс у рэдакцыю "Лубянскага набату" вялікі артыкул аб жыда-масонах, што атабарыліся ў саюзе пісьменнікаў. Рэдактар – сівагаловы мужчына са значком Дзяржынскага на штрыфлі пакамечанага пінжака – прабег вачыма дробна спісаныя старонкі, ухвальна кіўнуў і параіў напоўніць змест канкрэтнымі фактамі. Рэдактар выцягнуў з сейфа тэчку з аператыўнымі матэрыяламі на сябра СП Ганчарыка, паклаў перад Іванам і, натхняючы на плённую працу, ляпнуў па спіне.

Наступны артыкул Іван прысвяціў драматургу Шабуню, які, як высветлілася, плёў не толькі кашы, але й інтрыгі супроць Абаронцы Ўсіх Славянаў. Потым былі артыкулы пра паэта Мінковіча і эсэіста Анкуду, потым, па рэдакцыйнай замове, Іван напісаў дакументальны аповед пра вядомую варагіню славянства Валерыю Старадрожскую, за які атрымаў прэмію Ўсясветнага Славянскага Камітэта "Чыгунны Віцязь".

Вяртаючыся з чыгунным віцязем дахаты, Іван увесь час азіраўся. Яму здавалася, што варагіня славянства ідзе за ім следам, а калі ўбіўся ў творчую лабараторыю, дык убачыў у акне тую самую Старадрожскую. Агентка ЦРУ і Масаду сядзела на балконных парэнчах і з нахабным вы-

[5] Папера ўтрымлівае да сарака адсоткаў чырвонага каенскага перцу *(англ.)*.

глядам смаліла папяросу. Іван здрыгануўся, шпурнуў у акно чыгуннага балвана і з лямантам, дарэшты заглушаным звонам разбітага шкла, выбег на вуліцу...

Увечары таго дня небараку бачылі на ганку Галоўнай Адміністрацыі: ён біўся з ахоўнікамі, спрабуючы прайсці ў будынак. Па сведчанні відавочцаў, неўзабаве Іван быў даставулены спачатку ў спецразмеркавальнік на Ахрысціна, потым у прыймовы пакой Старынкаўскай бальніцы, нарэшце, ва ўтульны кабінет лейтэнанта Надгайнага. Там яму былі зроблены ін'екцыя трыяксазіну і цікавая прапанова: ачоліць Аргкамітэт па стварэнні Саюза Патрыятычных Славянскіх пісьменнікаў, які павінен згуртаваць у сваіх шыхтах усе здаровыя пісьменніцкія сілы. Падумаўшы хвіліну, Іван змахнуў са шчакі няпрошаную слязіну, пацалаваў камсамольскі значок на лейтэнантавым мундуры і моўчкі кіўнуў галавою ў знак згоды.

*Сакавік—красавік 1999 г.*



## Ігар ПРАКАПОВІЧ

*бо на плошчах гарадскіх*
*ужо гараць*
*вогнішчы,*
*дзе паляцца паэмы.*

***

Папрасі ў неба зорку –
хай Сусвет яе адпусціць
заляцець у тваю хату
запаліць табе святло.

Папрасі ў неба сонца
для душы сваёй халоднай,
каб знайшла яна нарэшце
у бязмежжы цеплыню.

Папрасі ў неба вечнасць,
каб займець сабе бясконцасць,
каб убачыць край сусвету
і сканчэнне ўсіх часоў.

Папрасі у неба Бога,
каб было каму маліцца,
каб ён мог цябе суцешыць
у бясконцасці тваёй.

...А калі ўсё надакучыць,
папрасіся сам на неба...

***

У разбуранай рэальнасці шукаць
нейкі сэнс –
дарэмнейшы занятак.
Тут адметнае ўціскаецца
пад прэс
і пануе
шэранькі парадак.

І не трэба розуму ствараць
рухавік
для Сонечнай сістэмы,
бо на плошчах гарадскіх
ужо гараць
вогнішчы,
дзе паляцца паэмы.

Ні вачэй, ні твараў –
толькі крык
рве ў шмаццё
матэрыю прасторы.
Я маўчу.
І ты таксама звык.
А ў мазгах
капаюцца манцёры.

Голас твой
зліецца хутка з крыкам,
бо спрацуе
ў галаве дыёд.
Хай я высахну,
хай стану Куперс-крыкам...
Клейце іншым
шыльду "ідыёт".

***

Раніцай
расцеш
у садзе
распускаеш галіны
і карэнне

марыш
усё
паўсюль
заўсёды.

Вечарам
дрэмлеш
у полі
падаюць галіны
сохнуць карані
разумееш
нічога
нідзе
ніколі.

***

Заходні шал душу магніціць.
Усходні дао шлях пакажа.
А я хацеў бы проста выжыць
Там, дзе чарнобыльская сажа.

Расце магільнае жыхарства.
Ля гарадоў – падземны горад.
І людзі там чакаюць царства,
Ці мо заместа раю – гора?

Мяне навучаць быць спакойным,
Ісці пакорна між крыжамі.
Нам не патрэбны болей войны –
Мы вынішчым сябе і самі.

Я рву чарнобыльскія кветкі,

Ўдыхаю пах на поўны грудзі.
Хто нас калі прасіў у сведкі?
І хто без нас тут сведчыць будзе?

***

На палюсах,
там, дзе стрэлка магнітнага компаса
безнадзейна,
адчайна
шукае напрамак на плоскасці,
разумееш,
што з неба энергія космасу
ціха
магутна
раскручвае шар незваротнасці.

Вам пашанцуе
вярнуцца ізноўку ў шчыльнае,
спробамі,
стогнамі
выканаць наканаванае.
Але, на жаль,
пераменіцца поле магнітнае
і
ў незваротнасці
ўбачыцца зноў нечаканае.

***

Сцежка губляе сама сябе.
Змагацца з травой
не хоча.

І сніць яна казку,
што хтосьці ідзе.

А ў хаты –
пустыя вочы.

***

У лабірынтах уласнага “я”
ёсць спасціжэнне сусветнага брацтва.
Чуеш, як лёгка спружыніць зямля?
Чуеш, яна намаўляе падняцца?

Позіркам пільным зірні на сябе.
Хіба не вечнасць убачыш ля сэрца?
Можа, ты гэта шукаў у хадзьбе?
Трызніў пра гэта у паняверцы?

Столькі шляхоў, а навошта, скажы?
Столькі пакут і трывог на дарогах.
Шчасце тваё каля сэрца ляжыць
побач з дарогай да Бога...

# АРЫСТАФАН



*Дык пачынай ужо! А я паслухаю,*
*Ці слушна збудаваныя твае пралогі.*

# Арыстафанавы “Жабы” – драма жыцця і смерці ў атэнскім тэатры Дыёніса

Каб паглыбіцца ў семантыку старагрэцкай камедыі і канкрэтна – “Жабаў”, неабходна хаця б пабежна глянуць на жыццё тагачасных Атэнаў, тэатра і самога Арыстафана. З гэтага, нібы вонкавага кантэксту, нярэдка бяруць пачатак глыбінныя сэнсавыя плыні драмы.

Жыццё Арыстафана прыпала на вялікі час. У сярэдзіне V ст. да н.Х., калі ён з’явіўся на свет, Атэны былі ў зеніце сваёй славы. Сярод іншых местаў-дзяржаваў, званых па-грэцку полісамі, яны пачалі вылучацца яшчэ пры тыраніі Пісістрата (каля 560 – 527 гг.). Знакаміты тыран збудаваў у месце цэлы шэраг велічных грамадскіх будынкаў і святыняў. Пры ім былі ўстаноўленыя Вялікія Дыянісіі, на якіх наладжваліся драматычныя відовішчы. Атэны ператварыліся ў важны культурны асяродак ды паступова набывалі ўсё большую палітычную моц. Пасля выгнання нашчадкаў Пісістрата і рэформаў Клейстэна тут на мяжы VI-V ст. да н.Х. усталявалася дэмакратыя – найкаштоўнейшы здабытак элінскай цывілізацыі.

У другім магутным старагрэцкім полісе Спарце, які таксама прэтэндаваў на лідэрства ў рэгіёне, панавала арыстакратычная алігархія. Між абодвума местамі пачалося доўгатрывалае суперніцтва, якое абвастралася рознасцю палітычнага ладу ў іх. У змаганне, падзяліўшыся на дзве групоўкі, уключыліся і іншыя полісы. Барацьба прыпынілася ў перыяд грэка-пэрскіх войнаў (500 – 449 гг.), калі ўся Грэцыя змушаная была паяднацца супроць велізарнага войска персаў. Пасля вайны Атэны, якія адыгралі ў ёй вырашальную ролю, набылі вялікі аўтарытэт у вачах грэкаў і сталіся іх гэгемонам. У выніку вайны атэнцы запанавалі на моры і ў дзяржаву паплылі незлічоныя багацці.

Атэны ўступілі ў свой “Залаты век” і ператварыліся ў культурную сталіцу грэкаў. Сюды пацягнуліся таленты з усяе грэцкае Айкумэны. У розны час на працягу V ст. да н.Х. тут

выкладалі свае дактрыны малаазійскія філосафы Анаксагор і Дэмакрыт, сафісты Пратагор, Трасімах, Гіпій і Горгій. Пры жыцці Арыстафана на вуліцах места шукаў праўды, выкрываючы яе з дапамогай свайго маеўтычнага мастацтва, атэнец Сакрат. Вольнае атэнскае паветра натхняла гісторыкаў Герадота і Тукідыда, трагікаў Эсхіла, Сафокла і Эўрыпіда, шматлікіх камедыёграфаў.

Кульмінацыяй "Залатога веку" стаўся час кіравання Пэрыкла (443 – 429 гг.) – геніяльнага палітыка і прамоўцы. Пры ім прайшлі дзіцячыя і юнацкія гады Арыстафана. Культура перажывала небывалы ўздым: квітнелі рамёствы і мастацтвы, філасофія і літаратура. Тады ж паўсталі архітэктурныя шэдэўры Акропаля – Партэнон, Эрэхтэён, святыня Нікі Бяскрылай, Прапілеі. Вакол Пэрыкла і ягонай жонкі Аспасіі склаўся гурток інтэлектуальнай эліты, да якога належалі філосаф Анаксагор, скульптар Фідый, "бацька" гісторыі Герадот, драматург Сафокл ды інш. Дасягнула апагею атэнская дэмакратыя.

У часы Арыстафана яна выглядала наступным чынам. Уся тэрыторыя Атыкі (Атэны з навакольнымі землямі) дзялілася на дробныя тэрытарыяльныя адзінкі – дэмы, што ўваходзілі ў склад 30 больш буйных – трытыяў, якіх было 10 у Атэнах, 10 — у вясковай мясцовасці і 10 – у прыморскай паласе. Трытыі аб'ядноўваліся ў 10 філаў, гэтак, што кожная філа складалася з адной гарадской, адной вясковай і адной прыморскай трытыі. Грамадзяне кожнай філы збіраліся на свой сход на вызначанай для яе плошчы ў Атэнах. Агульны народны сход спачатку адбываўся на адным з атэнскіх пагоркаў – Пніксе, а пазней – у тэатры. Ён абіраў Раду 500 (па 50 чалавек ад кожнай філы), якая пераважна рыхтавала законы і міжнародныя дамовы для зацвярджэння ў народным сходзе. Непасрэдную выканаўчую ўладу спраўляла калегія з 10 стратэгаў (па адным ад кожнай філы). Кожны са стратэгаў выконваў пэўна акрэсленыя абавязкі і мог пераабірацца неабмежаваную колькасць разоў. Быў і першы стратэг. Менавіта ў гэтай якасці 15 гадоў кіраваў местам Пэрыкл. Народны сход абіраў таксама кіданнем лёсаў дэмакратычную судовую установу – суд прысяжных, альбо гэліэю з 6 тысячаў суддзяў. Ва ўсіх выбарчых акцыях і ў працы дзяржаўных органаў маглі браць удзел толькі паўналетнія грамадзяне мужчынскага полу. Паўналетнім юнак лічыўся з 20 гадоў.

Поруч з гэтымі адносна новымі дзяржаўнымі органамі ў Атэнах працягвалі існаваць і старыя. Яшчэ з родаплемяннога перыяду захоўвалася былая рада старэйшынаў – арэапаг. Раней ён быў вышэйшым заканадаўчым, кантрольным і судовым органам. Потым гэтыя функцыі перайшлі да Рады – буле і суда прысяжных – гэліэі, а сам арэапаг пакінуў за сабою толькі абмежаваныя судовыя паўнамоцтвы, разбіраючы наўмысныя

забойствы і рэлігійныя злачынствы. З архаічных часоў утрымалася пасада архонта, які на пэўным этапе змяніў былога цара. Затым гэтая ўлада была размеркаваная між трыма, а яшчэ пазней – між дзевяццю архонтамі. Архонты былі галоўным выканаўчым органам у часы панавання родавай арыстакратыі. У дэмакратычных Атэнах за імі засталося толькі кіраванне культавымі і святочнымі мерапрыемствамі, а таксама другасныя судовыя справы. Тры з архонтаў мелі асаблівыя паўнамоцтвы. Архонт-басілеўс (цар) выконваў ролю старшыні ў арэапагу, арганізоўваў культавае складанне ахвяраў, заведваў зямельнымі ўладаннямі храмаў, а таксама кіраваў тэатральнымі відовішчамі і святамі. Архонт-эпонім, імем якога называўся чарговы год, стаяў на чале гарадскіх уладаў, прызначаў фундатараў харавых і тэатральных змаганняў. Архонт-палемарх адказваў за прынясенне ахвяраў і атлетычныя змаганні ў гонар страчаных на вайне.

Атэнскія грамадзяне карысталіся вялікімі правамі і свабодамі. Кожны меў поўнае права голасу, права заканадаўчае ініцыятывы. Усе пасады з часоў Пэрыкла аплачваліся за кошт дзяржавы. Пры ім жа быў уведзены, скасаваны пазней, адмысловы прывілей для маламаёмных грамадзянаў. Яны маглі атрымліваць ад дзяржавы грошы на тэарыкон – плату за тэатральны білет. Выдаткі, звязаныя з рознымі літургіямі (грамадскімі абавязкамі), ускладаліся на самых заможных грамадзянаў. Яны аплачвалі арганізацыю відовішчаў, гімнастычных гульняў, хоры для драматычных спаборніцтваў.

Дэмакратыя ў Атэнах не пашыралася аднак на міждзяржаўныя дачыненні. Утвораны ў 478 г. падчас грэка-пэрскіх войнаў агульнаэлінскі Дэлоскі марскі хаўрус з цягам часу ператварыўся ў прыладу панавання Атэнаў над астатнімі грэцкімі полісамі. Складкі, якія паступалі ад хаўруснікаў, усё часцей скарыстоўваліся на ўзмацненне атэнскага флоту, на ўзрастанне эканамічнай магутнасці места, на утрыманне вялікай колькасці чынавенства, занятага справамі хаўрусу. Атэнцы імкнуліся ўплываць на хаўруснікаў таксама праз свае калоніі – клерухіі, засноўваючы іх на землях хаўрусных полісаў. Усё гэта вяло да нарастання антыатэнскіх настрояў і нават да паўстанняў супроць Атэнаў у некаторых грэцкіх рэгіёнах. Пасля Пэрыкла зноў рэзка абвастрыліся супярэчнасці са Спартаю, якія выліліся ў Пэляпанэскую вайну, пачатую ў 431 г.

Тым часам не зусім спакойна рабілася і ў самой дзяржаве. Пасля Пэрыкла да ўлады штораз прыходзіць усё больш радыкальная дэмакратыя, якая супярэчыла інтарэсам атэнскай арыстакратыі і дзяржаўнаму ладу Спарты. На пасаду стратэга абіраюцца людзі нізкага паходжання з гандляроў і рамеснікаў, без належнага выхавання, але спрытных дэмагогаў. Такім быў гарбар Клеон, стратэг 427 – 422 гг., якога неаднойчы

высмеяў у сваіх творах Арыстафан. Вайна выявіла антаганізм між дзвюма атэнскімі групоўкамі. Адна з іх уключала ў сябе гандлярска-рамесніцкія колы і вайсковую эліту і стаяла на дэмакратычных пазіцыях. Яна выступала за працяг вайны да пераможнага канца дзеля захавання эканамічнай і ваеннай гэгемоніі Атэнаў. Другая складалася пераважна з арыстакратыі, погляды якой былі блізкія алігархічным ідэалам Спарты. Да яе прымкнулі атычныя сяляне, якіх вайна пазбавіла зямельных надзелаў. Гэтая групоўка імкнулася да замірэння са Спартаю, супраць чаго рашуча выказваўся народны сход, пад'юджваны дэмагогамі.

Усе гэтыя калізіі вялі да таго, што атэнскі поліс страчваў свой былы імідж і губляў вайсковую магутнасць у доўгай вайне. Шматлікія паразы і знішчэнне спартанцамі атэнскага флоту вырашылі лёс вайны. У 405 г., калі былі пастаўленыя "Жабы" Арыстафана, становішча Атэнаў было безнадзейным. У 404 г. яны капітулявалі. Праз 17 гадоў (387 – 379 гг.) на ролю гегемона сярод грэцкіх местаў-дзяржаваў выйдзе Спарта. А ў 338 г. уся Грэцыя прызнае над сабою ўладу Філіпа, цара Македоніі. Ягоны сын Аляксандр Вялікі ў выніку сваіх пераможных выправаў у розныя куткі свету пашырыць сваю ўладу на шэраг вялікіх дзяржаваў таго часу. І з 323 г. да н.Х. Грэцыя ўступіць у новы час – час культурнага ўзаемадзеяння з Усходам, эпоху элінізму.

Такія падзеі і абставіны атачаюць і ўплятаюцца ў бег жыцця Арыстафана, які перажыў узлёт і падзенне атэнскай дэмакратыі ад яе кульмінацыі пры Пэрыкле да выраджэння ў часы Клеонта і ягоных наступнікаў. Пра самога паэта мы маем няшмат звестак, ды і яны, у большасці, узятыя з ягоных твораў. Традыцыя даносіць да нас імя бацькі – Філіп, назвы дэма – Кідафінэй і філы – Пандыёніда, да якіх ён належаў. Бацька, селянін сярэдняга дастатку, магчыма, пасля страты маёмасці ў Атыцы, атрымаў як клерух надзел на выспе Эгіне, размешчанай побач з атычным узбярэжжам. Мабыць, на Эгіне і нарадзіўся будучы камедыёграф[1]. Выхоўваўся і навучаўся ён у Атэнах. Яшчэ не дасягнуўшы паўналецця, ён павінен быў атрымаць грунтоўную літаратурную і музычную адукацыю, бо распачаў сваю творчасць не маючы і васемнаццаці гадоў.

Творы Арыстафана належаць да першага перыяду грэцкай камедыяграфіі, г.зв. старой атычнай камедыі, характэрная рыса якой – выразная палітычная заангажаванасць. Да яго і пасля яго ў гэтым накірунку працавала вялікая плеяда паэтаў. Шмат з іх мелі несумненны літаратурны талент. На жаль, ад усяе гэтае плыні захаваліся толькі імёны 57 аўтараў, каля 400 назваў камедыяў, ды шматлікія фрагменты з іх. Старажытныя грэкі лічылі найлепшымі з усяе гэтае камедыйнае спадчыны творы трох паэтаў: Кратына, які з 453 да 423 г. паставіў 30 камедыяў,

Эўпаліда – якому належалі 11 смехавых драмаў, пастаўленых з 429 да 410 г., і Арыстафана, прызнанага найлепшым[2].

Традыцыйна ўважаецца, што Арыстафан напісаў 44 камедыі. З іх захаваліся 11 дзякуючы таму, што пасля ягонай смерці творы вывучаліся ў школах як узорныя з гледзішча чысціні мовы і літаратурных вартасцяў. Такім чынам, ужо ў антычнасці яго лічылі найлепшым камедыйным паэтам. П’есы Арыстафана не сыходзілі са сцэны больш за 40 гадоў з 427 да 386 гг.

Першыя чатыры камедыі былі пастаўленыя пад чужым імем, бо як непаўналетні паэт не мог “прасіць хора”, а г.зн. не мог быць дапушчаным да ўдзелу ў драматычным конкурсе (агоне). У 427 г. гледачы ўбачылі першую п’есу “Бяседнікі”. Галоўная дзея яе адбываецца ў храме Гэракла, куды збіраецца на святочную бяседу атычны дэм. У творы паддаецца крытыцы новае выхаванне моладзі. Другая камедыя “Бабілёнцы”, пастаўленая на Дыянісіях 426 г., была скіраваная супроць Клеона і атэнскай палітыкі ў дачыненні хаўруснікаў. Абодва гэтыя творы не захаваліся.

У наступным 425 г. Арыстафан выступіў з камедыямі на абодвух святах Дыёніса: Ленэях і Дыянісіях, паставіўшы “Ахарнянаў”, дзе заклікаў да прымірэння са Спартаю, і незахаваную п’есу “Драмы, альбо Кентаўр”.

Адна з самых таленавітых камедыяў “Вершнікі” атрымала сцэнічнае жыццё ў 424 г. У ёй пад выглядам нахабнага раба-пафлагонца, які спрытна ашуквае свайго выжыўшага з розуму гаспадара Дэмаса (па-грэцку “дэмас” – народ), выводзіцца стратэг Клеон. Нахаба, карыстаючыся прыхільнасцю старога, усяляк прыціскае і здзекуецца над іншымі рабамі – Дэмастэнам і Нікіем. Толькі выпадкова скрадзенае імі ў пафлагонца прароцтва пра тое, што яго можа перамагчы яшчэ больш нахабны гандляр каўбасамі, дапамагае ім пазбавіцца ад гэтых здзекаў. Каўбаснік Агаракрыт перамагае пафлагонца ў спрэчцы-агоне і заваёўвае сімпатыі Дэмаса. Больш таго, ён магічным спосабам вяртае Дэмасу маладосць, зварыўшы яго ў катле з кіпенем.

Камедыя “Хмары”, з якою паэт выступіў у 423 г., высмейвала тып арыстакратычнага маладзёна-выскачкі, сапсаванага модным сафістычным выхаваннем. Цікава, што ў якасці спрытнага настаўніка сафістыкі паказаны сам Сакрат.

У “Осах” (422 г.) аб’ектам сатыры робіцца прага атэнцаў да судовых працэсаў. Тут ізноў парадуецца стратэг Клеон, а заканчваецца п’еса кпінамі з кепскіх трагікаў – Каркіна і ягоных сыноў.

Стомленасць ад вайны ды жаданне міру і спакою, якія авалодваюць большасцю атэнскіх грамадзянаў падчас Пэляпанэскай вайны, знайшлі выяўленне ў камедыях “Мір” (421 г.) і “Лісістрата” (411 г.). У апошняй атэнская кабета заклікае іншых жанчынаў аб’явіць байкот сваім мужам, па-

збаўляючы іх жаночых ласкаў, да таго часу, пакуль тыя не спыняць вайны.

Камедыі "Птушкі" (414 г.), "Жанчыны ў народным сходзе" (каля 389 г.) і "Багацце" (388 г.) малююць тыпы ўтапічных грамадстваў: у першым выпадку – птушынага, у другім – кіраванага жанчынамі, у трэцім – створанага шляхам маральнага пераўладкавання.

Як літаратурныя пародыі на трагедыйныя творы напісаныя "Жанчыны на свяце Тэсмафорыяў" (411 г.) і "Жабы" (405 г.). У іх крытыкуюцца і высмейваюцца некаторыя рысы грэцкіх трагедыяў і іх аўтары. Асабліва дастаецца апошняму знакамітаму трагіку Эўрыпіду.

Гэты пабежны агляд творчасці Арыстафана дае нейкае ўяўленне толькі пра знешні, тэматычны бок ягонага шматстайнага і багатага літаратурнага даробку. Але каб наблізіцца да глыбіннай сутнасці і сэнсавай архітэктуры ягоных твораў, каб зразумець, што кіравала аўтарам пры іх напісанні, што стымулявала ці абмяжоўвала ягоны творчы акт, неабходна бліжэй прыгледзецца да старагрэцкага тэатра, драмы і да гэткага адмысловага тэатральнага відовішча як камедыя.

Нельга дакладна вызначыць час узнікнення грэцкай драмы, але пачаткі яе сягаюць яшчэ да эпохі традыцыйнага, далітаратурнага, родаплемяннога грамадства. Вядома, што трагедыя ўпершыню была пастаўленая ў Атэнах пры Пісістраце ў 534 г. да н.Х. З імем гэтага тырана звязваюць таксама значныя перабудовы ў Элеўсінскай святыні і ўстанаўленне дыянісійскіх святаў, на якіх наладжваліся і тэатральныя відовішчы. Вялікія Дыянісіі святкаваліся ў сакавіку, а Ленэі – у канцы студзеня. Самым грандыёзным было свята Вялікіх Дыянісіяў, якое доўжылася цэлых пяць, а пазней нават шэсць дзён.

Паглядзім, як спраўлялася яно ў часы Арыстафана. Калі б мы перанесліся ў старажытныя Атэны, то ў першы дзень мы апынуліся б у шматлюднай працэсіі: увесь люд, бедныя і багатыя, мужчыны і жанчыны ў святочных строях крочаць разам на чале з архонтам, якога атачаюць вышэйшыя жэрцы і службовыя асобы. У працэсіі пераносіцца ўзятая з храма Дыёніса статуя бога. Тут жа ў залатых вянках і пунсовых мантыях ідуць харэгі, якія прадстаўляюць хоры для драмаў, і самі хоры. Ідуць у працэсіі і ахвярныя жывёлы. Шэсце, ачоленае Дыёнісам і архонтам, спыняецца на рынкавай плошчы, дзе хор танчыць і спявае перад выявамі багоў, а затым Святою дарогаю, якая вядзе ў Элеўсін, праз Святую браму выходзіць з места і рушыць да садоў Акадэма. Тут статуя Дыёніса змяшчаецца на падвышэнне і перад ёю складаюць у ахвяру прыведзеных з сабою жывёлаў. Пасля ахвяравання адбываецца супольная вячэра і гулянне, а ўначы пры паходнях працэсія разам з Дыёнісам вяртаецца ў Атэны і ставіць бога на архест-

ры тэатра. На наступны дзень там спаборнічаюць дытырамбічныя хоры. Іх дзесяць – па адным ад кожнай філы.

Астатнія дні свята прысвячаюцца тэатральным відовішчам. Штодня ставіцца адна тэтралогія аднаго з трох, выбраных архонтам, драматургаў. Яна складаецца з трох трагедыяў і сатыравай драмы. З цягам часу, відаць, пасля сатыравай драмы пачалі ставіцца камедыі. Такім чынам, пастаноўкі займаюць цэлы дзень і публіка глядзіць іх ад усходу сонца і да захаду на працягу трох, а пазней, магчыма, і чатырох дзён. Заканчваюцца драматычныя спаборніцтвы ўзнагародаю лепшых драматурргаў, харэгаў і актораў. У фінале тэатр ператвараецца ў месца суда, на якім судзяць самога архонта. Спярша выступае абвінаваўца з публікі, затым з ім уступае ў слоўнае змаганне-агон звінавачаны, а выносяць вырак гледачы і іхні голас асуджае ці апраўдвае архонта.

Прайшоўшы ў працэсіі і здзейсніўшы ахвяраванні разам з богам нараджэння і смерці расліннажывёльнага свету, штогод паміраючым і ўскрасаючым Дыёнісам-Бакхам у першы дзень, а на другі дзень узяўшы ўдзел у спаборніцтве славячых бога хораў, на досвітку трэцяга дня атэнскі люд кіруецца да тэатра. Пайшоўшы разам з усімі, мы яшчэ здалёк пабачылі б на тле світальнага неба пагорак Акропаля, а апынуўшыся бліжэй, разрознілі б на яго пляскатым версе высокія муры, за якімі хаваецца Партэнон ды іншыя культавыя збудаванні. Насупраць Партэнона да акропальскага пагорка прылягае святыня Дыёніса з ягоным храмам і тэатрам, задняя частка якога з месцамі для гледачоў уразаецца ў каменны бок пагорка. Заплаціўшы два обалы (кошт пражытачнага мінімуму аднаго дня), ды атрымаўшы жэтон з выяваю Дыёніса і абрэвіятураю філы, праз усходнюю браму-парод (уваход) увойдзем у тэатр.

Перад сабою мы ўбачылі б ідэальна круглую пляцоўку архестры з ахвярнікам Дыёніса і ягонаю статуяю ў цэнтры, а далей за архестраю — заходнюю браму-эксод (выхад). Злева ад архестры стаіць прадаўгаваты будынак скены, прызначаны для актораў (змены масак, пераапранання ды інш.). На пярэдняй сцяне скены, звернутай да гледачоў, змяшчаюцца дэкарацыі. Сцэнічнае дзеянне разгортваецца перад скенаю на архестры з дыянісаўскім ахвярнікам пасярэдзіне. Справа ад архестры, ахопліваючы яе падковаю, канцы якой упіраюцца ў брамы ўваходу і выхаду, ступенямі падымаюцца ўверх каменныя сядзенні для гледачоў. Радыяльна ад архестры праходамі-лесвіцамі ўся гэтая прастора дзеліцца на сектары. Гледачы займаюць месцы ў сваім сектары разам з іншымі грамадзянамі сваёй філы. У пярэдніх шэрагах сядаюць найбольш пачэсныя людзі: сябры рады-буле, замежныя паслы, архонты, харэгі, жэрцы. Самае адметнае, асаблівым чынам аздобленае месца ў першым шэра-

гу па цэнтры займае жэрца Дыёніса[3].

Гледачы прыходзяць у тэатр, падсілкаваўшыся і скаштаваўшы віна, з харчам на цэлы дзень, з падушкамі і дыванкамі, каб зручней размясціцца на каменных лавах, і сядзяць на іх, укаранаваўшы сябе вянкамі. На ахвярніку архестры перад статуяй Дыёніса складаецца жывёльная ахвяра і жэрца бога ачышчае гледачоў, пакрапляючы іх ахвярнай крывёю. Драматург і хор робяць узліянне і кіданнем лёсаў абіраюцца дзесяць суддзяў (па аднаму ад кожнае філы), пяць з якіх у канцы свята вызначаць найлепшых паэтаў, харэгаў і актораў. Пачынаецца тэатральнае змаганне між трыма трагікамі, трыма комікамі, між іхнімі харамі і акторамі, змаганне-агон, прысвечанае Дыёнісу.

Кожная пастаноўка пачынаецца пралогам, які разыгрываецца адным альбо некалькімі акторамі. Затым праз парод маршавым крокам на архестру ўваходзіць хор. Перад уваходам яго ўдзельнікаў затрымліваюць і частуюць віном. Падчас спектакля і гледачам падносяць віно ды асаблівы дэсерт са стручковых, смокваў і гарэхаў — усяго, што разгрызаецца і з'ядаецца ў сырым выглядзе, — г.зв. трагэматы. А з архестры кідаюць ім вінаград, тыя ж трагэматы і ячмень. Хор застаецца на архестры на працягу ўсяго дзеяння трагедыі-камедыі і выступае галоўнай дзеючай асобаю. Складаецца ён з 12 – 15, а ў камедыі – з 24 чалавек аднаго ўзросту, аднаго полу, аднаго сацыяльнага статуса, у аднолькавых строях, з аднолькавымі маскамі, і абіраецца ён з прадстаўнікоў адной філы (роду). Гэтае абранне адбывалася наступным чынам. Рыхтуючыся да святаў Дыёніса, архонт адбіраў для іх лепшыя п'есы трох трагічных і трох камічных паэтаў і "даваў" іх аўтарам хоры, г.зн. прызначаў ім харэгаў – багатых прадстаўнікоў асобных філаў, якія маглі матэрыяльна забяспечыць дзейнасць хору. Харэг абіраў з грамадзянаў сваёй філы хор, наймаў для яго настаўніка, музыкаў, замаўляў касцюмы і выдзяляў сродкі на пачастункі і харчаванне.

На сцэне хор спявае і танчыць, жэстыкулюе і робіць мімічныя цярухі. Сваім знешнім выглядам і дзеяй ён прадстаўляе групу людзей пэўнай мясцовасці і пэўнага сацыяльнага стану, а ў камедыі нярэдка жывёлаў і птушак, ды іншыя прыродныя і міфічныя аб'екты. Хоць у хоры вылучаецца запявала-карыфей, але ўся група выглядае адзінай істотаю і надзвычай часта гаворыць пра сябе не "мы", а "я". Такім чынам, у старагрэцкай драме харавы калектыў выступае як адмысловы зборны, адзінамножны персанаж.

Астатнія ролі разыгрываюцца акторамі, якіх у часы Арыстафана магло быць задзейнічана ў адной п'есе не больш трох (толькі ў рэдкіх выпадках дапускаўся чацвёрты). Мяняючы вопратку і маскі, кожны актор мог выконваць некалькі роляў. Постаць актора вылучылася, хутчэй за ўсё, з са-

мога хору. На нейкім этапе розвітку драмы карыфей хору, якім першапачаткова мог быць жэрца Дыёніса, стаў замяняцца адмысловай асобай. Як паказвае яе грэцкая назва ὑποκριτής (адказчык), спачатку функцыя актора зводзілася толькі да "адказвання" хору. Увёў яго ў драму, як лічаць, яшчэ ў часы Пісістрата Тэспід. Доўгі час у пастаноўках ужываўся адзін актор, якім быў сам аўтар. Затым Эсхіл павялічыў іх колькасць да двух, а Сафокл – да трох. Яны разрозніваліся між сабою іерархічна: першы актор – пратаганіст, другі – дэўтэраганіст, і трэці – трытаганіст.

Акторы, як і хор, спяваюць і танчаць, жэстыкулююць і робяць мімічныя рухі. Яны то прамаўляюць, то гавораць рэчытатывам, то пераходзяць да меладэкламацыі і спеваў. І ўсё гэта – ці ў выглядзе маналога, ці ў дыялогу-дуэце з хорам, карыфеем, іншымі акторамі. Акторскія строі разрозніваюцца ў залежнасці ад жанру. У трагедыі – гэта багатая і ўрачыстая вопратка, аздобленая вышыўкамі і ўпрыгожаннямі, з дарагой і цяжкай тканіны. Строі гэтыя падобныя да адзення жэрцаў. Апрача таго, пастава актора набывае яшчэ большую велічнасць дзякуючы ўжыванню розных падкладак пад адзеннем, катурнаў – своеасаблівых падставак-платформаў на абутку і высокіх прычосак. Строі і маскі камедыйных актораў, наадварот, павінны былі выклікаць у гледачоў смех, яны дэфармавалі, перакручвалі цела, падкрэсліваючы яго вады. Адзенне тут наўмысна безгустоўнае, стракатае, пад ім – на жываце і азадку ўмацоўваюцца падкладкі, а спераду нярэдка прывешваецца вялікі скураны фал.

Як ужо гаварылася, пераапранаючыся і мяняючы маскі, актор мог браць на сябе розныя ролі, у т.л. і на працягу адной п'есы. Хоць і значна радзей, падобнае магло адбывацца і з хорам, напрыклад, як у "Жабах" Арыстафана. Такім чынам, у старагрэцкай драме мноства асобаў можа іграць адну, і адна – многіх. І хор і акторы тут – толькі мужчынскага полу, а ўсе жаночыя ролі выконваюцца мужчынамі.

Паколькі хор — галоўны элемент драматычнага дзеяння, то яно дзеліцца на часткі і разгортваецца ў адпаведнасці з акцыямі харавога калектыву. Уваходзячы на архестру, хор выконвае песню-парод, стоячы на месцы – стасім (з грэцк. "стаячая песня"), у кругавым руху вакол ахвярніка на архестры па ходу сонца: у першай палове круга, злева направа, — страфу (грэцк. "паварот"), і ў другой палове, справа налева, – антыстрафу (грэц. "паварот назад"), а вярнуўшыся ў зыходную кропку руху – эпод (грэц. "пасляпесня", "песня-закляцце"). Пры сыходзе з архестры спяваецца эксод (грэц. "выхад").

Між гэтымі партыямі хору, якія складаюць каркас п'есы, устаўляюцца эпісодыі (грэц. "прыўваходжанне", г.зн. новы прыход актора, "устаўка"), дзе актор вядзе дыялог з хорам ці ягоным карыфеем

альбо з іншым акторам. Апрача таго, у трагедыі ўстаўляецца комас – галашэнне хору з салістам, а ў камедыі дадаецца яшчэ гэткая характэрная для яе частка, як парабаза (грэц."адыход", "адступленне"), якою перарываецца ход сцэнічнага дзеяння. Акторы сыходзяць са сцэны, і на архестры застаецца толькі хор. Харэўты і карыфей павяртаюцца тварам да публікі, здымаюць маскі і ад імя аўтара, у першай асобе адзіночнага ліку, звяртаюцца да гледачоў з пахвалою аўтару ці хору і з кпінамі ды лаянкаю ў адрас пэўных асобаў.

Кампазіцыйна грэцкая драма будуецца на барацьбе двух супрацьлеглых пачаткаў. У трагедыі гэтая барацьба ўвасабляецца ў дыялогах-спрэчках і дасягае найбольшага напалу ў перыпетыі – павароце падзеяў у адваротны бок: ад радасці да гора, ад надзеі да адчаю. Пасля перыпетыі адбываецца катастрофа і гібель. Кампазіцыйны стрыжань камедыі – гэта т.зв. агон – слоўнае змаганне між двума персанажамі, у якім адзін з іх перамагае. Бярэ ўдзел у гэтым двубоі на баку аднаго з праціўнікаў і хор са сваім карыфеем. У агоне дзеянне дасягае кульмінацыі, за якою наступае развязка.

Старагрэцкая публіка глядзіць у тэатры сумныя п'есы – трагедыі, галоўная тэма якіх, — смерць, дзе персанажы гінуць у барацьбе з усёмагутным лёсам-наканаваннем, і зямное, смяротнае цярпіць крах, а перамагае боскі прынцып. Адбываецца маральнае перараджэнне самаўпэўненага, зухвалага чалавека ў пакорлівага.

У сатыравай драме, якая ставіцца пасля кожных трох трагедыяў і ўтварае з імі адно цэлае, святкуецца перамога над смерцю, якая часам паказваецца ў выглядзе пачвары. Хор складаецца тут з сатыраў – казланогіх спадарожнікаў Дыёніса. Героі і багі выступаюць у карыкатурным выглядзе. На сцэне пануе атмасфера весялосці, а персанажы аб'ядаюцца і ўпіваюцца віном.

Камедыяй, драмаю смеху і кпінаў, заканчваецца тэатральны дзень у Атэнах. У камедыі персанажы, сярод якіх могуць быць не толькі багі і героі, але і рэальныя людзі, высмейваюцца і парадуюцца. Парадуеецца і сама трагедыя з яе дзеючымі асобамі. У структуру п'есы, апрача інвектыўных, ганьбуючых песняў з ямбічнай метрыкай, уваходзяць ахвяраванне, прыгатаванне яды, яда і піццё на сцэне персанажаў, яўны ці няяўны шлюб альбо ягоныя семантычныя аналагі.

Сучаснаму тэатралу, які апынуўся б у атэнскім тэатры Дыёніса, шмат што здалося б незразумелым і неверагодна дзіўным. Дзіўнае само месца, што гэтак нагадвае неба і сонца: геаметрычна правільнае кола архестры з радыяльнымі промнямі-праходамі, якія прасякаюць і абдымаюць глядзельную залу. На архестры кружыцца сонца-кола хору, адабранага з таго ж родавага калектыву, да якога на-

лежаць і гледачы. А над галовамі гледачоў, узыходзячы з іх прыходам і заходзячы з іхнім адыходам, прарабляе свой дзённы шлях у блакітным небе само сонца Гэліёс. Яно ўстае з боку той брамы, куды заходзіць публіка і хор, і сядае за заходняю брамаю, праз якую пакідае архестру хор, а гледачы – тэатр.

Дзіўная і публіка: яна глядзіць відовішчы цэлы дзень, і гэта не надакучвае ёй. Наадварот, яна надзвычай блізка ўспрымае ўсё, што адбываецца на архестры: плача і смяецца разам з дзеючымі асобамі, нібы сама іграе на сцэне, увасобіўшыся ў сцэнічных персанажах. Гледачы сядзяць па філах-родах са сваімі старэйшынамі і жэрцамі. Яны – у вянках і святочных строях, ядуць і п'юць віно ў самой глядзельнай зале.

На вачах у публікі адбываюцца яшчэ больш незразумелыя рэчы. У цэнтры архестры перад статуяю Дыёніса, на ніжняй прыступцы ягонага ахвярніка, у асабліва ўрачыстых момантах п'есы стае і вядзе сваю партыю першы актор. Але тут жа перад і пасля прадстаўленняў складаюцца ахвяры, і ў гэтым абрадзе ўдзельнічаюць жэрца Дыёніса, хор і акторы, гледачы. Ахвяраванне, яда і піццё адбываюцца таксама і ў п'есах і ў глядзельнай зале. Галоўнае месца ў гэтых пастаноўках займае хор, апрануты то ў даўгія ўрачыстыя ўборы жэрцаў, то ў жывёлаў, то ў дзіўных, пакрытых поўсцю, казлаагіх паўлюдзей-сатыраў. І гэтая група выступае як адна асоба і найчасцей называе сябе ў адзіночным ліку.

Ні з чым непараўнальныя і акторы: у трагедыі – на высокіх паўхадулях-катурнах, са штучна выцягнутымі і ўзвялічанымі паставамі, у камедыі – з дэфармаванымі, пачварнымі целамі. І ўсе – у масках не канкрэтных асобаў, а абстрактных тыпажоў, людзей-характараў.

Іграа хору і актораў не падобная ні на водзін з сённяшніх відаў еўрапейскага сцэнічнага мастацтва. Аддалена старагрэцкія трагедыя і камедыя нагадваюць сённяшнюю оперу і аперэту, але бліжэй – да некаторых індыйскіх, ці нават кітайскіх сцэнічных жанраў, дзе дакладна рэгламентаваныя не толькі структура і тэматыка, але і кожны рух актораў. Падобнаму рэгламенту ў грэцкім тэатры падпарадкоўваюцца не толькі аўтар, хор і акторы, але і гледачы, якія павінны сядзець у прызначаным месцы вызначаны час, у адпаведных уборах, у пэўным стане і рэагаваць на ігру адэкватным чынам.

Яшчэ больш загадак крыецца ў сюжэтах, якія разгортваюцца на сцэне. Чаму ў трагедыі дзейнічаюць багі і героі, чаму тут абавязкова павінна быць перыпетыя, а герой мусіць загінуць у змаганні з лёсам? Чаму ў камедыі абавязкова мусіць быць спрэчка-агон, ахвяраванне і яда на сцэне, шлюб ці любоўнае збліжэнне, перамога новага над старым ці перараджэнне старога ў новае? І нарэшце, чаму

 



абодва віды драмы маюць гэткія недарэчныя назвы як трагедыя (песня казлоў) і камедыя (песня балявання і вясёлага шэсця)?

Цалкам верагодна, што многія з гэтых загадак і "недарэчнасцяў" не маглі б растлумачыць у эпоху Арыстафана не толькі атэнскія гледачы, але нават старагрэцкія філосафы. Тым больш незразумелаю заставалася грэцкая драма для пазнейшых даследчыкаў. Толькі ў канцы XIX – пачатку XX ст. у яе вывучэнні адбыўся кардынальны пералом. Высветлілася, што і драма, і літаратура, і яшчэ шырэй – уся чалавечая культура вырастае на глебе архаічнага, дакласавага светаўспрымання. Дзякуючы намаганням спецыялістаў розных гуманітарных дысцыплінаў, перадусім міфалагістаў і этнолагаў Э.Дзюркгейма, Дж. Фрэзэра, К.Пройса, Л.Леві-Бруля, філолагаў В.Гумбальта, А.Патэбні, А.Весялоўскага і В.Фрэйдэнбэрг, філосафа Э. Касірэра былі вывучаны асаблівасці гэтага светаўспрымання і тая семантычная сістэма, якая сфармавалася ў яго нетрах і захавалася ў літаратуры.

Было заўважана, што першабытная міфатворчая, вобразная свядомасць адрозніваецца ад пазнейшай рацыяналістычнай і галоўная яе рыса – комплекснасць, злітнасць. Гэта прадугледжвае паяднанне ў розуме адзінкавага і агульнага, часткі і цэлага, рэчы і яе якасці, прычыны і наследку[4]. Падобная нерасчлененасць уяўнага сусвету яскрава выяўляецца ў гэткай асаблівай з'яве першабытнай грамадскай свядомасці як татэмізм. Асобны род і кожны яго прадстаўнік выводзяць сваё паходжанне і назву ад татэма – жывёлы, расліны, альбо, радзей, ад іншага прыроднага аб'екта ці з'явы. У сувязі з гэтым жывёлататэм лічыцца крэўным родзічам кожнага чалавека з гэтага роду. Правадыр-жэрца, увесь род і асобны яго член – гэта ўвасабленне татэма. Але татэм таксама і ўвесь космас, альбо ягоная частка[5]. Татэм – гэта адзіна-множная істота, якая ахоплівае род, яго ахоўніказвера, прыроду, сусвет. Татэм памірае і нараджаецца пры смерці і нараджэнні кожнага прадстаўніка роду. Складаючы ў ахвяру, раздзіраючы і з'ядаючы цела татэма, выпіваючы яго кроў, а на земляробчай стадыі грамадства – разгрызаючы расліну-хлеб і п'ючы яе сок-віно, родавы калектыў праз гэта дае жыццё татэму ў сабе. Тым самым род умярцвяе і вяртае да жыцця таксама сябе самога, прыроду і сусвет. Жыццё татэма разыгрываецца ў дзеянні: імітуюцца ягоныя гукі голасам, рухі – танцам, надзяваецца ягоная маска і знешнія атрыбуты – шкура, пер'е ды інш.

Дыфузнасць першабытнага мыслення вядзе да таго, што індывід успрымае свет праз прызму родавага калектыву і сябе як яго часткі. Так, напрыклад, прасторавыя катэгорыі звязваюцца з чалавечым целам, дзе галава – верх, ногі – ніз, твар – перад, спіна –

 

зад, рукі – права і лева, а працяканне часу – з чалавечым жыццём: як нараджэнне, жыццё і смерць сусвету. Больш таго, дамінуе ўсведамленне, што не толькі навакольны свет уплывае на род і асобу, але і чалавек можа актыўна ўплываць на сусвет. Таму ўсім штодзённым жыццём калектыў спрабуе інтэрпрэтаваць яго і на яго ўздзейнічаць. Усе найбольш значныя моманты жыцця роду – барацьба, шэсце, яда, палавы акт, плач і смех асэнсоўваюцца ў касмічных катэгорыях, як змаганне са смерцю і перамогу над ёю салярна-вегетатыўнага боства. У абрадава-магічнай сферы наўмыснае выкананне такіх дзеянняў павінна ўзнаўляць на зямным плане гэтае змаганне і спрыяць перамозе бога.

Даследаванні ў галіне спецыфікі архаічнага светаўспрымання дазволілі бліжэй падысці да вырашэння пытання генэзісу старагрэцкай драмы. Сёння амаль усе згодныя ў тым, што галоўнай яе крыніцаю быў культ Дыёніса. Большасць даследчыкаў лічаць слушным меркаванне Арыстотэля, што "трагедыя ўзнікла ад запявалаў дытырамба, а камедыя – ад запявалаў фалічных песняў" (Паэтыка, 4, 1449а). Як ужо было сказана, другі дзень Вялікіх Дыянісіяў прысвячаўся змаганням дытырамбічных хораў, якіх было 10, па адным ад кожнай філы. Дытырамб – гэта харавая песня ў гонар Дыёніса з танцам і мімічнай ігрою. Адметная рыса гэтай песні ў тым, што асобныя яе часткі выконваюцца пачароднa запявалаю-карыфеем і ўсім хорам.

Паводле словаў Гарацыя ("Пра паэтычнае мастацтва", 220) пераможцы ў песенных агонах у гонар Дыёніса атрымлівалі ва ўзнагароду казла. Некаторыя навукоўцы мяркуюць, што і выканаўцы абрадавых песняў імітавалі казлоў: пераапраналіся ў казліныя шкуры, падвязвалі рогі і капыты. На шматлікіх выявах Дыёніс паказаны ў атачэнні казланогіх дэманаў пладнасці – сатыраў. Галоўнае свята бога пачыналася складаннем у ахвяру ягонай татэмнай жывёлы – таго ж казла[6]. Такім чынам, назва аднаго з драматычных жанраў "трагедыя" – песня казлоў атрымлівае сваё тлумачэнне.

Фалічныя песні, ад якіх выводзіцца камедыя, былі звязаныя з абрадамі пладнасці; у іх гучалі вясёлыя жарты, кпіны і скабрэзныя досціпы. У старажытнай Грэцыі былі вядомыя таксама працэсіі вясёлых гулякаў, комасы, у час якіх адпускаліся жарты ў бок сустрэчных людзей, усчыналася жартоўная сварка з імі, высмейваліся пэўныя, усім знаёмыя асобы. Камедыя – песня комаса, як лічаць некаторыя філолагі, сфармавалася на аснове малых народных драматычных жанраў, старэйшых за трагедыю. Але несумненна тое, што літаратурная камедыя выйшла на сцэну атэнскага тэатра пазней, і, парадуючы сумную драму, усё ж апынулася пад яе ўплывам.

Існуе даволі пераканаўчае меркаванне, што на генэзіс сцэнічных

відовішчаў у Атэнах моцна паўплывалі Элеўсінскія містэрыі, прысвечаныя Дэмэтры – багіні зямной плоднасці, земляробства, збожжа і расліннасці, і яе дачцэ Пэрсэфоне. Падчас гэтых таінстваў адбывалася дзейства, у якім на працягу некалькіх дзён разыгрываліся сцэны з жыцця багіні і яе дачкі: любоўнае паяднанне Дзэўса з Дэмэтраю, нараджэнне Іякха (атаясамліваўся з Дыёнісам), выкраданне Пэрсэфоны Плютонам, пошукі Дэмэтрай дачкі і вяртанне яе на зямлю, што звязвалася з надыходам вясны. У канцы святаў, на зваротным шляху працэсіі з Элеўсіну ў Атэны, калі яна пераходзіла Святы мост на р.Кэфіс, навакольныя жыхары абрушвалі на ўдзельнікаў град кпінаў і ўступалі з імі ў жартоўную лаянку. Тут даставалася і атэнскім кіраўнікам. Прынесены з Тракіі культ Дыёніса крыху пацясніў больш старажытнае шанаванне Дэмэтры, але і сам шмат увабраў з яго ў сябе, часткова нават зліўшыся з ім, што вынікае з абрадавасці Элеўсінскіх містэрыяў. Як бы ні было, але словам θέατρον – тэатр (літ. гледзішча, месца відовішчаў) спачатку называліся месцы культавых сходаў у гонар Дэмэтры і Дыёніса.

Несумненна, што ў драму ўвайшлі і элементы культу герояў – легендарных родапачынальнікаў. Герадот паведамляе, што ў м. Сыкіёне жыхары ўшаноўвалі "трагічнымі" хорамі (хорамі казлоў) мясцовага героя Адраста, але потым тыран Клейстэн замяніў гэты культ Дыянісавым. Паданне пра Адраста мае агульныя месцы з міфам пра Дыёніса. Постаць Адраста, дарэчы як і іншых герояў, мае ў сабе шмат татэмічных рысаў. Магчыма, менавіта такіх звяроўтатэмаў, міфічных родапачынальнікаў, рэпрэзентуюць маскі хору і актораў у першапачатковай грэцкай драме. Звярыныя выявы з цягам часу трансфармуюцца ў чалавечыя, якія паказваюць тыповыя характары. Прычым семантыка гэтых тыпаў у антычных пісьменнікаў (напр., у Тэафраста) грунтуецца на параўнанні з рысамі жывёлаў. Трэны – пахавальныя песні, якія спяваюцца ў гонар герояў, робяцца неадменным элементам трагедыі. Багі-татэмы і іхнія чалавечыя ўвасабленні – героі, прадстаўляючыя род, становяцца яе галоўнымі персанажамі. Але яны ж, хоць і ў змененым выглядзе, дзейнічаюць і ў сатыравай драме і ў камедыі, куды, аднак, трапляюць ужо і звычайныя людзі, прадстаўнікі таго ж роду.

Сюжэтная аснова драматычнага дзеяння таксама звязаная з дыянісаўскай абрадавасцю. Шанавальнікі Дыёніса збіраліся ў культавых памяшканнях, у лясах і гарах, упіваліся віном і ўпадалі ў транс пад уздзеяннем утрапёных рытмаў і танцаў. Пры гэтым яны раздзіралі на часткі і з'ядалі мяса ахвярнага казла, тым самым далучаючыся да мукі, смерці і ўваскрасення боства. Паводле містычнага вучэння орфікаў, Дыёніс быў народжаны дачкою Дэмэтры Пэр-

сэфонаю і названы Загрэем (Вялікім лаўцом), а пасля разарваны на часткі тытанамі. Дыёніс, які лічыўся богам вінаробства, расліннасці, паміраючай і ўваскрасаючай прыроды, як бачым, і ў гэтым міфе звязваецца з культам Дэмэтры-Пэрсэфоны.

Англійскія даследчыкі драмы Мурэй і Корнфорд пераканаўча давялі, што ў аснове трагедыі ляжыць мука-пасыя раздзіранага на часткі бога, а камедыя грунтуецца на перыпетыі пераходу са смерці ў рэнавацыю. У семантычным плане поўная падзейная схема трагедыі складаецца з агона, патэмы ці ахвярнай смерці – спарагмаса (раздзірання) героя-бога, плачу, пазнавання з перыпетыяй і эпіфаніі – уваскрасення. У канкрэтных трагедыях некаторыя з гэтых частак могуць адсутнічаць.

Схема дзеяння камедыі ўключае агон, складанне ахвяры, прыгатаванне стравы і стрававanne-банкет, свяшчэнны шлюб і шэсцекомас. Ахвяраванне, варыва і яго спажыванне – гэта апатэоз боства, праз які яно атрымлівае ўваскрасенне. Камедыя далучаная, "прымацаваная" да трагедыі і семантызуе падземную, хтанічную фазу змагання бога са смерцю перад уваскрасеннем. Гэта фаза "перакуленага сусвету", дзе боства набывае якасці смерці.

Такім чынам, у грэцкім тэатры здзяйсняецца драма паміраючага і ўваскрасаючага боства, дзе яно выяўляецца ў розных сваіх стадыяльных іпастасях – салярна-касмічнай, звярынай і раслiннай. З гэтага нам стае больш зразумелаю салярная сімволіка тэатра. Татэм-сонца праз усходнюю браму-парод уваходзіць у тэатр разам з татэмамлюдам і абраным з яго хорам. Прарабляе свой шлях праз неба і сядае за заходняю брамаю, праз якую выходзяць хор і гледачы. Але сонца знаходзіцца і ўнізе, на зямлі, на круглым небасхіле архестры, дзе яно ў выглядзе хору "па сонцу" перамяшчаецца вакол алтара, пераліваючыся ў постаці Дыёніса, іншых багоў і герояў, паміраючы і ўваскрасаючы з імі ў сцэнічнай дзеі. Спажываючы Сонца-Дыёніса ў выглядзе мяса і крыві ягонай ахвярнай жывёлы (піццё тут замяняецца пакрапленнем) і ў выглядзе вінаградных ягадаў, хлебных злакаў і віна, гледачы праз гэты акт таксама паміраюць і нараджаюцца самі і адраджаюць у сабе бога. Як можа разгортвацца гэтая драма церпячага смерць і перамагаючага яе бога ў канкрэтным сюжэце, наглядна можа прадэманстраваць нам апошняя і найцікавейшая камедыя Арыстафана "Жабы". Прыгледзімся да яе больш уважліва.

Твор быў пастаўлены на Ленэі ў 405 г. пад імем Філёніда. П'еса нагэтулькі спадабалася гледачам, што пастаноўка была паўтораная (надзвычай рэдкі для таго часу выпадак). Атэны стаялі на мяжы палітычнага краху і напярэдадні вайсковай паразы. Велізарную страту панесла і атэнская культура: у 407/406 г. памёр Эўрыпід, а

следам за ім у 406 г. – Сафокл. Згасала старажытная дыянісійская трагедыя. Гэтыя падзеі і сталіся штуршком да з'яўлення "Жабаў". Водгук гэтых падзеяў чуваць у змесце камедыі, але яны не могуць праясніць яе ўнутраную сутнасць, структуру і асаблівасці сюжэта.

У "Жабах" дзейнічаюць сам Дыёніс (што нетыпова для старагрэцкай драмы), ягоны раб Ксантый, трагічныя паэты Эсхіл і Эўрыпід, бог падземнага валадарства смерці Плютон і два хоры: жабаў і містаў – пасвячоных у Элеўсінскія містэрыі. Выкарыстанне двух хораў сустракалася ў пастаноўках хутчэй як выключэнне. Паводле зместу п'еса дзеліцца на дзве часткі. У першай апавядаецца пра сыходжанне Дыёніса ў падземнае валадарства, у другой – пра спрэчку Эсхіла і Эўрыпіда і вяртанне Дыёніса з Эсхілам назад на зямлю.

Дыёніс, засмучаны тым, што пасля смерці трох знакамітых трагікаў у Атэнах не засталося ніводнага прыстойнага драматурга, вырашае спусціцца пад зямлю, каб вярнуць адтуль Эўрыпіда, якога ён лічыць найлепшым з трагічных паэтаў. Ведаючы, што раней туды выпраўляўся Гэракл, ён ідзе да яго і пытае пра дарогу і варункі падарожжа. Каб запалохаць, як калісьці Гэракл, жыхароў падзем'я, Дыёніс бярэ з сабой велізарную доўбню і апранае шкуру льва. Але як спешчаныя атэнскія маладзёны, ён адзявае пад гэтую шкуру шаты жоўта-аранжавага колеру і модныя боцікі. З ім вандруе ягоны раб Ксантый, які, седзячы на асле, вязе ягоную паклажу. Гэракл ледзь не памёр ад смеху, пабачыўшы Дыёніса ў такіх строях, але паведаміў усё неабходнае.

Вандроўнікі прыбываюць да возера, за якім ляжыць падземны свет. Перавознік Харон адмаўляецца пасадзіць у човен Ксантыя, бо рабоў не перавозіць, і прапаноўвае яму абегчы вакол возера. Дыёніс абураны тым, што цяпер яму давядзецца веславаць самому. Але Харон суцяшае яго, кажучы, што ў гэтай працы яму дапаможа хор жабаў. І сапраўды, іхні хор за сцэнаю пачынае сваю арыю з прыпевам "брэкекекекс коакс, коакс". Каб пазбавіцца ад надакучлівага крактання жабаў, Дыёніс спачатку паспрабаваў спыніць іх перадражніваннем, а затым перакрычаў іх і гэтым прымусіў змоўкнуць. Пераплыўшы на другі бок, Дыёніс кліча Ксантыя. Той, ужо абегшы вакол возера, прыбягае да гаспадара і пачынае пужаць яго рознымі пачварамі, нібыта сустрэтымі ў дарозе. Ксантый кажа, што і зараз бачыць перад сабою Эмпусу, жаночага дэмана. Труслівага Дыёніса ахоплівае жах. І ў гэты час хор містаў пачынае спяваць чатыры гімны элеўсінскай трыядзе багоў: Іякху (іпастась Дыёніса), Атэне, Дэмэтры і зноў Іякху. Дыёніс і Ксантый далучаюцца да хору. Пасля першых двух гімнаў адбываецца парабаза, у якой хор заклікае прафанаў, а таксама ўсіх,

хто шкодзіць Атэнам, пакінуць святое месца.

Дыёніс пытаецца ў хору, дзе дом Плютона, і ў адказ чуе, што ён – перад гэтым домам. Вандроўнікі стукаюцца ў дзверы. Брамнік Эак, глянуўшы на даўбню і львіную шкуру, прымае Дыёніса за Гэракла. Аблаяўшы яго за крадзяжу Кэрбера, вартаўнік знікае за дзвярыма, каб паклікаць агідных падземных пачвараў. Ад жаху Дыёніс мяняецца вопраткаю з Ксантыем, якога зусім не палохаюць словы Эака. Толькі неўзабаве яны зноў пераапранаюцца, бо Пэрсэфона праз сваю прыслужніцу кліча Гэракла-Дыёніса да сябе на банкет. Але тут з'яўляюцца дзве карчмаркі, якіх Гэракл некалі аб'еў і абпіў, нічога не заплаціўшы. Яны пагражаюць яму расправаю. Дыёніс зноў просіць раба памяняцца ролямі. Але Ксантый адмаўляецца і толькі пасля клятвы Дыёніса больш не мяняцца адзеннем пагаджаецца стаць Дыёнісам.

Якраз у гэты момант брамнік вяртаецца з пякельнымі пачварамі і загадвае ім звязаць злодзея. Ксантый абараняецца як можа, а Дыёніс кпіць з ягонай прыгоды. Тады Ксантый прысягае, што ніколі сюды не прыходзіў і нічога не краў. На доказ сваіх словаў ён прапаноўвае ўзяць пад катаванні свайго раба (г.зн. Дыёніса). Дыёніс заяўляе, што ён – бог, а раб – Ксантый. Эак вырашае катаваць абодвух: хто першы заплача – той не бог. Але і Ксантый і Дыёніс вытрымліваюць удары Эака, і тады іх вядуць да Плютона і Пэрсэфоны. Тыя – самі багі і павінны зразумець, хто тут ашуканец.

З наступнай гутаркі Эака і Ксантыя высвятляецца, што Эўрыпід, патрапіўшы ў валадарства смерці, сабраў вакол сябе лайдакоў і зладзеяў ды заявіў прэтэнзію на пачэснае месца побач з Плютонам, якое раней было аддадзена Эсхілу. Плютон узрадаваўся Дыёнісу і адразу прызначыў яго суддзёй у спрэчцы трагікаў. Пачынаецца галоўная і кульмінацыйная частка камедыі – агон Эсхіла і Эўрыпіда. У спрэчцы абодва паэты па чарзе высмейваюць і крытыкуюць слабыя, як ім здаецца, бакі твораў суперніка. Эўрыпід звінавачвае Эсхіла ў наўмысным зацягванні трагедыяў, у доўгім маўчанні на сцэне герояў, у выкарыстанні незразумелых, дзіўных словаў, у недакладнасці і няпэўнасці мовы. Звінавачванні з боку Эсхіла скіраваныя перш за ўсё на змест п'есаў Эўрыпіда, якія, на думку Эсхіла, вядуць да разбурэння маралі. Крытыкуецца і недакладнасць аўтарскай задумы: у некаторых эўрыпідаўскіх трагедыях, напрыклад, паддаецца сумневу тэза пра тое, што Эдып быў спачатку шчаслівым чалавекам. Эсхіл знаходзіць у творах Эўрыпіда таксама шмат прасадычных і метрычных заганаў, музычна-вакальныя агрэхі.

У агоне ўдзельнічае і Дыёніс. Спачатку ён падтрымлівае Эўрыпіда, але паступова далучаецца да ягонага антаганіста і ўрэшце цал-

кам стае на бок Эсхіла. У спрэчку ўплятаюцца таксама партыі хору, які каменціруе і ацэньвае ход барацьбы. На заканчэнне слоўнага змагання Эсхіл прапаноўвае ўзважыць свае і Эўрыпідавы вершы на вагах. Шаля з легкаважнымі вершамі Эўрыпіда ўзлятае ўверх, а шаля з важкімі словамі Эсхіла апускаецца долу. Дыёніс прысуджае перамогу Эсхілу, хоць і даў напачатку клятву Эўрыпіду вярнуць таго на зямлю. На дакоры Эўрыпіда Дыёніс кідае яму ў твар словы з яго ж трагедыі "Гіпаліт": "Язык пакляўся, не звязаны клятвай розум!".

У эксодзе хор услаўляе чалавечы розум і асуджае глупства, а Плютон заклікае Эсхіла ахоўваць Атэны добрымі парадамі ды перавыхоўваць людзей неразумных, якіх там яшчэ шмат. Эсхіл просіць Плютона перадаць ганаровы пасад на час ягонай адсутнасці Сафоклу, якога лічыць другім пасля сябе ў трагічным мастацтве. Карыфей жадае шчаслівага шляху паэту, дабра, шчасця і міру Атэнам.

Сюжэт камедыі "Жабы", нягледзячы на сваю вонкавую прастату, ставіць перад намі шмат пытанняў. Напрыклад, чаму твор названы па імені хору, які выступае ў ім толькі адзін раз напачатку, а затым саступае месца асноўнаму хору містаў? І чаму назва менавіта – "Жабы"? Чаму Дыёніс, гэтак шанаваны атэнцамі бог, ад якога залежыць плоднасць зямлі, жывёлаў і людзей, з якім звязваюць узнікненне тэатра, ахвярнік і статую якога бачаць перад сабою на архестры гледачы, якому складаюцца ахвяры, паказаны ў гэткім абразлівым, карыкатурным выглядзе блазна, баязліўца, аматара пад'есці і выпіць ды яшчэ і блудадзея? І навошта гэтае дзіўнае падарожжа на той свет пад выглядам Гэракла, з рабом і аслом, калі мэта камедыі – давесці неабходнасць вяртання да традыцыяў Эсхіла ў атэнскай драме? Нельга адказаць на гэтыя ды іншыя пытанні, якія ставіць нам незвычайная п'еса, калі не паспрабаваць паглыбіцца ў яе семантыку. Таму, не ўдаючыся ў аналіз мастацкіх вартасцяў камедыі і іншых твораў Арыстафана, пра што і так напісана даволі шмат[7], паспрабуем сягнуць да сэнсавага каркаса "Жабаў".

Як было ўжо сказана, у камедыі разыгрываецца другая фаза праходжання праз смерць салярна-вегетатыўнага боства, калі яно ўступае ў барацьбу-агон са смерцю, перамагае яе і зноў нараджаецца да жыцця. Смех, усмешка, без якіх няма камедыі, асэнсоўваюцца архаічнай свядомасцю як новае ззянне сонца, як сонечнае нараджэнне. Таму функцыя смеху – выбаўляць ад смерці і вяртаць да жыцця. Калі сонца-татэм у земляробчую эпоху пераліваецца ў постаць паміраючага і ўваскрасаючага бога зямной плоднасці, семантыка смеху ўзбагачаецца фалічным, аргіястычным элементам. Смехам суправаджаецца паказ спа-

ступае ахоўніцаю водаў, у тым ліку і падземных. Дваістая, водна-зямная прырода жабы дала падставу ўспрымаць яе як сімвал перамогі над смерцю, уваскрасення, паўторнага нараджэння[12]. Перамяшчэнне яе ў двух светах з зямлі ў ваду і назад асэнсоўваецца як шлях з жыцця у смерць і зноў да жыцця, як дубліраванне спрадвечнага цыкла сусвету, прыроды і чалавека. Але гэткім шляхам ідзе і Дыёніс. Таму невыпадкова, што ў камедыі Арыстафана пераходу бога на той свет дапамагае хор жабаў, у які ўплятае свой голас і ён, а ў канцы цалкам атаясамліваецца з імі, паўтараючы іхняе крактанне. Ведаючы пра першапачатковае адзінства хору і дзеючага з ім актора, можна дайсці да высновы, што пад абліччам хору жабаў тоіцца адзіна-множны бог плоднасці Дыёніс.

Гэтая выснова робіць больш зразумелай назву п'есы. Але якое дачыненне маюць жабы да галоўнага хору – містаў? Такое пытанне змушае нас вярнуцца яшчэ раз да Элеўсінскіх містэрыяў. Галоўны іх сэнс – перажыванне ўдзельнікамі таінства цярпенняў, памірання, праходжання праз смерць, перамогі над ёю і ўваскрасення бога. Разам з ім пасвячоныя – місты праходзяць усе гэтыя фазы. Яны, паўторна народжаныя ў таінствах, ведаюць шлях жыцця і смерці. Таму яны сустракаюць Дыёніса ў падземным свеце і паказваюць яму ўваход да валадара смерці Плютона, яны ж удзельнічаюць у змаганні між абодвума трагікамі за жыццё і перамагаюць разам з Эсхілам. Хор вітае Дыёніса пад містэрыяльным імем Іякха, пачынаючы і завяршаючы сваю партыю абрадавым гімнам да яго. У канцы гэтага спеву Дыёніс далучаецца да хору, яднаецца з ім. Як бачым, семантыка абодвух хораў – жабаў і містаў супадае. Іх унутраная тоеснасць выяўляецца і ў тым, што абедзве ролі выконваюцца адзіным спеўным калектывам. Паводле схоліяў да камедыі, хор жабаў, пераапрануўшыся, выходзіць ізноў на архестру ўжо ў постаці містаў. Жабы ўводзяць бога ў валадарства смерці, а місты вядуць яго праз смерць да ўваскрасення. Але ў Дыёніса ёсць і яшчэ адзін праваднік на той свет – Гэракл, які спускаўся туды сам, каб звязаць і перамагчы ўвасабленне смерці – пякельнага сабаку Кэрбера. Герой мог дапамагчы Дыёнісу ў гэтым падарожжы яшчэ і таму, што адным з першых быў пасвячоны ў Элеўсінскія містэрыі. У камедыі згадваецца і заснавальнік таінстваў Арфей, якога лічаць таксама і бацькам драмы. Арфей, як і Гэракл, спускаўся ў валадарства смерці, а памёр як Дыёніс, разарваны на кавалкі вакханкамі.

У камедыі "Жабы" яскрава выяўляецца містэрыяльная аснова драмы, якая ўзыходзіць да часоў стваральніка дытырамба ў гонар Дыёніса – міфічнага паэта Арфея, які магчыма быў першым жэрцам Элеўсінскіх містэрыяў і першым карыфеем хору ў свяшчэннай драме. Падобныя функцыі, відаць,

выконваў і Эсхіл, які быў пасвячоны ў містэрыі, а ў трагедыях сам выступаў у якасці актора. З прыходам у драматургію Эўрыпіда, сакральная сутнасць драмы, верагодна, пачала страчвацца. І, магчыма, у гэтым галоўная прычына таго, што Арыстафан аддае перавагу Эсхілу. У агоне-спрэчцы абодвух паэтаў разам з Эсхілам на баку жыцця апынаецца хор містаў і Дыёніс. Цяпер зразумела, што і хор містаў, і Дыёніс, і міст Эсхіл – гэта адна постаць паміраючага і перамагаючага смерць бога. Больш таго гэтая постаць лучыць у сабе ўсіх персанажаў драмы, выракаючы адных на смерць, а іншых разам з сабою – на перамогу і жыццё. Смерць дублюецца ў камедыі метафарамі рабства і блазнавання, перамога над ёю – актамі смеху і інвектывы, шэсця, яды і піцця, палавога яднання.

Змаганне-агон перасягае рамкі асобнай драмы. Яно разгортваецца ў містэрыяльную дзею, якая ахоплівае ўсю публіку, увесь атэнскі дэмас, сабраны ў тэатры Дыёніса. Яно набывае касмічны сэнс. Сусвет, увесь поліс, род і ягоны асобны прадстаўнік харэўтактор іграюць разам у гэтай свяшчэннай драме, змагаючы смерць і вырываючы з яе рук перамогу. У драматычных відовішчах на святах Дыёніса грамадзяне Атэнаў ачышчаюцца ад заганаў – знакаў смерці і разам з богам нараджаюцца да новага жыцця. Менавіта ў гэтым варта шукаць сутнасць арыстотэлеўскага катарсіса, да якога павінна была весці гледачоў сапраўдная драма. “Жабы “ Арыстафана і паводле мастацкіх вартасцяў, і паводле сваёй семантычнай глыбіні, безумоўна, належалі да такіх твораў.

**Алесь ЖЛУТКА**

---

[1] Радциг С.И. История древнегреческой литературы. М., 1969. С. 305.

[2] Lawińska-Tyszkowa J. Przedmowa // Arystofanes. Komedie. Wroclaw, 1991. S. 15.

[3] Гл.: История греческой литературы. Т. 1. М., 1946. С. 291–295, 306.

[4] Гл.: Франк-Каменецкий И. Первобытное мышление в свете яфетической теории и философии// Язык и литература. Т. 3. 1929. С. 70–155.

[5] Штернберг Л.Я. Первобытная религия в свете этнографии. Л., 1936. С. 196–203.

[6] Лосев А.Ф., Сонкина Г.А., Тимофеева Н.А. и др. Греческая трагедия. С. 17–19; Тронский И.М. История античной литературы. М., 1983. С. 110–111.

[7] Гл. напр., грунтоўнае даследаванне на гэтую тэму: Соболевский С.И. Аристофан и его время. М., 1957.

[8] Фрейденберг О. Поэтика сюжета и жанра. Л., 1936. С. 101–102.

[9] Фрэзер Дж. Дж. Золотая ветвь. С. 648–652.

[10] Фрейденберг О. Поэтика... С. 91–92.

[11] Тамсама. С. 233 – 234.

[12] Lurker M. Slownik obrazów i symboli biblijnych. Poznań, 1989. S. 284–285; Мифы народов мира. Т. 2. М., 1992. С. 84–85.

ступае ахоўніцаю водаў, у тым ліку і падземных. Дваістая, водна-зямная прырода жабы дала падставу ўспрымаць яе як сімвал перамогі над смерцю, уваскрасення, паўторнага нараджэння[12]. Перамяшчэнне яе ў двух светах з зямлі ў ваду і назад асэнсоўваецца як шлях з жыцця у смерць і зноў да жыцця, як дубліраванне спрадвечнага цыкла сусвету, прыроды і чалавека. Але гэткім шляхам ідзе і Дыёніс. Таму невыпадкова, што ў камедыі Арыстафана пераходу бога на той свет дапамагае хор жабаў, у які ўплятае свой голас і ён, а ў канцы цалкам атаясамліваецца з імі, паўтараючы іхняе крактанне. Ведаючы пра першапачатковае адзінства хору і дзеючага з ім актора, можна дайсці да высновы, што пад абліччам хору жабаў тоіцца адзіна-множны бог плоднасці Дыёніс.

Гэтая выснова робіць больш зразумелай назву п'есы. Але якое дачыненне маюць жабы да галоўнага хору – містаў? Такое пытанне змушае нас вярнуцца яшчэ раз да Элеўсінскіх містэрыяў. Галоўны іх сэнс – перажыванне ўдзельнікамі таінства цярпенняў, паміранне, праходжання праз смерць, перамогі над ёю і ўваскрасення бога. Разам з ім пасвячоныя – місты праходзяць усе гэтыя фазы. Яны, паўторна народжаныя ў таінствах, ведаюць шлях жыцця і смерці. Таму яны сустракаюць Дыёніса ў падземным свеце і паказваюць яму ўваход да валадара смерці Плютона, яны ж удзельнічаюць у змаганні між абодвума трагікамі за жыццё і перамагаюць разам з Эсхілам. Хор вітае Дыёніса пад містэрыяльным імем Іякха, пачынаючы і завяршаючы сваю партыю абрадавым гімнам да яго. У канцы гэтага спеву Дыёніс далучаецца да хору, яднаецца з ім. Як бачым, семантыка абодвух хораў – жабаў і містаў супадае. Іх унутраная тоеснасць выяўляецца і ў тым, што абедзве ролі выконваюцца адзіным спеўным калектывам. Паводле схоліяў да камедыі, хор жабаў, пераапрануўшыся, выходзіць ізноў на архестру ўжо ў постаці містаў. Жабы ўводзяць бога ў валадарства смерці, а місты вядуць яго праз смерць да ўваскрасення. Але ў Дыёніса ёсць і яшчэ адзін праваднік на той свет – Гэракл, які спускаўся туды сам, каб звязаць і перамагчы ўвасабленне смерці – пякельнага сабаку Кэрбера. Герой мог дапамагчы Дыёнісу ў гэтым падарожжы яшчэ і таму, што адным з першых быў пасвячоны ў Элеўсінскія містэрыі. У камедыі згадваецца і заснавальнік таінстваў Арфей, якога лічаць таксама і бацькам драмы. Арфей, як і Гэракл, спускаўся ў валадарства смерці, а памёр як Дыёніс, разарваны на кавалкі вакханкамі.

У камедыі "Жабы" яскрава выяўляецца містэрыяльная аснова драмы, якая ўзыходзіць да часоў стваральніка дытырамба ў гонар Дыёніса – міфічнага паэта Арфея, які магчыма быў першым жэрцам Элеўсінскіх містэрыяў і першым карыфеем хору ў свяшчэннай драме. Падобныя функцыі, відаць,

выконваў і Эсхіл, які быў пасвячоны ў містэрыі, а ў трагедыях сам выступаў у якасці актора. З прыходам у драматургію Эўрыпіда, сакральная сутнасць драмы, верагодна, пачала страчвацца. І, магчыма, у гэтым галоўная прычына таго, што Арыстафан аддае перавагу Эсхілу. У агоне-спрэчцы абодвух паэтаў разам з Эсхілам на баку жыцця апынаецца хор містаў і Дыёніс. Цяпер зразумела, што і хор містаў, і Дыёніс, і міст Эсхіл – гэта адна постаць паміраючага і перамагаючага смерць бога. Больш таго гэтая постаць лучыць у сабе ўсіх персанажаў драмы, выракаючы адных на смерць, а іншых разам з сабою – на перамогу і жыццё. Смерць дублюецца ў камедыі метафарамі рабства і блазнавання, перамога над ёю – актамі смеху і інвектывы, шэсця, яды і піцця, палавога яднання.

Змаганне-агон перасягае рамкі асобнай драмы. Яно разгортваецца ў містэрыяльную дзею, якая ахоплівае ўсю публіку, увесь атэнскі дэмас, сабраны ў тэатры Дыёніса. Яно набывае касмічны сэнс. Сусвет, увесь поліс, род і ягоны асобны прадстаўнік харэўтактор іграюць разам у гэтай свяшчэннай драме, змагаючы смерць і вырываючы з яе рук перамогу. У драматычных відовішчах на святах Дыёніса грамадзяне Атэнаў ачышчаюцца ад заганаў – знакаў смерці і разам з богам нараджаюцца да новага жыцця. Менавіта ў гэтым варта шукаць сутнасць арыстотэлеўскага катарсіса, да якога павінна была весці гледачоў сапраўдная драма. "Жабы" Арыстафана і паводле мастацкіх вартасцяў, і паводле сваёй семантычнай глыбіні, безумоўна, належалі да такіх твораў.

**Алесь ЖЛУТКА**

---

[1] Радциг С.И. История древнегреческой литературы. М., 1969. С. 305.

[2] Lawińska-Tyszkowa J. Przedmowa // Arystofanes. Komedie. Wroclaw, 1991. S. 15.

[3] Гл.: История греческой литературы. Т. 1. М., 1946. С. 291–295, 306.

[4] Гл.: Франк-Каменецкий И. Первобытное мышление в свете яфетической теории и философии// Язык и литература. Т. 3. 1929. С. 70–155.

[5] Штернберг Л.Я. Первобытная религия в свете этнографии. Л., 1936. С. 196–203.

[6] Лосев А.Ф., Сонкина Г.А., Тимофеева Н.А. и др. Греческая трагедия. С. 17–19; Тронский И.М. История античной литературы. М., 1983. С. 110–111.

[7] Гл. напр., грунтоўнае даследаванне на гэтую тэму: Соболевский С.И. Аристофан и его время. М., 1957.

[8] Фрейденберг О. Поэтика сюжета и жанра. Л., 1936. С. 101–102.

[9] Фрэзер Дж. Дж. Золотая ветвь. С. 648–652.

[10] Фрейденберг О. Поэтика... С. 91–92.

[11] Тамсама. С. 233 – 234.

[12] Lurker M. Slownik óbrazów i symboli biblijnych. Poznań, 1989. S. 284–285; Мифы народов мира. Т. 2. М., 1992. С. 84–85.

Стасім

Першая палова хору

Страфа

Гэта – вялікая справа: спрэчка ідзе,
жудасная надыходзіць вайна.
Цяжка ў ёй нам разабрацца –
Як пачынае адзін наступаць,
Тут жа другі адбіваецца і – ухіляецца.
Толькі на месцы не стойце!
Бо ёсць нагодаў нямала, каб біцца,
і спосабаў
Весці вайну – і таму гаварыце,
Спрэчкі вядзіце, пытайцеся
І пра старое мастацтва, й пра новае
І рызыкуйце выказвацца мудра
і з досціпам...

Другая палова хору

Антыстрафа

А калі вы баіцёся, што гледачы штосьці
не цямяць
І разабрацца ў нюансах
Гэтай размовы не змогуць,
Вашы трывогі дарэмныя! Час на двары
сёння іншы,
Люд сёння адукаваны:
Кожны заглядвае ў кніжку, вучыцца
дбайна, рупліва!
Мае свой розум прыродны,
Робіцца йшчэ больш дасціпны.
Значыць, баяцца не трэба –
Кожны сюжэт разбірайце, бо гледачы
ў нас разумныя.

ЖАБЫ

*КАМЕДЫЯ (урывак)*

## Ямбічная сцэна

Эўрыпід *(да Эсхіла)*
Найперш хачу звярнуцца да тваіх пралогаў,
Каб частку першую трагедый тых даследаваць,
Ці там такое ўжо высокае майстэрства:
Бо ход падзеяў невыразна ў іх паказаны.

Дыёніс
І што ж даследаваць ты будзеш?

Эўрыпід
Вельмі шмат чаго.
*(Да Эсхіла)*

З пралога "Арэстэі" прачытай спачатку мне.

Дыёніс
Ну, сціхніце, усе прысутныя! Чытай, Эсхіле.

Эсхіл
"Гермес падземны, бацькавую ўзяў ты ўладу,
Маім будзь збаўцам і хаўруснікам, прашу цябе.
Да роднае зямлі я прыбываю, я вяртаюся..."

Дыёніс *(да Эўрыпіда)*
Ну, дзе ты бачыш хібы?

Эўрыпід
Больш за тузін іх!

Дыёніс
Былі ж тут толькі тры радкі кароткія...

Эўрыпід
А ў кожным – больш за дваццаць хібаў ды памылак.

Д ы ё н і с

Эсхіле, памаўчы, пасцеражыся! Бо ён знойдзе
У тых трох ямбах нават болей недахопаў...

Э с х і л

Каб перад ім маўчаў я?

Д ы ё н і с

Лепей слухайся мяне.

Э ў р ы п і д

Вялізная памылка ў першым вершы... аж да неба!

Э с х і л

І што вярзеш ты! А?

Э ў р ы п і д

Ды тое, што мне ўсё адно...

Э с х і л

Дзе ж бачыш ты памылку?

Э ў р ы п і д

Прачытай спачатку верш.

Э с х і л

"Гермес падземны, бацькавую ўзяў ты ўладу..."

Э ў р ы п і д

Арэст гаворыць гэта над магілаю
Бацькоўскаю?

Э с х і л

Ну, не скажу нічога супраць...

Э ў р ы п і д
Чаму ж тады, калі яго загінуў бацька
Праз жонку праз сваю, яе падступнасць,
Гермес уладай завалодаў бацькавай?

Э с х і л
Не так! Да дабрадзея ён звяртаецца,
Падземнага Гермеса, і сцвярджае там,
Што той ад бацькі ўладу атрымаў сваю.

Э ў р ы п і д
Ты горш, чым меркаваў я, памыляешся.
Як ён уладу пад зямлёй ад бацькі ма́е...

Д ы ё н і с
Тады ён выглядае нібы рабаўнік магіл.

Э с х і л
Віно тваё, о Дыяніс, зусім без водару.

Д ы ё н і с *(да Эсхіла)*
Чытай далей.

*(Да Эўрыпіда)*

А ты шукай яшчэ памылак.

Э с х і л
"...Маім будзь збаўцам і хаўруснікам, прашу цябе.
Да роднае зямлі я прыбываю, я вяртаюся..."

Э ў р ы п і д
Паўтор тут ёсць у мудрага Эсхіла.

Д ы ё н і с
А дзе?

Э ў р ы п і д

Вось паглядзі, я пакажу табе:
Ён "прыбываю" кажа і – "вяртаюся".
Ды "прыбываць" – адно і тое, што "вяртацца".

Д ы ё н і с

Ага, Дзеўс – сведка! Гэта – як сказаць суседу:
"Пазыч начоўкі, ці карыта, калі хочаш".

Э с х і л

Няпраўда, пустабрэх, яно не ўсё адно.
Мой верш – узорны, дасканалы, найвыдатнейшы.

Э ў р ы п і д

Чаму ты лічыш так? Мне, калі ласка, растлумач.

Э с х і л

Ды "прыбывае" на радзіму той, хто яе мае!
Ён прыязджае, ад'язджае, калі хоча і як хоча!
А вось выгнанец – "прыбывае" і "вяртаецца".

Д ы ё н і с

Ага, клянуся Апалонам! Што тут скажаш, Эўрыпідзе?

Э ў р ы п і д

Скажу: Арэст дадому не "вяртаецца",
Бо патаемна прыбыў, без дазволу ўлад.

Д ы ё н і с

Гермес засведчыць гэта, хоць не ўцяміў я...

Э ў р ы п і д *(да Эсхіла)*

Чытай наступны верш.

Д ы ё н і с

Ды ўжо заканчвай хутка,
Эсхіле.

*(Да Эўрыпіда)*

Ты ж – памылкі новыя вышуквай.

Э с х і л
“Каля магілы, бацька, я малю цябе:
Паслухай і пачуй!..”

Э ў р ы п і д
I зноўку тут – паўтор!
“Паслухай” ды “пачуй” – гэта ж тое самае.

Э с х і л
Ну і праныра ты! Да мёртвых ён звяртаецца,
А іх гукай хоць тройчы – не даклічашся.
А ты? Як пішаш ты пралогі?

Э ў р ы п і д
Раскажу я ўсё.
Калі я паўтаруся недзе ці “зраблю затычку”
У вершы – можаш апляваць мяне ўсяго...

Д ы ё н і с
Дык пачынай ужо! А я паслухаю,
Ці слушна збудаваныя твае пралогі.

Э ў р ы п і д
“Эдып спачатку быў шчаслівым чалавекам...”

Д ы ё н і с
Не, сведка – Дзеўс: ён ад прыроды быў няшчасны:
яшчэ не нарадзіўся ён, а Апалон
Яму наканаваў, што бацьку ён заб’е свайго.
I як ён мог “спачатку быць шчаслівым”?

Э ў р ы п і д
“...А потым стаў ён найняшчаснейшым смяротным...”

Эсхіл
Клянуся Дзеўсам, ён такім заўсёды быў!
Чаму! Ды як узімку нарадзіўся ён,
Яго на сцюжы ў чарапку пакінулі,
Каб ён не стаў, як падрасце, бацьказабойцам.
Дапоўз, хоць ногі пухлі, да Паліба ён;
Юнак, а ўзяў за жонку ён старэйшую,
А да таго ж, яна была ягонай маці!
І ўрэшце асляпіў сябе...

Дыёніс
На шчасце, ён
З Эрасінідам, як стратэг, не меў кампаніі...

Эўрыпід
Лухта! Пралогі я ствараю добрыя.

Эсхіл
Клянуся Дзеўсам, з іх не буду я выскубваць
Па слоўцу. Дапамогуць мне багі –
І я адным паб'ю твае пралогі слоікам.

Эўрыпід
Што, адным слоікам паб'еш?

Эсхіл
Аднюткім слоікам.
Ты пішаш так, што між тваімі ямбамі
І торбу ўсунеш лёгка, й шкурку цэлую
І слоік нават. Зараз пакажу табе.

Эўрыпід
Пакажаш? Ты?

Эсхіл
Вядома ж.

Д ы ё н і с *(да Эўрыпіда)*
Пачынай чытаць.

Э ў р ы п і д
“Эгіпт, як пагалоска пашыраецца,
З пяццю дзесяткамі сыноў на караблі
Прыбыўшы ў Аргас...”

Э с х і л
...Слоік там згубіў.

Д ы ё н і с
Што там за слоік? А бадай бы трэснуў ён.

*(да Эўрыпіда)*

Нам іншы прачытай пралог – мы паглядзім...

Э ў р ы п і д
“Плюшчом спавіты і руном аленевым,
Дыёніс – бог паміж агнёў паходняў
З Парнаса зводзіў хор і...”

Э с х і л
...Слоік там згубіў.

Д ы ё н і с
Ну вось, пабілі зноў нас гэтым слоікам!..

Э ў р ы п і д
А, нічога. Бо ўжо ў гэты мой пралог
Не ўставіць слоік болей аніякі ён:
“Не можа кожны чалавек шчаслівым быць;
Адзін, высокі родам, церпіць ад нястачаў,
А той, бязродны...”

Э с х і л

...Слоік там згубіў.

Д ы ё н і с

Ой, Эўрыпідзе!

Э ў р ы п і д

Што такое?

Д ы ё н і с

Згортвай ветразі –

Іначай гэты слоік ліха нам нальe!

Э ў р ы п і д

Дэметра – сведка, нават не падумаю!

Пабачыш, як я зараз выб'ю з рук яго...

Д ы ё н і с

Давай яшчэ раз. Толькі сцеражыся слоіка.

Э ў р ы п і д

"Сын Агенора, Кадм, аднойчы пакідаючы

Сідон, славуты горад..."

Э с х і л

...Слоік там згубіў.

Д ы ё н і с

Ах, небарака! Можа, гэты слоік выкупі,

Інакш усе пралогі ён раструшчыць.

Э ў р ы п і д

Што?

Мне гэты слоік выкупляць?

Д ы ё н і с
Калі мне давяраеш.

Э ў р ы п і д
Не, я пралогаў маю вельмі шмат яшчэ,
Куды ён слоіка свайго не ўцісне:
"Пэлопс, Танталаў сын, у Пісу ехаўшы,
На конях порсткіх..."

Э с х і л
...Слоік там згубіў.

Д ы ё н і с
Вось бачыш, зноў ён гэты слоік прычапіў.
Купляй яго, мой даражэнькі, за любыя грошы.
За нейкі там абол яго ты мецьмеш, зграбненькі.

Э ў р ы п і д
Не, сведка – Дзеўс, яшчэ ў мяне пралогаў шмат.
"Эней сабраў з палеткаў..."

Э с х і л
...Слоік там згубіў.

Э ў р ы п і д
Дазволь мне хоць бы дачытаць верш да канца:
"Эней сабраў з палеткаў ураджай агромністы
І склаў багам ахвяру..."

Э с х і л
...Слоік там згубіў.

Д ы ё н і с
Падчас абраду? Ну, і хто ж узяў яго?

 



Э ў р ы п і д *(да Дыяніса)*
Пакінь, шаноўны! Хай адкажа штось на гэта:
"О Дзеўс! Як кажа ісціна сапраўдная..."

Д ы ё н і с
Не дабівай! Ён скажа: "Слоік там згубіў".
Бо слоік гэта на твае пралогі ўжо
Усеўся, не раўнуючы ячмень на тое вока.
Дзеля багоў прашу, вазьміся за яго хары́.

Э ў р ы п і д
Я давяду вам, што нікчэмны ён паэт:
Ягоныя хары́ ўсе – на адзін капыл.

П е р ш а я п а л о в а х о р у
Што ж гэта цяпер адбудзецца?
Трэба добра нам падумаць,
Як зрабіць ён можа закід
Чалавеку, што вядомы
Тым, што гэтак шмат прыгожых
Песняў харавых стварыў.
Дзіўна, як такога майстра
Слыннага хароў бакхічных
Можна дакараць за нешта!
За яго мы не баімся.

Э ў р ы п і д
Выдатныя, напраўду, песні! Ды вы ўбачыце,
Як я ўсе песні да адной звяду.

Д ы ё н і с
А я лічыць вазьмуся на каменьчыках.

Э ў р ы п і д *(спявае пад гукі флейты)*
"Ахіл Фтыёцкі! Чуеш бітву чалавеказгубную?

 

Ой, ліха! Што ж не йдзеш ты з дапамогаю?
Гермеса-продка мы шануем, люд з-над возера,
Ой, ліха! Што ж не йдзеш ты з дапамогаю?"

Д ы ё н і с
Два ліха ўжо, Эсхіле, у цябе.

Э ў р ы п і д
"З ахейцаў найслыннейшы, сын Атрэеў, цар магутны,
мне скажы.
Ой, ліха! Што ж не йдзеш ты з дапамогаю?"

Д ы ё н і с
Вось ліха трэцяе ў цябе, Эсхіле.

Э ў р ы п і д
"Суцішцеся. Пчолы свяшчэнныя ў храм Артэміды
уводзяць;
Ой, ліха! Што ж не йдзеш ты з дапамогаю?
Уладу я ма́ю прадказваць дарогу героям шчаслівую.
Ой, ліха! Што ж не йдзеш ты з дапамогаю?"

Д ы ё н і с
О Дзеўс-уладца, як жа многа гэтых ліхаў.
Ці не схадзіць у лазню ды папарыцца,
Бо мне ад ліхаў гэтых забалелі ныркі ўжо!

Э ў р ы п і д
Пастой. Перш як другі слупок паслухаеш,
Ты не сыходзь. Напісаны ён пад кіфару адмыслова.

Д ы ё н і с
Ну, добра. Можаш заспяваць, але без "ліхаў" тых.

Э ў р ы п і д
Толькі двухтронная ўлада ахейцаў, ад моладзі грэцкай,

Тафлататрат-тафлататрат!
Сфінкса наслала, прадвесніка дзён нешчаслівых,
Тафлататрат-тафлататрат!
З дзідай у хіжай руцэ гэты помслівы птах...
Тафлататрат-тафлататрат...
Бітвы з сабакамі лютымі прагне, што носяцца ў небе...
Тафлататрат-тафлататрат!
Каля Аякса схіліся...
Тафлататрат-тафлататрат!

Д ы ё н і с
Што тут за "флататрат"? Ці ён не з Маратона?
Ці ўзяў за ўзор ты спеў калодзежнае ліны?

Э с х і л
Я для прыгожых мэт прыгожыя браў словы,
Ніхто не бачыў, каб я разам з Фрыніхам.
Святыя кветкі рваў я на палянах Музаў.
А ён, як тая дзеўка, нацягаў сюды
Мялетавых застольных песняў з Ка́рыі,
З жалобных песняў, з карагодных. Гляньце ўсе!
Пада́йце ліру! Зрэшты, а навошта ліра тут,
Да песняў гэткіх? Хопіць і бразготак
Ды бубна нейкага. О, муза Эўрыпідава,
Твой спеў спяваецца пад гукі гэткія.

*(Уваходзіць голая танцоўшчыца з бубнам.)*

Д ы ё н і с
Не, Муза гэтая – зусім не лесбіянка...

Э с х і л *(спявае пад гукі бубна)*
Ваш, зімародкі, над хвалямі мора жывога
Спеў увесь час лунае,
Кроплямі крылы ды цела

Абдаяце вы празрыстымі!
І павукі ў куточках паддашша
Скру-у-у-учваю-у-ць сваё павуцінне,
Тыя цягучыя ніткі;
Звіваюць на чоўніку тканку;
Музыкі флейтаў аматар, дэльфін
Цёмнаю дзюбай сваёй караблям варажыў
Дальняе падарожжа.
Квет вінаграду цудоўны,
Што ад журботы вылечвае;
Ты абдымі мяне, о дзіця!

*(Да Дыёніса)*

Што за памер, ты ўцяміў?

Д ы ё н і с

Ага.

Э с х і л

Ну, а другі, гэты вось.

Д ы ё н і с

Ага.

Э с х і л *(да Эўрыпіда)*

Гэткія пішучы рэчы,
Ты мае песні йшчэ ганіш?
Творы твае нагадваюць
Тузін тых позаў Кірэны!
Гэткія ўсе твае песні! А зараз
Мы паглядзім яшчэ й на твае манодыі...

*(Спявае.)*

“О, начы непраглядны змрок,
Што за сон страшэнны, твой пасланец,
Прыбыў з чорных глыбінь Аіда –
Той бяздушны дух
Прывід, здань жахлівая,
Сын цёмнай ночы ў жахлівай вопратцы,
Чорнай, жалобнай. Крывёю, крывёю бліскае
Што гэта – з-пад кіпцюроў велічэзных?
Ну, запаліце, служанкі, свяцільнікі,
З рэчкі нясіце ваду, на агні яе разагрэйце –
Хай бы змыла свой сон прарочы!
Ах, бог акіянаў,
Яно вось! О, жыхары
Дома гэтага: цуд, глядзіце!
Пеўніка ўкрала ў мяне і тут жа
Знікла Глю́кэ.
Німфы, гор ураджэнкі,
Ах, Ма́нія, трымай яе!
А я, небарака,
Занятая ўсё рукадзеллем,
Кручу сваё верацяно,
Звіва-а-ючы нітку
Ў маток, каб уранні
Прадаць на рынку яго
У горадзе нашым.
А ён паляцеў, паляцеў удалеч,
Крыламі лёгка ўзмахнуўшы,
Сум, толькі сум мне пакінуўшы;
Слёзы ўсё, слёзы з маіх вачэй
Тут паліліся цуркам, цуркам.
О вы, крыцяне, Ідзіны дзеці,
Лукі бярыце, на помач спяшайцеся,
Разам збірайцеся, дом яе атачыце.
Тут жа Дыктына юная, пекная Артэміда,
Дом абшукай увесь з ганчакамі сваімі.

Ты ж, дзіця Зеўсава, угору
Падымі дзве свае паходні
Геката, дым разгані. Да Глюкэ
Я ўвайду і схаплю злачынку...”

Д ы ё н і с
Свае ўжо сканчвай спевы.

Э с х і л
Надакучыла.
Яшчэ хачу на шалі запрасіць яго.
Адно на іх майстэрства спраўдзіць можна
І нашых слоў вагу дакладна вызначыць.

Д ы ё н і с
Ну, падыходзьце. Давядзецца і паэзію
Узважваць, як на рынку важаць сыр.

*(Прыносяць вялікія вагі.)*

Д р у г а я п а л о в а х о р у
Спрытныя, напраўду, людзі!
Вось мы ўбачым дзіва дзіўнае:
Новае, неспадзяванае.
Хто б яшчэ такое мог прыдумаць?
Бо калі б нам нехта стаў апавядаць
Вось пра гэта – мы б і не паверылі,
Мы б падумалі, папраўдзе,
Што ён выдумляе.

Д ы ё н і с
Давайце, станьце каля шаляў.

Э с х і л і Э ў р ы п і д
Ну, стаім ужо.

Д ы ё н і с
Хай верш чытае кожны й возьмецца
За шалю, покуль я вам не скажу "Ку-ку"!

Э с х і л і Э ў р ы п і д
Ну, мы ўзяліся.

Д ы ё н і с
Дэкламуйце верш на шалі.

Э ў р ы п і д
"Ах, каб жа Арга карабель так не ляцеў..."

Э с х і л
"Рака Спэрхэй, лугі, дзе пасвяць скот..."

Д ы ё н і с
Ку-ку!

Э с х і л і Э ў р ы п і д
Пусцілі.

Д ы ё н і с
І нашмат ніжэй
Эсхілава йдзе шаля...

Э ў р ы п і д
А чаму ж яно так?

Д ы ё н і с
Раку паклаў на шалю ён, як прадавец,
Што воўну, каб больш важыла, намочвае;
А ты паклаў нам надта легкакрылы верш.

Э ў р ы п і д
Хай іншы верш супраць майго ён выставіць.

Д ы ё н і с
Ну, зноў бярыцеся.

Э с х і л  і  Э ў р ы п і д
Бяромся.

Д ы ё н і с *(да Эўрыпіда)*
Ну, чытай.

Э ў р ы п і д
“Няма ў Пэйто святейшага за Слова...”

Э с х і л
“З усіх багоў дароў не любіць Танатос...”

Д ы ё н і с
Пускайце.

Э с х і л  і  Э ў р ы п і д
Ну, пусцілі.

Д ы ё н і с *(да Эўрыпіда)*
Зноў ён пераважыў.
Бо Танатос – бог смерці, ліха найцяжэйшага.

Э ў р ы п і д
А я ж – Пэйто, перакананне – слова моцнае!

Д ы ё н і с
Перакананне – лёгкае, бяздумнае.
Шукай жа верша іншага, больш важкага,
Каб шаля ўрэшце на твой бок схілілася.

Э ў р ы п і д
Дзе ўзяць яго? Адкуль?

Д ы ё н і с

Я падкажу табе:
"Ахіл у косці кінуў "два", пасля – "чатыры"..."
Апошні раз мы ўзважваць будзем. Ну, кажы!

Э ў р ы п і д

"Узяў ён у руку жалезны посах..."

Э с х і л

"На возе воз, на мерцвяку мярцвяк..."

Д ы ё н і с *(да Эўрыпіда)*

І зноў цябе перахітрыў ён.

Э ў р ы п і д

Як жа гэта?

Д ы ё н і с

Паклаў ён два вазы́ й двух мерцвякоў –
Іх не падыме й сотня егіпцян.

Э с х і л

Хай верш на верш не мерыць ды кладзе
На вагі жонку й дзетак, ды Кефісафонта;
Хай сядзе сам на іх, з усімі кніжкамі –
А я адно свае два вершы прачытаю.

*(Уваходзіць Плутон.)*

Д ы ё н і с

Яны мае сябры, і ім я – не суддзя.
І ворагам не буду з іх ніводнаму.
Вось той – мудрэц, а гэты – мне прыемны.

П л у т о н

Таго, дзеля чаго прыйшоў, не зробіш ты?

Д ы ё н і с
Калі прысуд скажу я?..

П л у т о н
Забірай тады,
Каго абраў, каб недарэмны твой прыход быў.

Д ы ё н і с
Будзь шчасны, сябра... Вы ж мяне паслухайце.
Прыйшоў я па паэта.

Э ў р ы п і д
А навошта ён?

Д ы ё н і с
Каб горад, збаўлены ад ліха, меў хары
І надалей. Хто лепшы з вас дарадца
Яму – таго адсюль з сабой я забяру.
Найперш скажыце: пра Алкібіяда ў вас
Якая думка? Горад праз яго пакутуе.

Э ў р ы п і д
А як цяпер?

Д ы ё н і с
Цяпер? Яго шануе
І ненавідзіць, і яго вяртання прагне.
А што в ы думаеце пра яго, скажыце.

Э ў р ы п і д
Тых не цярплю я грамадзянаў, што айчызне
Вагаюцца дапамагаць, а хутка шкодзяць ёй.
Сабе спрыяць умеюць, гораду ж – ніколі.

Д ы ё н і с
Цудоўна, Пасейдоне!

*(Да Эсхіла)*

Ну, а ты што думаеш?

Э с х і л
Не варта ў горадзе льва гадаваць. А хто
Ўзгадуе – будзе пад яго падладжвацца.

Д ы ё н і с
Клянуся збаўцам Дзеўсам, я разгублены:
Адзін гаворыць мудра, а другі – выразна.
Але дазвольце мне яшчэ задаць пытанне:
Ці ведаеце вы, у чым ратунак горада?

Э ў р ы п і д
Даць Клеакрыту, замест крыл, Кінэсія,
І каб вятры панеслі іх над хвалямі.

Д ы ё н і с
Было б відовішча... Ды сэнс у тым які?

Э ў р ы п і д
На моры ў бітвах, посуд з воцатам узяўшы,
Яны б у вочы ворагам ім пырскалі.
Магу параіць лепшы сродак.

Д ы ё н і с
Ну, парай.

Э ў р ы п і д
Калі бязвер'е ў веру ператворым мы,
А веру – у бязвер'е...

Д ы ё н і с
Што? Не разумею:

Кажы менш па-вучонаму, а проста й ясна.

Э ў р ы п і д
Як грамадзянам, да якіх у нас давер,
Мы давяраць не будзем, а каго не слухалі,
Паслухаемся мы – дык, можа, і ўратуемся.
Калі цяпер ні ў чым не маем поспеху,
Ці ж не ратунак – каб рабіць наадварот?

Д ы ё н і с
Выдатна, Паламедзе, галава разумная...
Прыдумаў гэта сам, або Кефісафонт?

Э ў р ы п і д
Я сам. Кефісафонт прыдумаў з воцатам...

Д ы ё н і с *(да Эсхіла)*
А ты? Што скажаш?

Э с х і л
Мне скажы найперш:
Хто горадам кіруе? Люд дастойны?

Д ы ё н і с
Дзе там!
Іх ненавідзяць, а найгоршых любяць надта.

Э с х і л
Вось – ненавідзяць. Але мусяць скарыстоўваць.
Бо хто ж і як дасць паратунак гораду,
Якому ні кажух не падыходзіць, ані плашч?

Д ы ё н і с
Прыдумай, дзеля Дзеўса, штосьці ўратавальнае!

Э с х і л
Я ўсё сказаў бы там, а тут вось – не хачу.

Д ы ё н і с
Не! Зараз добрую нам дай параду.

Э с х і л
Хай маюць край чужы за свой уласны,
Варожы – цэняць так, як свой. Няхай здабыткаў
Шукаюць на марах, здабыткам страты лічаць...

Д ы ё н і с
Ды ўсе здабыткі праглыне суддзя адзін!

П л у т о н
Ну, вырашай ужо.

Д ы ё н і с
Вось вам маё рашэнне:
“Я выберу таго, каго душа жадае...”

Э ў р ы п і д
Успомні пра багоў, якімі ты пакляўся сам
Вярнуць мяне дадому – шчырым сябрам будзь!

Д ы ё н і с
“Язык мой кляўся”, ды абраў Эсхіла я.

Э ў р ы п і д
Што ты зрабіў, о наймярзотнейшы?

Д ы ё н і с
Як – што?
Прызнаў Эсхілу перамогу. А чаму ж бы й не?

Эўрыпід
Падступства паказаў – і ў вочы мне глядзіш?

Дыёніс
"Падступства публіцы падступствам не здаецца".

Эўрыпід
Няшчасны, пакідаеш мерцвяком мяне?!

Дыёніс
"Хто знае, ці жыццё і смерць – не ўсё адно?"
"Ці ежа – не спачын, а сон – не тонкае руно?"

Плутон
Зайдзіце, Дыяніс, у дом цяпер.

Дыёніс
Навошта?

Плутон
Перад ад'ездам пачастую вас.

Дыёніс
Клянуся Зеўсам, зойдзем. Як жа тут адмовіцца?

*(Заходзяць разам з Эсхілам у дом.)*

Стасім

Першая палова хору

Страфа
О, шчаслівы той, у каго
Розум востры ды глыбокі –
Гэта шмат каму навука.

Мудрасць паказаўшы тут сваю,
Творца зноў дамоў вяртаецца,
На дабро суграмадзянам,
На дабро сабе самому,
На дабро сябрам і кроўным –
Бо ён вельмі-вельмі мудры.

Другая палова хору

Антыстрафа

Добра, хто каля Сакрата
Балбатнёю не займаецца,
Муз не кінуў шанаваць,
Хто трагедыі высокае
Бачыць найглыбейшы сэнс.
А займацца разважаннямі
Марнымі ды пустаслоўнымі –
Гэткім чынам час праводзіць
Здольны хіба што вар'ят.

Эксад

*(З дома выходзяць Плутон, Дыёніс і Эсхіл.)*

Плутон

Ну, Эсхіле, бывай, ідзі з мірам
І парадамі добрымі горад
Уратуй ды выхоўвай людзей
Неразумных – іх шмат яшчэ ёсць.
Вось штылет ад мяне: Клеафонту аддай,
А падатказбіральнікам –
Нікамаху, Мірмэку – вось тую пятлю,
Археному – атруту вось гэтую!
І скажы: найхутчэй хай прыходзяць.
Бо інакш, Апалонам клянуся,

Я звяжу іх, пазначу таўром,
З Адымантам, дзіцём Леўкалофа,
Пад зямлю іх адпраўлю імгненна...

Э с х і л
Будзе зроблена! Мой трон гэтым часам
Перадай ты Сафоклу: няхай сцеражэ
І пільнуе, пакуль не вярнуся я
Зноў сюды. Бо лічу я Сафокла,
Што да мудрасці й розуму, сёння другім.
Глядзі, каб вось гэты хітрун-прайдзісвет,
Бессаромны паклёпнік, нягоднік,
Самахоць аніколі не здолеў
Тут, на крэсле, рассесціся!

П л у т о н *(да хору)*
Запаліце паходняў свяшчэнны агонь –
Каб паэта праводзіць цяпер на зямлю.
Карагодам і спевам з мелодый яго
Услаўляйма імя яго слаўнае.

К а р ы ф е й
На адыход удалы вы шлях асвятліце паэту,
Выйсці яму на святло дайце, стварэнні падземныя.
Гораду слыннаму славы ды шчасця, й дабра пажадайма.
Каб ад нягод пазбавіцца, каб ад крывавых войнаў
І сутыкненняў ратунак меццъ. А Клеафонт ды іншыя,
Хто ваяваць захоча, б'ецца хай на сваіх палях.

405 г. да н.э.

**Пераклаў са старагрэцкай**
**Лявон БАРШЧЭЎСКІ.**



# Міхась БАЯРЫН

*іх ужо не так шмат як было раней іх*
*не будзе больш і магчыма зусім не будзе*
*а межы краіны калісьці з усіх бакоў былі*
*проста пляжам*

# SENECTUTES

стварыць гамэра не так складана як падаецца на першы погляд
патрэбны толькі выдатны густ і крыху трывання
нажніцы знойдуцца ёсць жа краіны нікому амаль не вядомыя
калі ўжо няма дык ніхто ўсе словы не ведае цалкам прыгожых
імён дастаткова
і безумоўна ёсць шмат паэтаў усімі забытых ёсць шмат архіваў
мінімум тыдзень максімум паўстагоддзя зойме мантаж і жыццё
за гэты ж час сфармуецца кола невылечна бязвокіх вар'ятаў
усе будуць думаць што гэта школа на выспе родос ці выспе хіос
варта ўсё гэта зрабіць таямніцай а злашча той лозунг
усё лепшае для гамэра тады ўсё атрымаецца добра

твар пасечаны лёзамі слёзаў як зырка як невыносна
жанчыны ў сініх хітонах вастрылі на золку косы
люстэрка дня ўзаранае шнарамі тупа ўсміхалася
о як глынае пальчатка руку праз цёмнае шкло акуляраў
гэты кут павутою заткаў лілёвай амаль не відочнай
і сусвет прасякнуты пахам поту занік стаміўся
дыхаць пылам доля паўстанцаў шчодрасць тыранаў
не глядзець жа на стрэлкі гадзінніка

увосень парваліся звязкі якія лучылі завулкі
населеныя суцэльна старымі людзьмі з сусветам
пад вечар з прыгнобленых хатак выходзілі парамі карлікі

каб на драўляных векхіх лавах паразмаўляць
пра тое чаго нестае пра грошы і пра надвор'е
было зусім відавочна што тапалёвага снегу
недастаткова каб узнавіць зіму

зняволены херувім крочыць па калідоры
па сценах старыя гадзіннікі маршам цякуць у вечнасць
куты зараслі абразамі з майстэрствам панны арахны
пашчы людзей што калісь любілі паласавацца
заўсёды напагатове гімны спяваць люстэркам
сейбіт агню пакідае след сярод пожняў асфальту
п'яныя ночныя пчолы над сіняй кветкай ліхтарні

людзі віселі ў паветры бязважка і бестурботна
старыя сябры сустракаліся зноўку на барыкадах
муры фарбаваліся таннай пудрай жоўтай тынкоўкі
абмеркаванне сусвету ў вузкім сямейным кодле
неяк самі сабой адпалі пытанні пра прыйшласць
досыць заганных звычак лічыць іх ужо бессэнсоўна
калі магчымы дык толькі не як калькулятар

надыходзіць восень буцвее лістота ў парках
моўкнасць засохлых руж у бутэльках ад пэпсі-колы
зялёнае паліто вісіць на гарышчы ў пыле
гаспадар памірае ніжэй паверхам
адысэі ж вяртаюцца анёлы падаюць долу
людзі ходзяць па сметніках у пошуку нейкай ежы
што рабіць зрабіць сваё жыццё чыстым
вось і вясна прылятаюць чужыя птушкі
холадна неяк на скразняку ў калідоры
хто бы сказаў якое стагоддзе вонках
што за дынастыя зараз пануе у Паднябёснай

тое што было модным сталася зараз смеццем
а тое што размаўляла змоўкла цяпер навечна
парваць на кавалкі дзённік раскідаць па ўсім раёне
бо паўнд меў позірк што мкнуўся да далягляду

свечкі стаяць ля вокнаў ніхто ўсё адно не прыходзіць
святло ў пакоі прывабіла тысячы белых мятлікаў
штовечар яно сузірае бледны твар у люстэрку
колер якога  не здольны што-кольвек сабой нагадваць
спалі яны заўсёды і шмат чаго не заўважалі
з крана сцякала вада са звыклым адценнем нафты
агулам ва ўсім мястэчку адчулася млявасць руху
пацукі ў прадчуванні паморку сталі давацца ў знакі
павольна гулялі і дохлі проста сярод дарогі

ніщто ўжо не пагражае ўсё стала цяпер звычайным
так акурат цячэ па медных трубах вада
быць сеткай нафтаправодаў бліскучых недзе іржавых
геаметрычна зламаных у пэўных патрэбных месцах

на чыгуначных станцыях дзеці скачуць па рэйках нібы маленькія птахі
відарыс аляксандра засціць лякае цень вераб'я
скалынаецца неруш паветра ад тупату у сутарэннях
уваскрасае вада пад асфальтам
мэта жыцця ўсіх лёзных танууць і дастаць да споду
жуда схаваная ў зарасцях красак абрала прытулкам колер
калі пойдзе снег ці горш дык цела сагрэе цела
так або гэтак што-кольвек няўхільна рынецца рынай
у атачэнні гукаў чужых і галасоў якія
нахабна ўрываюцца ў цёмны пакой самота
ды таму што глеба ізноў вылятае з-пад ног
так універсальна гучыць адповедзь на ўсе пытанні

упісаць у кантэкст і забыць іх адразу зараз
гэта выйсце з якіх-любя тупіковых станаў

іх ужо не так шмат як было раней іх не будзе больш і магчыма
зусім не будзе
а межы краіны калісьці з усіх бакоў былі проста пляжам
іх асноўным заняткам нагодай для пыхі адвеку была вайна
і пра гэта цяпер старыя ўжо склалі мільёны казак
побач з табой незаўважна амаль увесьчасна вартуюць твой сон
у найтанных гатэлях прачнуўшыся можна пачуць як ціха гавораць
шолах крылаў анёльскіх мова апратка падобна на строі
эльфійскіх князёў
бальшыні абыякава тое што згадваць ніхто іх не будзе

спазняўся на ўсё на спатканні і на электрацыі
хтосьці нат шкадаваў але ў бальшыні
перакошаны твар выклікаў да сябе пагарду
так пазіраў бы патрэбны яны сапраўды
гэткі ж вынік напэўна меў бы і адваротны выраз
дом ягоны стаяў у завулку свабодных навінаў плюс
састарэлых газэтаў пабітых бутэлек і вецер там жыў заўсёды
урэшце дакучылі здзекі стаміўся загойваць раны
узяў запальніцу й пачаў вывучаць падпалены унівэрсум

уважалі сябе за пажухлае лісце што ціха гібее паблізу
чыгуначных рэек
былі нейкай сэктай і дакляравалі нейтральнасць сваю ўвесь час
што вельмі здзіўляе ўжо два стагоддзі краінаю не кіравалі
час марнаваўся ў шуканні магічных раслінаў
самотных вандроўнікаў ветліва у кабінетах
дзяржаўных друкарняў ад іх засталіся дарэчы адны загалоўкі
напрыклад

пільна глядзець на пясок і не заўважаць далягляд
паданні гавораць нібыта сяліліся ў склепах для паскрамлення
й развагаў
і ажыўлялі слупы пагарджалі адзежай адно для забавы
гэтаму ў вёсках усе па-ранейшаму верацъ
і з вуснаў у вусны перадаюцца схаваныя ад фальклярыстаў песні
архівы завалены відэастужкамі незразумелага зместу
колькасна роўнымі
некалькім фондам запісы простых размоваў

уварванне анёльскага войска панішчыла час
засталася самота ў сядзібе спустошанай і апусцелай
чорных лебедзяў статак занік на паверхні става і паўстала
разуменне таго што кіпенне вады гэта рэч незвычайная
па шашы пралятали аўто пакідаючы ўрыўкі расейскай папсы
усе лёзы былі ўжо тупыя патрэба ў галенні адпала
жаданне чытаць пакрысе рашчынілася у сузіранні
гэтак скончыўся свет і тое што шчэ існавала
задавальняла

прадчуваючы восень знікаюць жаданні і здані вяртаюцца
ў хатні спакой
на памежжы пары залатой і аржавай эпохі ў чаканні
на мытны дагляд
час запынены ў таннай кавярні ўжо колькі тыдняў
на тым жа самым стале
нейкі нумар газеты без даты разлітае ў шклянкі віно
акцэнтуе адсутнасць гадо дурняў больш не знайшлося
за вокнамі сметнік і сад дзе былы вадаграй уяўляе сабой заняпад
невычэрпнасці пляшкі у боскай руцэ
не патрэбнай нікому забытай народам не ўсведамляючай што
ў яшчэ большай ступені ёй не патрэбны ніхто

яшчэ спяць на зялёных пагорках дамы з жывога каменя
хлопцы гадоў па дванаццаць знайшлі на гарышчы паперы
спісаныя дробным накрэсам старыя чыталі увечары ўголас
дзённікі прад агмянём рэшткі багатай калекцыі сем або пяць
абсалютна адрозных людзей і знаёмай была эфемернасць жыцця
кожны моўчкі пытанне задаў чаму не пісаў гэтак я
праз год жа іх стосам паклалі у прыбіральні
і там іх таксама чыталі

кавэнчыла проста ў парку на лаве
стаміўшыся легла нібы адпачыць заплюшчыла вочы
пах спаленай фарбы друкарскай надаў трывогу
шолахам лісця пад ботамі сцішыў апошнія стогны
сотнямі кветак злятаелі дадолу анёлы ў ажоўклых строях
знікненне было незаўважным як шмат што як нараджэнне
змусіў рэчы выконваць няўласныя іх абавязкі
чысціня цішыні азначала напэўна нешта
адкінуўшы лёс завісае шклянка вады ў падзенні

стагоддзі змянілі юначага твару рэльеф і адлегласць
паміж радкамі
толькі ўзрастала прагалы сярод успамінаў чамусьці не засмучалі
як ласне ўспрымаў абыякава павелічэнне між атамаў
вольных абшараў
падчас выпарэння вады уважаючы гэта за звычай
а не за азнаку распаду
ботаў грукат вайсковых знаёмы той самы штодня быў чуцён
каля дома
часцей загучала нічога ў адповедзь на ўсе запытанні
цяпер назіранні за ценямі акупавалі увагу
гульні са ртуццю тэмпературы скура ўжо не заўважала

схільнасць да веры ў што-колечы сталася важкай праблемай

апынуўшыся ўпершыню ў пакоі пазбытым вокнаў
які асвятляецца толькі настольнай лямпай
можна доўга працягваць бясплённыя спробы вызначыць
час пары
гэта здарыцца абавязкова і скончыцца усведамленнем марнасці
і мітусні

купіўшы зямельны надзел каля лесу на ўскраіне вёскі
меркаваў збудаваць там хату каб жыць усім разам каб мець сваё
ды жонка памерла дзяцей не было былі толькі грошы
увосень кінуў зусім аднаго
надвор'е даўно сапсавалася і пад дажджом бадзяўся ў вайсковай
накідцы па ўласнай зямлі
дзеці лякаліся ўбачыўшы скрушны травісты твар
гэтак часта бывае знікае адчай і рашучасць прыходзіць
на гэнае месца
змянілася нешта ад гэтага моманту недзе ўнутры
нешта змерла загасла як свечка без тлёну
але штось скалянела або згартавалася чэрствае сэрца насіў
у грудзях
прыблізна за год скарыстаўшы ўсе сродкі застаўшыся ў нэндзе
збудаваў вялізны й незразумелы будынак і ўлазіны не адбыліся
гмах заняў усю плошчу надзела й здаваўся аднапавярховым
гаспадар памятаў што сустрэне ў глыбокім падмосці
з'ехаў праз месяц амаль невядома куды засяліўшы
жудой наваколле



## Васіль БАРЫСЮК

***

Зайздросціць няўтульнасці
хатні спакой.
Халоднае неба, зжаўцелы ліхтар
і чорнага веццяя канвой
за шэрай фіранкай,
за рамай двайной.
Туляюцца мроі па вулках пустых.
Няпэўныя словы, забыты напеў
і боязь глухой нематы;
змярцвелыя вусны:
"Няўжо гэта ты?!."
У вершах замёрз і зрабіўся хлуснёй
расчулены ранак, прасветлены снег
і чыстых памкненняў сувой
за шэрай фіранкай,
за рамай двайной.
Галодныя здані хапаюць не тых.
Аслеплыя вочы, пакорлівы смех
і багна будзённай лухты;
змярцвелыя вусны:
"Няўжо гэта ты?!."
Ад сонца схаваўся за новай сцяной
зажураны вечар, разбэшчаны снег –
і выйсце ў падказцы чужой
за шэрай фіранкай,
за рамай двайной...

Віктар
ПРАЎДЗІН
Ірына
ШАЎЛЯКОВА





*Ноч.*
*Вуліца.*
*Ліхтар.*
*Аптэка. –*
*Мост.*
*Рака.*
*Карабель.*
*Пацукі.*

# МУДАЛОГІЯ НА МЯЖЫ ТЫСЯЧАГОДДЗЯЎ*

## Інструкцыя

*(АЗНАЁМІЦЦА ПЕРАД ВЫВУЧЭННЕМ АСНОЎНАГА ТЭКСТУ):*

**Спосаб чытання *I***

*(для людзей грунтоўных, развважлівых, манументальных):*

**1.** Вывучаеце спярша левую калонку таго ці іншага эпізоду – да канца.

**2.** Пасля нязмушана пераходзіце да тэксту, размешчанага справа.

**3.** Падчас аналізу тэксту, што знаходзіцца справа, працягваеце ўтрымліваць у галаве важнейшыя моманты тэксту, што злева.

**4.** Увесь час, безупынку, шукаеце схаваныя і яўныя паралелі паміж левай і правай калонкамі.

**Спосаб чытання *II* (альтэрнатыўны)**

*(для людзей дужа абазнаных, порсткіх, але ўчэпістых):*

**1.** Вывучаеце тэксты левай і правай калонак паралельна, напрыклад, па абзацах.

**2.** Увесь час памятаеце пра тое, што ў абедзвюх калонках – процьма алюзій, асацыяцый, цытат, гнюсна ад вас схаваных.

**3.** Калі вы, кіруючыся ***спосабам II*** (альтэрнатыўным), азнаёміліся з "Мудалогіяй" і нічога не зразумелі, уважліва вывучыце ***спосаб I*** і пачынайце чытаць наноў.

---

* Фундаментальны раздзел humanities (гуманітарных ведаў), які даследуе прыроду, сацыяльныя функцыі, эвалюцыю аднаго з чалавечых тыпаў, а таксама вынікі гэтай эвалюцыі.

# РАЗДЗЕЛ І. ВОПЫТЫ ДАСЛЕДАВАННЯ ФЛОЦКАГА МУДЫЗМУ

## Пачатак Шляху

Ты, браце, не першы, хто плявузгае, быццам бы сам будуе, лепіць па цаглінцы тое, што людзі завуць шчасцем. І гаворыш так, быццам Бога ўхапіў за бараду... А ці ведаеш, якое яно – тое шчасце-нязшчасце? Ага, ведаеш, у кожнага сваё: аднаму і фуфырыка хапае, а іншаму – дзяржавы, свету мала. Добра, браце, ты толькі не злуй, я ў палітыку не лезу, твае ж словы пераказаў. І зусім не супроць я шчасця. Як адзін разумны чалавек казаў: "Хочаш – будзь"... Ды не хапайся ты за пляшку – паспееш. Я не ў тым сэнсе... Вось у маім жыцці шчасця няма, не было і не прадбачыцца, і ўсё праз выпадак. Па-мойму, ад выпадку і залежыць тое шчасце. Не, не п'яны я і не вар'ят – даведку маю, заўтра пакажу. А стаяў і стаяць буду на тым, што яго вялікасць выпадак мацнейшы за законы, дэкрэты, загады – на сабе адчуў... Прыклад табе давай? Калі ласЗаўтра рушу па сваім Шляху – сустрэну мудака[4]; ён назаве мяне братам, будзе філасофстваваць – як і ўсе мудакі – і, пэўна, бляваць.

<<*''Выпадак звёў яго з былым матросам з супрацьлодачнага карабля'', – не зважаючы на гвалт і яўную няздольнасць аўдыторыі на чым-небудзь засяродзіцца, пачаў свой аповед пан Ё., антысацыяльны пан (некалі сярэдняй рукі літаратар) з азызлым тварам, адсутнасцю волі і Дома.*>>

Іду, куру, трапляю ў яміну – мудакі нарылі іх безліч па загаду мудацкага Пахана – называюць іх морамі – там дзелавіта тусуюцца рыбы-пацукі – яны маюць прапіску ў доме/моры/караблі, адкуль мудакі

<<*''...першыя ўцякаюць, прадчуваючы нядобрае. А розумам пацукі не абдзеленыя'', – аўтарытэтна гундзеў Ё., справядліва мяркуючы, што ён, паталагаанатам чалаве-*

 



ка. Чаму, па-твойму, я ў цяльняшцы? Купіў? Не, перад табой старшы матрос супрацьлодачнага карабля ваенна-марскога флоту! Мора ў нас няма? Затое матросы ёсць! А як ты ставішся да пацукоў[1]? Што? Пачвары?! А матрос пра іх ніколі так не скажа. І не таму, што пацукі першыя ўцякаюць з карабля, прадчуваючы нядобрае. А таму, што матросы і пацукі жывуць у адным доме-караблі, з аднаго камбуза[2] кормяцца. І розумам пацукі не абдзеленыя, і сваё начальства маюць, і... Ды што казаць: нават марскую балтанку ўспрымаюць па-рознаму. Вось неяк наляцеў шторм, карабель быццам шкарлупінку шпурляе. Мы – маладыя карасі[3] – па-рознаму гэтую балтанку трываем. Адзін – нежывы, аббляваны пластом ляжыць, а каму – жэрці ахвота. Я першы раз у такую сітуацыю трапіў, чую – вантробы быццам перакульваюцца ў пузе, але трымаюся. Вахту адстаяў, спусціўся ў кубрык, а пасярэдзіне, на падлозе, – вялізны пацук, аднаго хваста на паўметра. Лапы ў розныя бакі – ледзь трымаецца, і хістае яго, і трасе, быццам у ліхаманцы. Думаю, мо хвароба якая, шаленства там ці што іншае. Але пацук зусім пачых душ, здолее не заблытацца ў пацучыных вантробах. *Кампаніі, што складалася з філалагінь і несумненна амаральных заўсёднікаў бара "Друкар", да смерці надакучылі апавядальніцкія экзерсісы літаратара-без-Дома з іх наіўным натуралізмам, пікам якога была сентыментальная сцэна сумеснага ванітавання пацука і матроса.>>*

Я, перапэцканы брацкімі ванітамі пацука і чалавека, сядзеў на беразе мора, выкапанага мудакамі па загаду КагоТрэба, слухаў аднаго з іх – супраць волі знаёміўся з канцэптуальнымі поглядамі на ролю катэгорыі выпадковасці ў экзістэнцыі мудака. Ноч. Вуліца. Ліхтар. Аптэка. – Мост. Рака. Карабель. Пацукі. Ванітавала якраз ад перанаселенасці жыцця сэнсамі, якія пацукамі кішэлі вакол, гатовыя зжэрці чарговага мяне ды апетытна абсмактаць мае костачкі.

Мудак – дракон-здыхата – вывяргаў сентэнцыі, рытарычныя пытанні/воклічы. – Я думаў пра тое, што будзе, калі апусціць нагу ў пацучынае мора, на беразе якога мітусіўся мудак, які заўтра будзе стаяць на мосце з сяброўкай, якая

*<<"...усумнілася ў матросавай смеласці – прыйшлося яму скокнуць з моста ў*

 

чалавечы, як бывае з перапою, гэтак гучна пачаў бляваць, са стогнам і прысвістам, вось-вось пуза пэнкне. Вочкі такія чорненькія ды жаласлівыя, ажно шкада, хоць, як ты кажаш, і пачвара. Але я не пра тое. Убачыў я, што жор пацук, – і з мяне рванула, быццам з трансбоя, шланга пажарнага. Пляснуўся я на чатыры кропкі – і нос у нос з пацам. Ён рыгане – я рыгану, і так з паўгадзіны. Ужо няма чым – а верне, матку родную ўзгадваеш. І ён слабы, і я на ногі стаць не магу... І ўсё ж пацук за мяне мацнейшы, гэтак паціху павярнуўся і на дрыготкіх лапках пацёгся прэч. Праўда, перш чым зінкнуць у нейкай сваёй шчыліне, яшчэ раз паглядзеў на мяне, роспачна, з жалем. Пэўна, пашкадаваў. Што, не верыш? Кроў з носа – праўду кажу. А ты маеш рацыю: каб пац гаварыць мог, пэўна, запрасіў бы ў госці. Што значыць – пры чым тут пацукі? Дык я ж табе пра выпадак. Спярша былі мост, рака, каманда семдзесят, флоцкая, значыцца, а ўжо потым – карабель і пацукі. Ды нармальны я чалавек! Чаму мост? Таму, што з дзяўчынай на ім стаяў, і яна ўсумнілася ў маёй смеласці – прыйшлося *раку...'' – цурчэла сага пра Матроса з нетраў мутнавокага літаратара Ё., якога не засмучала ні няўдзячнасць адсутнай аўдыторыі, ні тое, што ў прыбіральні бара, дзе ён лагічна апынуўся ў разгар вечарынкі, пахла мышамі. Іх дух сплятаўся з вобразамі-персанажамі пузатага ваенкома і бутэлькі спірту, што матэрыялізаваліся па меры разгортвання падзей у сазе пра Матроса – зуха, бабніка, п'яніцу, рэвалюцыянера, а ў рэдкія моманты прасвятлення – Пісьменніка. Усё выдавала на тое, што літаратарскае мінулае Ё. (як і любая паталогія) настойліва рвецца вонкі ў выглядзе бясконцага аповеду – такога ж агідна-знаёмага і непазбежнага, як і сам Ё.>>*

Завяду тры-чатыры пары пацукоў. Хачу пераняць жывёлагадоўчы вопыт мудакоў. Яны трымаюць пацаў замест свойскіх жывёл. Навучуся скакаць з вышкі ў мора, дзе кешкаюцца пацукі, якія, нібы сэнсы, умомант зжыраюць разяватых.

Слухаю мудака. Думаю: калі ён тут грузіць[5] мяне – значыць, гэта каму-небудзь трэба? І хто падасць мудаку руку?

У манатоннай валтузні пацукоў і сэнсаў разгледзеў боскі твар ісціны, якая паведаміла мне, што той, да каго злятаюц-

скокнуць... Вось з гэтага выпадку і пачалося. Бо калі забіралі ў войска, ваенком узгадаў пра мост – і загудзеў я ў каманду семдзесят. Зноў не верыш? Спытайся ў таго пузатага ваенкома, ён добра мяне павінен памятаць, бо па мордзе атрымаў, хацеў бутэльку сцібрыць. Як якую? Са спіртам. Вось, бачыш, і ты згодны, што ён казёл бязрогі... З таго выпадку на мосце і жыццё напеаракасяк. А ты кажаш – сам будуеш. Знойдзецца нехта – і скокнеш невядома куды, а ці выплывеш? Добра, калі хто руку падасць.

ца са сваімі крыўдамі мудакіэльфы, абраны лёсам для выканання місіі мудацкага Гуру.

Я паверыў ісціне. Адчуваю, як расце ў нетрах маёй гнілой сутнасці пяшчота да бурапеннага майго субяседніка, як няўмольна зліжаюцца нашы Шляхі, як... – ах! метамарфоза! – перацякаю ў яго, патанаю ў глыбінях ягонай душы, у высокіх мудацкіх памкненнях, у няздзейсненым мінулым і немагчымай будучыні. Знаходжу ў сабе зорнае неба і катэгарычны імператыў, бо мне ў адно імгненне адкрыліся ўсе тайны мудызму.

**Даведнік:**

[1] *Пацук* – надзвычай шкодны грызун падсямейства мышыных. Пацукі спадарожнічаюць чалавеку – куды ён, туды і яны. Вельмі небяспечныя як разносчыкі хвароб. Прыплод – да пяці памётаў у год па шэсць – восем пацучанят у кожным. Размнажаюцца з трохмесячнага ўзросту.

*(З нейкага даведніка па ветэрынарыі.)*

[2] *Камбуз* (ням. Kambuze) – кухня на судне.

[3] *Карась* – рыба сямейства карпавых. Пуза светлае, спінка цёмная ці светла-рудая. Экалагічна пластычны. Пры дрэннай забяспечанасці ежай утварае карлікавую форму: вялікая галава, высокае тулава; палавая спеласць у гэтым выпадку наступае вельмі рана.

*(З нейкага даведніка па рыбалоўству.)*

[4] *Мудак* – тут: прамежкавы стан асобы ў працэсе яе эвалюцыі: ужо не “лох”, яшчэ не “брат”.

[5] *Грузіць* – тут: абцяжарваць субяседніка (чытача) непатрэбнай інфармацыяй.

# РЭКВІЕМ...

*"Трывога, чалавек за бортам!" – гэтыя словы ў кожнага марака выклікаюць шчымлівае пачуццё салідарнасці. Кожны, хто хоць раз выходзіў у адкрытае мора, прасякнуты спачуваннем і шчырым жаданнем хоць што-небудзь зрабіць для таго, хто апынуўся адзін на адзін са стыхіяй. Бывае: бачыш чалавека сярод раз'ятраных хваляў, здаецца, нават чуеш позвы аб дапамозе, а зрабіць нічога не можаш. Хочаш – і не можаш... Пэўна, кожны чалавек перажывае нешта падобнае, няхай сабе і не ў экстрэмальных сітуацыях...*

Восень і зіма на Балтыцы – час сцюдзёных, пранізлівых вятроў, якія пры марозе ў пяць градусаў люцейшыя за сібірскія, яны ў адну хвіліну пераўтвараюць чалавека ў ссінелы безгалосы лядзяш. Неспрыяльнае для вучэнняў, зменлівае, словам – "мёртвае" надвор'е. Чалавек да ўсяго прывыкае, але ж патрэбен час, каб асвоіцца і шквальны вецер успрымаць як непазбежнае.

У кубрыках, рубках параўнальна цёпла, хаця, бывае, раніцай не адарваць прасціны ці коўдры ад пераборкі – прымяр-

*Багіня напявала рэквіем.*

*У паветры смярдзела экстрэмальнай сітуацыяй.*

Хар-р-рошы чалавек задуменна прагульваўся па парку, мёрз і прыслухоўваўся да жадання, якое разрасталася недзе паміж страўнікам ды інтэлігентнаю душою.

Менавіта адтуль сто дзевятнаццаць хвілін таму папёр стыхійны пратэст – утварылася мора.

"Ёхар-р-рны баба-а-ай!!!"[4] – раўлі раз'ятраныя хвалі. Жалезны коннік з вялікім носам і сквапнымі, як у піянера, вачыма, учэпліва трымаўся за павады закілзанай кабылы, ікаючы ад жаху. Вароны, што рэгулярна гадзілі на пузатага вахлака[5] з шабляю і закаханых, адчулі сябе чайкамі. Ім захацелася рыбы.

Ссінеламу грамадзяніну – прычыне навакольных катаклізмаў, пра што ён, пэўна, не здагадваўся, – хацелася іншага.

На дзвесце чатырнаццатай хвіліне шпацыру цьмянае жаданне аформілася ў рашэнне застацца ў вечнасці. Хар-р-рошы чалавек – уладальнік сімпатычнага і, галоўнае, гучнага прозвішча Мудзь-Мудзянко (нату-

 



заюць. Вахтавога на палубе не ратуе ні вялізны, да самых пят, кажух, накінуты паверх шыняля ці бушлата, ні агромністага памеру валёнкі. З раніцы да вечара пад сляпучымі пражэктарамі матросы дзяўбуць лёд на палубе, на прыбудовах, тарпедных і ракетных установках, а ён (лёд), быццам нешта жывое, туманнай мокраддзю ахутвае прывід карабля.

Калі шторм у чатыры–пяць балаў, малыя супрацьлодачныя караблі звычайна ў мора не выходзяць, а тыя, што нясуць службу, вяртаюцца ў гавань.

У адзін з гэткіх дзён нешта змянілася, дакладней – не нешта, а нехта. Брыгаду супрацьлодачных караблёў узначаліў новы камандзір, які не захацеў звяртаць увагі на стыхію. Запланаваная вучэбная трэніроўка “Вышук падводнай лодкі” не пераносілася. Як узнёсла сказаў камбрыг: “Мы вышэй за капрызы прыроды, і вораг павінен пра гэта ведаць!”. Па трывозе быў узняты дывізіён малых супрацьлодачных караблёў, тральшчыкаў[1], тарпедных катэраў – флагманам ішоў вялікі супрацьлодачны карабель. Праз сорак хвілін гэтая армада ўжо мінала Паўночныя вароты Ліепайскай бухты і брала курс у адкрытае мора.

ральна, з націскам на “О”) – хацеў не проста выпендрыцца. Ён прагнуў прадэманстраваць суседзям, суайчыннікам, сусвету – да апошняй сярлівае вароны! – веліч сваёй трагічнай асобы.

Лёс нібыта знарок паклапаціўся пра дэкарацыі, на фоне якіх нават сярэдняй вартасці ўчынак выглядаў бы АКТАМ ГРАМАДЗЯНСКАЙ МУЖНАСЦІ.

Дзьмуў халаднаваты вецер. Сеялася імжачка. Над паркам мітусіліся хмаркі. Па алеі, што вяла да галоўнае вуліцы, сунуліся апатычныя грамадзяне.

Пахла балотам.

З туманнай мокрадзі на хар-рошага чалавека насоўваўся прывід карабля. Мудзь-Мудзянко прыгледзеўся да ягонага носа – і пазнаў у ім (носе) фасад Бункера – будыніны, якую лаяльныя называлі апартаментамі, абыякавыя – стайняю, а знерваваная меншасць – гадзюшнікам.

Жаданне, што дагэтуль ціпком прабіралася да горла, раптам заенчыла.

Азвярэлыя хвалі чамусьці прыпыніліся, пасля развярнуліся – і, бы шкарлупінку, павалаклі чалавека ў бок Бункера.

.........................................................................

Мудзь-Мудзянко не супраціўляўся лёсу. Ён засяродзіўся на выбары формы пратэсту. На

 

Сцюдзёныя хвалі з рыкам і неўтаймаваным звярыным шаленствам наляцелі, падхапілі лёгкую здабычу, быццам чакалі гэтыя безабаронныя шкарлупінкі, каб пацешыцца, пашкамутаць, праглынуць. Толькі гэтыя, з выгляду безабаронныя, шкарлупінкі не жадаюць быць забаўкай у чужой гульні. Яны, не зважаючы на раз'юшаную стыхію, не мяняючы курсу, дыбячыся на хвалях і правальваючыся ў бездань, настойліва сунуцца ў зададзены раён. У нейкі момант халоднае, азвярэлае мора быццам змірылася з прысутнасцю караблёў, здаецца, і хвалі не такія ўжо жахлівыя, і салёны вецер трошкі памякчэў. Але трэба быць напагатове, мора не даруе расхлябанасці і пагарды. Раптам эфір разарвала: "Трывога, чалавек за бортам! Выратавальным камандам – гатоўнасць нумар адзін!" Але загаду "Стоп машыны, шлюпкі на ваду!" не было, і зразумела – чаму. Шасцівёславы ял[2] разляціцца на трэскі, як толькі хваля возьме яго ў абдымкі і кіне на борт карабля. Цяжка камандзірам знайсці хуткае і правільнае рашэнне, хваляванне і адчай – благія памочнікі. А там, у ледзяной вадзе, ярка-чырвоная кропка выратавальнай камізэлькі – чалавек. Колькі ён вытой момант у яго існавала некалькі варыянтаў:

а) можна плюнуць на сцяну Бункера (добра было б патрапіць у адчыненую фортку, але для гэтага спатрэбілася б дапамога якіх-небудзь звышнатуральных сіл, звязвацца ж з нечысцю не хацелася);

б) можна ўчыніць акт самаспалення на вачах у натоўпу (натоўп, праўда, складаўся з варон, нябачных ахоўнікаў Бункера і гераічна-заалагічнай скульптуры; засмучала нешматлікасць і яўная неінтэлігентнасць аўдыторыі);

в) можна выстраліць па Бункеру гнеўным словам (аднак у гэтым выпадку зноў паўстае праблема выбару: чым канкрэтна страляць, каторае слова найбольш падыходзіць для таго, каб здрыганулася зямля, каб т а м заплакалі і пакаяліся –

сатрап?
тыран?
дэспат?
дурань?);

г) можна гераічна замерзнуць на вачах ва ўсё таго ж натоўпу, паступова ператвараючыся ў трагічны сімвал эпохі адчужэння (гэта, бадай, можа прэтэндаваць на АКТ, але расцягнецца надоўга, затое паспее падцягнуцца публіка, ды, пэўна, здароўя не хопіць).

Цяжка зрабіць хуткі і правільны выбар, хваляванне і ад-

трымае – дваццаць, трыццаць мінут? Ляцяць у мора выратавальныя кругі, іх падхоплівае вецер і кідае далёка ад небаракі. Нарэшце з флагманскага карабля ўздымаецца верталёт і неяк нясмела, бокам, быццам падранак, кіруе да чырвонай кропкі. Робіць круг, другі – не рызыкуе, шквальны вецер можа імгненна шпурлянуць у мора. Нарэшце, верталёт завіс, з яго выслізгвае шкерт[3] з кальцом на канцы. Верталёту цяжка ўтрымацца, але вось-вось кальцо ляжа на плыўца. І раптам у радыёэфіры – нечаканае: "Туман, Туман, я Ястраб, вяртаюся на базу, паліва на нулі. – Ястраб, ты мудак, а не камандзір...". І ўсё, цішыня, мёртвая цішыня ў эфіры.

Верталёт рэзка ўзвіўся і з доўгай кішкой-шкертам слізгануў да флагманскага карабля.

"Караблям – поўны ўперад, працягваем выкананне асноўнай задачы", – трашчыць у радыёэфіры злосны голас камбрыга. – Задача па выратаванню не выканана, усім двойка..."

Караблі набіралі хуткасць, і толькі флагман затрымаўся. Верталёт заправілі палівам, і ён зноў у паветры, толькі цяпер знізу цельпухалася на тросе нешта вялікае, падобнае на экскачай – благія памочнікі. Мудзь-Мудзянко вырашыў імправізаваць...

..................................................................

...Тым часам хвалі прывалаклі яго да мармуровага ганка Бункера і выплюхнулі на жалезную рашотку перад прыступкамі, на якой законныя жыхары апартаментаў/стайні/гадзюшніка любілі патаптацца – абабіць ці снег, ці бруд з абутку...

Аднекуль зверху на Мудзя зваліўся кавалак самоты. З-пад рашоткі вырас стражнік і сурова спытаўся:

– А што ета вы тут дзелаеце, гражданін?

На даху Бункера завылі анёлы.

– Пакланіцца прыйшоў, – фальцэтам праныў самотны Мудзянко.

– Сягоння непаклонны дзень, гражданін, – строга (хоць і не без спачування) сказаў стражнік. – Запісацца сначала паложана. Вот запішут вас, напрымер, на дваццаць пятага – тагда і прыйдзёце.

Мудзь-Мудзянко падзякаваў стражніку, папрасіў у яго прабачэння, і яшчэ падзякаваў, і зноў папрасіў прабачэння, пасля чаго подбегам рушыў у парк.

Мора знікла. Жалезны коннік баяўся зваліцца з каня. Ва-

ватарны коўш. А тыя, хто назіраў, як гэтым каўшом выхапілі з вады чырвоную кропку, з палёгкай уздыхнулі: “Мабыць, усё ж не чалавек у выратавальнай камізэльцы. Надта ж падобны на вучэбны манекен...” роны выглядвалі чарговую ахвяру.

Грамадзянін зрабіў два кругі, плюнуў сабе пад ногі і па раздруханай алеі пасунуўся ў бок галоўнае вуліцы...

**Даведнік:**

[1] *Тральшчык* – карабель класа дапаможных, забяспечвае ўсё, што трэба і не трэба; чытачам, незадаволеным гэтым тлумачэннем, рэкамендуем звярнуцца да спецыяльнай літаратуры па ваенна-марской справе.

[2] *Ял* – ваенная шлюпка; альбо гл. другую частку папярэдняй заўвагі.

[3] *Шкерт* – вяроўка ці металічны трос (тоўсты); як правіла, чалавеку з вобразным мысленнем шкерт нагадвае кішку.

[4] *Бабай* – злы начны дух, стары з клумкамі ці вялікім мехам, куды ён нібыта хавае непаслухмяных дзяцей (і толькі? – *Аўт.*). Урачы *бабай* прыходзіць з зарасніку пры рэчцы ці з гарода пад вокны – і ***пільнуе***...

Дадатковыя звесткі пра *бабая* міфолагі і фалькларысты могуць знайсці, напрыклад, у слоўніку “Персонажи славянской мифологии” (Кіеў, выд. “Корсар”, 1992) на стар. *13*.

[5] *Вахлак* – тут: адна з прамежкавых ступеняў эвалюцыі асобы, якая ў адрозненне ад *мудака* (гл. заўвагу *4* да эпізоду “Пачатак Шляху”) характарызуецца меншай хцівасцю, але большай разяватасцю.

# ...ПА КОСТКАХ

Месяц май выдаўся надзіва сухім і спякотным. Для экіпажа ваеннага карабля пад нумарам сто трыццаць шэсць, які нёс баявое дзяжурства, прырода зрабіла сапраўдны падарунак. Баявая задача нескладаная – кантроль дзяржаўнай мяжы насупраць ваенна-марской базы. Гэта азначае, што карабель – "вочы і вушы" ўсіх узброеных сіл. Уявіце вялізны кампутар даўжынёй шэсцьдзесят сем метраў, вышынёй пятнаццаць, які запраграмаваны на тое, каб рэагаваць на ўсялякія прадметы, вялікія і малыя, на дзесяткі міль наўкол – у паветры, над вадой і пад вадой. Слухаюць радыёэфір радысты, акустыкі пеленгуюць нават невялікія касякі рыб. Канешне, у такой сітуацыі асноўны цяжар вахтавай службы – на баявой частцы "чатыры" (акустыкі і радыётэлеграфісты). Матарысты, ракетчыкі, артылерысты, боцманская каманда і іншыя бавяць час: хто вудзіць рыбу на блешню з лыжкі, хто загарае, а хто і проста спіць па дваццаць пяць гадзін у суткі. На моры поўны штыль – і на караблі таксама. Рытм карабельнага

***Выканаўцы*** – пісьменнікі, літаратары, калялітаратурныя мысляры, а таксама *непазбежныя* ў літаратуры людзі.
***Месца выканання*** – чарга за вечнасцю.
***Рэжысёры запісу*** – Вушы і Вочы Клуба Добраахвотнай Бяспекі.

"...сволач, сволач народ пайшоў – падушацца, пранцы аблезлыя, а каб інтэлігентна ў чарзе пастаяць, дык трасцу, маць..."

"...даражэнькі, рыплю шчэ, рыплю..."

"...не спаў, усё думаў, як бы з чаргі не вычысцілі..."

"...нумар хадзіў ставіць..."

"...патрапілі ў патыліцу..."

"...на ўсіх *членаў* не хопіць – было б хаця *сябрам*..."

"...кожнай *твары* па хары..."

"...ёсць стан радыкальнай плюральнасці, калега, у той час як вы сцвярджаеце..."

"...вушы ўжо разабралі..."

"...ды як жа без часныку халадзец – здурнеў ці..."

"...праляцяць самалёты – трындзец нашаму club'у..."

"...касяк забіць..."

"...тваю вечнасць..."

жыцця запавольваецца. Толькі адно нязменна: чатыры разы прыборка, па суботах – вялікая, і, канешне, чатыры разы на дзень – прыём ежы.

Дарэчы, з абеду ўсё і пачалося. У ваенных маракоў самая высокая і пачэсная каста – каста гадкоў. Гэта тыя, хто служыць апошнія паўгода. Дык вось, па няпісаным, але ўзведзеным у ранг закону правіле, кожны гадок на абед павінен атрымаць у місцы з супам маслак[1] – костку з мясам. І зусім неабавязкова, каб на ёй было шмат мяса, маслак – гэта прэстыж і прызнанне таго, што ты – ушанаваны чалавек на караблі. Адсутнасць маслака ў місцы гадка – справа надзвычайная і неверагодная, на практыцы амаль немагчымая. Кок[2] напералік ведае "пачэсных" людзей у кожным кубрыку, але асноўны клопат дбаць пра маслакі ляжыць на бачкавых. Бачкавы – гэта дзяжурны па кубрыку, і ягоны абавязак – чатыры разы на дзень накрыць на стол, а пасля прыбраць за ўсімі. Падлік маслакоў таксама ягоны клопат, і не дай Бог памыліцца – бачкаваць такому бедалазе-карасю і месяц, і два.

Дарэчы, школа бачкавых не такая ўжо і кепская, асабліва

"...філей расцягнулі, паляндвічку, на кумпячок разявіўся..."

"...гэткі цяжар на мне..."

"...прыкарытнікі..."

"...чым дабру прападаць – хай лепш пуза трэсне..."

"...не дачакаюся, мабыць, і сёння: кажуць, спачатку трэ *абортную камісію*[5] прайсці, а пасля ўжо..."

"...вечнасць яму на халеру здалася – ён ужо трэцюю пайку во панёс, абы мне..."

"...бабы ў паэзіі..."

"...не хапіла..."

"...прадыхнуць, гэтак задушна, не кажыце..."

"...рэч у тым, што дыскурсіўная практыка постмадэрновай праста..."

"...ы-ы-іх, не нажаруцца – мне б за сваёю *часцю* дастаяцца – паказаў бы я гадам, навошта..."

"...*чэснаму тварцу* – вечнасць..."

"...сёмы дзень, сёмы дзень..."

"...я ёй – кожны *пясьменнік* па закону мае права на *долю* пры перадзеле вечнасці, а..."

"...проста мяшчанская, абывацельская *душонка*..."

"...раз – чатыры годзікі, другі – чатыры гадочкі, а тады..."

"...пэўна, пасадзяць..."

"...паехаць у вёску, сядзець

для мамчыных сынкоў. Часцяком такі матрос за васемнаццаць гадоў толькі і навучыўся, што трымаць лыжку. Толькі ж трэба прызнацца, што карасі, хоць з выгляду і затурканыя, але вынаходлівыя на розныя штучкі-634дручкі, хаця часцяком і цярпяць нягоды праз сваё штукарства. Напрыклад, адзін такі мамчын сынок адбачкаваў не меней чатырох месяцаў...

"Гэта ж горш за катаргу!" – ускрыкне знаўца. Ён не памыляецца, сапраўды, цяжка прыбіраць за ўсімі, асабліва пасля абеду, у адміральскі час. Матросы гадзіну сорак пяць мінут спяць, а бачкавы мые посуд, прыбірае ў кубрыку, абірае на вячэру бульбу ці яшчэ што робіць. Можна тыдзень запар пратрымацца, адбачкаваць, але ж чатыры месяцы... Лепш ужо на гаўптвахце адсядзець.

Нехта скажа, што гэта абраза чалавечай годнасці, здзек. Можа і так, толькі ніводзін з вас не возьме ў руку брудную лыжку ці відэлец, а калі ўбачыце ў сваёй місцы пазаўчарашнюю прыкарэлую кашу, гарантую – вучоба неахайнаму матросу забяспечана. А каб ён не разводзіў прусакоў, дадасце, калі вы гадок, тыдзень — у сваёй хаце, рабіць спаконвечную справу свайго роду..."

"...гэта ўсё, выбачайце, інтэлігенцкія бздуры..."

"...выспятка, а не прэмію..."

"...і чаму нас не заўважаюць..."

"...іду ўчора па Казлова і..."

"...*презираю* я гэты электарат..."

"...на халеру мне тое..."

"...*ш-ш*труктурыраванне[6], бач ты іх, мастацкага..."

"...каўбас нараблю, кіндзючок напхаю..."

"...папрывыкалі, злыдні, будзе й вам..."

"...за чый кошт банкет..."

"...ды правакатар ён..."

"...паэтыка снабачанняў..."

"...дапісаўся..."

"...і дзякуй Богу..."

"...яечка спяку, скварку якую..."

"...цудоўная, узнёслая паэзія..."

"...наеўса, напіўса і спаць паваліўса..."

"...хоць бы на кукішкі прысесці..."

"...гаўно твае вершы, дый сам ты..."

"...здзек над пісьменнікам – гэта каб паперы не дакупіцца..."

"...свіння няскрэбеная, кажу – рукі не падам..."

"...*здрастуйця*, Авель Гервасьевіч, усё *пішаце*..."

"...на семінары маладых

другі пазачарговага бачкавання. Вось і вучыцца такі неахайны матрос “да перамогі”. Можна і мядзведзя таму-сяму навучыць. Так і гэты марак-небарак, зрэшты, здаў экзамен на чысціню і атрымаў дазвол перадаць бачкаванне па чарзе. Усе чакалі слоў удзячнасці, а ён неяк сумна ўздыхнуў: “Вось і добра, з гэтага дня я ў ваш чайнік з кампотам сцаць больш не буду”.

Як кажуць, каментарый не патрэбен, і што здарылася з гэтым матросам, пра тое можна толькі здагадвацца...

У адзін з майскіх спякотных, разамлелых дзён гадку на абед трапіў супермаслак. Вялікая касціна гарой высілася ў супе і выклікала зайздросныя позіркі іншых матросаў. Толькі гадок, які яшчэ хвіліну таму з гонарам і пыхай падсоўваў да сябе місу, раптам дзіка зароў, ухапіў маслак і тыцнуў бачкавому пад нос: “Што гэта?!” У кубрыку запанавала мёртвая цішыня. “Я пытаюся, што гэта?! – рыкнуў гадок і ўхапіў бачкавога за каўнер. – Гэты маслак я ўжо грыз учора!..”

Абурэнню не было межаў. Хуткія на расправу гадкі адразу ўцямілі, што не бачкавы

пісьменнікаў, празаікаў і крытыкаў...”

“...да мы вас, с-с-с...”

“...слаўны такі, уважлівы...”

“...абражае гэтая навуковасць нашую сялянскую чытацкую аўдыторыю...”

“...жанчына нясе ў сабе чысціню, святло дабрыні, чаго няма ў мужчынскай...”

“...дзякуй Богу, хоць капыт нейкі ўварваў, будзе...”

“...дачакаецеся, старыя жмінды...”

“...цэкоўцы...”

“...усе мы, бясспрэчна, *сталі на плячах Кірылы Тураўскага*...[7]”

“...дапускаць да выхавання моладзі нацыяналюг...”

“...радыё “Свабода”...”

“...во ў мудакоў *жызня*...”

“...літаратура эпохі культурнага выбуху, між тым...”

“...а я й нішчымніцы пад’ямо...”

“...зайздроснае стварэнне...”

“...і тут выперся са сваёю *народнасцю*...”

“...грабе і грабе, не глядзі, што...”

“...*мэрон* я пісаў для сваёй жонкі...”

“... ды што ж гэта – падхвосціцу мне, чалавеку, які...”.

“...у камітэт, у адміністрацыю...”

“...на сметніцу ўсіх гэтых савецкіх, учарашні друз...”

вінаваты. Кок – злыдзень! Ён варыў адны і тыя ж маслакі па некалькі разоў і на гэтым эканоміў. А за гэтую "маслаковую" эканомію атрымоўваў далікатэсы: шакалад, цукеркі, тараньку[3] звыш нормы. Канешне, тыя далікатэсы на матроскія сталы не траплялі. Адным словам, не пашэнціла коку, выхадцу з Сярэдняй Азіі, што адна і тая касціна трапіла таму ж гадку.

Яго ўмомант выцягнулі з камбуза, быццам чарвяка з нары, і, не зважаючы на ўмольныя крыкі, шпурлянулі за борт у мора. Кок плаваць не ўмеў, і млявую марскую цішыню ўскалыхнуў пісклявы енк. Вахтаваму нічога не заставалася, як выканаць свой абавязак – сыграць трывогу і абвясціць па селектарнай сувязі: "Чалавек за бортам!" Звычайна маракі загады выконваюць бягом, а тут ледзь перасоўваюць ногі, быццам і не чуюць ляманту. Загад "Шлюпку на ваду!" мічману[4] давялося паўтарыць некалькі разоў. Ніхто не кінуў коку нават выратавальнага круга. Крычаў ён доўга і, канешне, добра-такі насёрбаўся салёнай вадзіцы, пакуль яго выцягнулі на палубу.

Камандзір карабля, убачыўшы кока ў моры і марудныя,

"...выкінуць, выкінуць з чаргі..."

"...капаюць, рыюць, дзяруць з-пад яго крэс..."

"...эканомія сродкаў паэтычнай выразнасці ставрае..."

"...ой-вой-вой! Куды, куды!.."

"*...сытуацыя каровы* цалкам усведамляецца чалавекам, але не ўсведамляецца каровай[8]..."

"...на гэты раз не пашчасціла..."

"...і ўсё ж такі быў Дастаеўскі беларускі нацыяналіст..."

"...а ён давай з-за кратаў лісты слаць..."

"...з галавою – у творчасць..."

"...дайце ж хоць нагу ўціснуць, эліта..."

"...не паспеем, мабыць, сёння, заўтра зноў..."

"*...псіхі грэбаныя мы*[9]..."

"...хадзем, з гора, *рукапісы пачытаем*..."

"...намурзаўся ўжо..."

"...геній..."

"...высноўваецца тканіна мастацкага..."

"...хачу, ты ведаеш, пакінуць след у гісторыі..."

"...хадзіў у Літфонд, прасіў..."

"...зайшла, постмадэрніст, а ў чарзе як *настаяшчы* хоча..."

"...сам сабе праб'е дарогу..."

"...парадку няма – аб'яднацца з кім-небудзь, ці што..."

недакладныя дзеянні выратавальнай каманды, спярша разлаваўся, але, даведаўшыся аб прычыне незапланаванай трывогі, пару—тройку разоў мацюкнуўся дзеля прыліку і памякчэў. Потым загадаў прынесці сваю місу з недаедзеным супам і доўга на сонцы разглядаў, круціў у руках свой маслак, пэўна, шукаючы на ім чужыя зубы.

"...каму бацька, а каму — айчым..."
"...ш-шківіца, ж-жаража, выпала..."
"...страта магістральнай лініі прывядзе беларускую літаратуру..."
"...не наступіце!.."
"...*зона*, адным словам..."
"...згадзела..."
"...тае вечнасці..."
"...а што далей?.."
"...мае ж вы ж-жубкі..."

**Даведнік:**

[1] *Маслак* — тут: сімвал далучанасці да эзатэрычных ведаў пра тое, як найлепш уладкавацца ў жыцці.

[2] *Кок* (англ. *cook*, гал. *kok)* — кухар, чыя пранырлівасць абмежаваная хранатопам карабля.

[3] *Таранька, заалаг.* — сушаная рыба; sapienti, як кажуць, sat.

[4] *Мічман* — прапаршчык, які ўмее плаваць.

[5] *Абортная камісія* — злёгку завуаліраваная адсылка да "Запісак Самсона Самасуя" А. Мрыя.

[6] *Ш-штруктурыраванне* — беларуская арыгінальная транскрыпцыя зацяганага структуралістамі, постструктуралістамі, дэканструктывістамі і постмадэрністамі тэрміна *структурыраванне*. На "старых" літаратараў, у адрозненне ад "новых" (класіфікацыя А.М. Федарэнкі, за тлумачэннямі звяртацца да яго. — ***Аўт.***), дзейнічае як алерген.

[7] *"...усе мы стаім на плячах Кірылы Тураўскага..."* — амаль дакладная цытата з артыкула крытыка — "студэнткі БДУ" (гл. часопіс "Маладосць" за апошніх гадоў пяць).

[8] *"...сытуацыя каровы..."* —абсалютна дакладная, хаця і няпоўная цытата з "Неадказаных пытаньняў" С. Дубаўца — твора ў жанры "інфантыльнага снабізму", паводле вызначэння самога аўтара, іх многа ў ягонай кнізе "Дзёньнік прыватнага чалавека" (Менск, БГАКЦ, 1998).

[9] *"...псіхі грэбаныя..."* — лейтматыў рамана Ю. Станкевіча "Любіць ноч — права пацукоў", а таксама кантрапункт разважанняў беларускай творчай інтэлігенцыі пра сучаснасць.

*Працяг ёсць.*



## Таццяна КОПЫЦЕВА

### МОРА

Калідорам маленькіх вуліц
Юрмалы, дзе штармавы вецер
сыпаў пясок у вочы
і не пускаў наперад,
мы рухаліся марудна
паміж двума крокамі – вечнасць

Як цяжка ісці да мора!

Купаліся радасна чайкі
у ветры, і шэрыя хвалі
глыталі спалоханы бераг,
і я адчувала: праз вочы
колеру неба хвалі
пераліваюцца ў сэрца

Як цяжка глядзець на мора!

Лабірынтам ціхіх завулкаў
мы вярталіся ў горад, і вецер
цяпер нас штурхаў у спіну,
пасля ва ўтульнай кавярні,
дзе елі шашлык гарачы,
мы з твараў пясок выціралі

Як цяжка забыцца на мора!

Ноч. У трубе вадасцёчнай
дождж спявае вясновы,
шэрыя хмары – як хвалі
і такія ж бурныя. Сэрца
чайкаю белай імкнецца
ў бяздонна-чорнае неба

Ці можна вярнуцца да мора?



# Анатоль ДЭБІШ

*Сумнае відовішча – жыццё,*
*але што лепшае ёсць на свеце?*

# Усё гэтак проста

*Імгненныя ўражанні*

Люблю чорны колер, на ім лепш бачыш белае.

Існае жыццё тое, якога ты не ведаеш.

Няма горшага глупства, чым усведамляць яго.

Прызнаўся ў каханні – як пасадзіў сябе ў клетку, каб потым усё жыццё спяваць адну і тую ж песню.

Усё паўторыцца пасля мяне, толькі пад іншым імем, як паўтараюцца дзень і ноч.

Чым большая поўсць – тым больш блох.

Пайшла ў манастыр, каб усё жыццё думаць пра каханне.

Харошы чалавек не помніць, каму пазычыў грошы.

Сніцца адно і тое ж – вучуся хадзіць.

Па асфальце начнога горада крокамі пішу аўтабіяграфію.

Каб чалавек змог, ён даўно б засадзіў за краты нават Бога.

Адзінокі – сярод натоўпу.

Сумнае відовішча – жыццё, але што лепшае ёсць на свеце?

Тысячу разоў памыляюся, каб памыліцца ў тысяча першы раз.

Самагубства – не самы ганебны спосаб пакончыць з жыццём, ганебней жыць, усведамляючы бессэнсоўнасць свайго існавання; у адрозненне ад нас, гэта добра разумее матылёк, што ляціць на святло.

Прывыкаем да чужога болю, самоты, смерці – ніяк не можам прывыкнуць да сваёй.

Белая лілея, па шыю ў вадзе – просіць піць.

Скардзяцца, што я змяніўся, але і поўня напрыканцы месяца становіцца маладзіком.

Ява – толькі сон, які заканчваецца з надыходам смерці.

Смешна глядзець на маленькае парася, якое імкнецца вырыць з лужыны сонца.

Мулка спаць на пярыне сварлівай цешчы.

У сутонні збалелай душы сонца ўзышло.

Няма маленькіх людзей – ёсць маленькія ўчынкі.

Лета папярхнулася дажджом.

Нават п'янтосу зразумела, што зямля кружыцца.

Спіць на плячы маім ноч – з чорнымі валасамі і блакітнымі, як зоры, вачыма.

Скардзімся на адсутнасць увагі, яшчэ больш – на яе празмерную прысутнасць.

 



Камяні вырастаюць з маўчання.

Часу не хапае зірнуць на гадзіннік.

Смерць – гэта не кропка, на якой заканчваецца чалавечае існаванне, гэта пачатак круга, які будзе ўсё расшырацца і расшырацца, каб вырасці да памераў неба, да памераў бясконцасці.

Я кажу "люблю" маці, жанчыне, сябру. Але я люблю не іх саміх, а люблю іх у сабе, бо яны сталі неад'емнай часткай майго "я", як паветра і хлеб, як неба і зямля.

Як бессаромна-паволі дзень распранае ноч!

Эгаіст не той, хто жыве для сябе, эгаіст той, хто жыве за кошт іншых.

Прастудзіў ногі, а баліць галава.

Мой сапраўдны голас там, куды завітала рэха.

Мяне не хвалюе, што будзе са мною заўтра, мяне хвалюю, што было са мною ўчора.

Спаць на воблаку вельмі прыемна, толькі страшнавата, каб не занесла яно цябе за небакрай.

Праўда, як і сабака, кусаецца; толькі абыякавасць бяззубая.

Бярыце мой дом, мае грошы, мой хлеб, але не забудзьцеся і маё гора, боль і самоту.

Пра што б я ні пісаў – я пішу пра сябе, каго б я ні любіў – я люблю сябе, з кім бы я ні жыў – я жыву толькі з самім сабою.

Чалавек – гэта гучыць горка.

 

Не хваліцеся сваёй пасадаю. І пень некалі быў бярозай.

На кроснах дажджу прадзе дзень самоту.

Чым меншы агонь – тым больш хочацца цяпла.

Позна не бывае ніколі – нават памерці.

Не самая горшая жанчына, якой пагарджаюць, значна горшая – якая пагарджае вамі.

Куды? Навошта? Ці не ўсё роўна – абы ісці: як па дрэвах сок, як снег, як навальніца.

Вярнуць не прашу я ў Бога каханне, як і тваёй маладосці, я прашу не адымаць ілюзію маладога кахання.

Выяўляем чужыя грахі, каб за імі схаваць свае.

За чорным вэлюмам мораку – хавае ноч сваю самоту.

Часта азіраючыся назад, можна зачапіцца за камень перад сабою.

Бог, мабыць, і даў нам смерць, каб мы не паспелі расчаравацца ні ў ім, ні ў жыцці.

"Кахай мяне!" – шэпча жанчына, вытрасаючы з тваёй кішэні грошы.

Прачнуўся, каб за дзённаю працаю забыцца яшчэ большым сном.

Сон спазняецца на спатканне – не стану чакаць.

Шурпатым языком туман ліжа снег.

Думаць пра вечнасць – як прасіць у галодных хлеба.

Чым больш пішу вершаў – тым менш іх застаецца.

Справа не ў тым: змог бы я ці не? Справа ў тым – варта ці не?

І да смерці можна прывыкнуць, як сабака да ланцуга.

"Папа Карла" столькі разоў паўтараў Бураціну, што ён драўляны, што Бураціна і сапраўды адзеравянеў.

І праз крывое шкло можна ўбачыць яву.

Першы снег – жаночая цнота перад грэхападзеннем.

Самая вялікая авантура жыцця – нараджэнне.

Забыццё пачынаецца з надакучлівасці.

Вар'ят – цвярозы аналітык.

Лёткакрылы вусень кратае аблокі.

Любоў да сябе не эгаізм, а спроба самапазнання.

Кожны бачыць тое, што жадае.

Ідзе снег – нявеста скідвае вэлюм.

Пра мяне можна сказаць адно: "Нехта".

Зноўку мае раяцца думкі.

Першы вясновы гром, гарэзлівы крык дзіцяці.

Маршчыны, барозны нерушы.

О, якое цяжарнае неба.

Вецер грукоча ў шыбу, слухаю цішыню.

Праз сіта адзіноты прасяваю змрочныя думкі.

На дне кубка з гарбатай прытаілася мая смага.

Непрыгожага на свеце не бывае, непрыгожымі бываюць нашы думкі.

Не спяшаюся жыць – баюся прамінуць жыццё.

Веснія краскі, плады кахання.

Абсурд – шлях да ісціны.

За чорнай фіранкай – чорны свет.

Каб даказаць сваё існаванне – трэба памерці.

Мяне так шмат, што не памяшчаюся ў абалонку цела.

Юрлівасць – дамова аб здрадзе душы і цела.

Толькі нарадзіцца – яшчэ мала, прагну нараджацца яшчэ і яшчэ.

І для жонкі трэба быць каханкам, хаця б у ложку.

Абыякавасць – не памылка выхавання, абыякавасць – сродак выжывання.

Я ведаю дакладна, што жыву: пакуль пішу променем сонца, пакуль гавару малітву перуноў, пакуль крочу над безданню і мой шлях упіраецца ў небасхіл вечнасці.



## Юры ЧАРНЯКЕВІЧ

***

Цемра корпацца любіць
У вогнішчах і папялішчах –
На забыццё яна дзьме
Ды на попел, што стаўся зямлёю.
Я ж святкую зару перамогі
На слынных капішчах.
П'ю крывавыя віны
З бутэлек празрыста-зялёных...

## Шаноўны чытач!

Калі ты, прачытаўшы наш часопіс, упэўніўся, што ён ***твой***, то, як бы ні было цяжка, дапамажы нам і сабе – падпішыся на яго, каб быць з намі адным непарыўным цэлым у кантэксце гістарычнага і сучаснага нацыянальнага жыцця беларусаў.

Шчыра дзякуем за разуменне і падтрымку.

Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на ~~газету~~ / часопіс **74824** (індэкс выдання)

**КРЫНІЦА** (назва выдання) | Колькасць камплектаў

На 2000 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

---

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА** на ~~газету~~ / часопіс **74824** (індэкс выдання)

| | | |
|---|---|---|
| | | |
| ПВ | месца | літар |

**КРЫНІЦА** (назва выдання)

| Кошт | падпіскі | руб.___кап. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб.___кап. | |

На 2000 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

## Шаноўны чытач!

Калі ты, прачытаўшы наш часопіс, упэўніўся, што ён ***твой***, то, як бы ні было цяжка, дапамажы нам і сабе – падпішыся на яго, каб быць з намі адным непарыўным цэлым у кантэксце гістарычнага і сучаснага нацыянальнага жыцця беларусаў.

Шчыра дзякуем за разуменне і падтрымку.

# ДА ЎВАГІ ПАДПІСЧЫКА!

**Адпаведна дагаворам, заключаным з рэдакцыямі (выдавецтвамі), пры афармленні падпіскі прадпрыемствы сувязі ажыццяўляюць пасрэдніцкія паслугі па распаўсюджванню і дастаўцы, таму за нявыхад, несвоечасовы выхад з друку газет і часопісаў адказнасць перад падпісчыкам нясе рэдакцыя (выдавецтва).**

**Праверце правільнасць афармлення абанемента, на абанеменце павінен быць пастаўлены адбітак касавай машыны. Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце ставіцца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).**

---

Для афармлення падпіскі на газету ці часопіс, а таксама для пераадрасоўкі выдання бланк абанемента з картачкай дастаўкі запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, у адпаведнасці з умовамі каталога.

Запаўненне месячных клетак пры пераадрасоўцы выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" выконваецца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.